

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

**Address:** P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

**BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World.** Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

**№ 487 Жнівень 2003 г.** Год выданьня 53

## Паседжаньне Прызыдыюму Рады БНР

У суботу 19-га ліпеня ў Гайленд Парку, Нью Джэрзі, прайшло паседжаньне Прэзыдыюму Рады БНР. Началося яно з хвіліны маўчаньня ў памяць Васіля Быкава. Потым сябры Прэзыдыюму абмеркавалі пытаньні, зьвязаныя з працай камісіі ў справе ўшанаваньня памяці вялікага пісьменьніка.

Асноўны час быў прысьвечаны ўнутраным справам Рады, такім як сяброўства ў Радзе ды падрыхтоўцы чарговай сэсіі Рады БНР. Чарговая сэсія прызначаная на 25-26 кастрычніка сёлета. Радныя таксама абмяркоўвалі палітычную сытуацыю ў Беларусі ў сувязі з імкненьнем Лукашэнкі падоўжыць свае прэзыдэнцкія паўнамоцтвы праз рэфэрэндум і палітыку душэньня палітычнай апазыцыі, свабоды слова і беларускасьці. Прэзыдыюм прыняў рашэньне распаўсюдзіць зварот да ўрадаў заходніх краін у сувязі са зьнішчэньнем рэжымам Лукашэнкі беларускага школьніцтва і закрыцьцём адзінага нацыянальнага беларускага ліцэю.

Зь іншых пытаньняў Радныя таксама абмеркавалі магчымасьці далейшага ўплыву на палітыку ЗША ды іншых заходніх краінаў у дачыненьні да рэжыму ў Беларусі. Адным з наступных крокаў сябраў Рады, што ёсьць грамадзянамі ЗША, будзе сустрэча з новапрызначаным паслом ЗША ў Беларусь Джорджам Кролам перад ягоным ад'ездам у Беларусь.

Прэзыдыюм Рады вырашыў стварыць камісію, якая займецца інвэнтарызацыяй усіх архіваў Рады БНР, у тым ліку прыватных. Узначаліў камісію д-р Вітаўт Кіпель.

## Заява Рады БНР
### у справе беларускага школьніцтва



Нядаўна стала вядома пра закрыцьцё Нацыянальнага Гуманітарнага Ліцэю імя Якуба Коласа, адзінага цалкам беларускага адукацыйнага асяродку ў Беларусі. Дзеяньні пануючага рэжыму ў адносінах да беларускага школьніцтва адлюстроўваюць усю сутнасьць анты-нацыянальных сілаў, што сёньня знаходзяцца пры ўладзе ў Беларусі.

Колькасьць беларускіх школаў складае сёньня менш за чвэрць ад агульнай колькасьці ўстановаў пачатковай і сярэдняй адукацыі, і працягвае зьніжацца. Пад прэтэкстам "аптымізацыі" рэжым пляпуе радыкальна зьменшыць лік вясковых беларускіх школаў.

Зьмест беларускамоўнай адукацыі таксама вынішчаецца - многія школы застаюцца беларускімі толькі на паперы, беларуская мова выціскаецца з адукацыйнага ўжытку, выкладаньне прадметаў вядзецца пераважна па-расейску.

Вучні, што жадаюць працягваць вучыцца па-беларуску, не маюць магчымасьці рабіць гэта. Намерам бацькоў, што хочуць даць дзецям беларускамоўную асьвету, ствараюцца перашкоды. Канстытуцыйнае і чалавечае права асобы атрымліваць адукацыю ў дзяржаўнай мове цынічна парушаецца структурамі й асобамі, якія абавязаны забясьпечваць гэтае права.

Цалкам адсутнічае дзяржаўная сістэма беларускай вышэйшай адукацыі. Структуры беларускай філялёгіі пры ўстановах вышэйшай адукацыі ў Беларусі зрабіліся рэзэрватамі беларускасьці, і пры сёньняшніх умовах ня маюць пэрспэктывы. Незалежныя ўстановы вышэйшай адукацыі, што насьмельваюцца ўводзіць беларускамоўныя курсы, церпяць ад перасьледу.

Усё вышэйсказанае паказвае, што існуючы ў Беларусі рэжым ня проста ігнаруе патрэбу беларускамоўнай адукацыі, але адкрыта змагаецца супраць яе. Дзеяньні рэжыму ў галіне адукацыі ёсьць ня што іншае, як палітыка вынішчэньня культурных традыцыяў і гістарычнай памяці беларускага народу. Гэта ёсьць палітыка этнацыду ў дачыненьні да людзей, ад чыйго імя імкнуцца выступаць сёньняшнія ўлады ў Беларусі.

Этнацыд у Беларусі паказвае, што рэжым Лукашэнкі ня бачыць будучыні для беларускай культуры і адукацыі, што ён зрабіў стаўку на асыміляцыю беларускага грамадзтва ў расейскамоўны асяродак дзеля сваіх уласных палітычных і матэр'яльных выгодаў.

Рада БНР лічыць дзеяньні ўладных структураў Рэспублікі Беларусь у галіне беларускамоўнай адукацыі злачынствам супраць беларускага народу, парушэньнем правоў чалавека і прынцыпаў гуманнасьці.

Рада БНР зьвяртаецца да беларускіх людзей з заклікам патрабаваць беларускамоўнай адукацыі для сваіх дзяцей улучна з вышэйшай адукацыяй, аддаваць дзяцей у беларускія школы, маральна падтрымліваць вучняў і настаўнікаў у існуючых беларускіх школах, супрацьстаяць спробам перапрафіляваньня або закрыцьцця беларускіх школаў.

Рада БНР заклікае усе ўрады і арганізацыі сьвету выказаць сваё стаўленьне да этнацыду ў Беларусі, аказаць ціск на сёньняшні рэжым у Беларусі дзеля спыненьня ліквідацыі беларускага школьніцтва.

*Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла*

## Тыдзень Паняволеных Народаў у Нью Ёрку

У нядзелю, 20-га ліпеня, прайшла першая імпрэза Тыдня Паняволеных Народаў - Марш і афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня. Тыдзень Паняволеных Народаў праводзіцца ў 45-ты раз дзеля прыцягненьня ўвагі амэрыканскага грамадзтва да лёсу краінаў, якія пакутуюць ад камуністычных і квазі-камуністычных дыктатураў. Тыдзень арганізаваны Камітэтам Паняволеных Народаў, які быў створаны прадстаўнікамі арганізацыяў эмігрантаў з Усходняй Эўропы дзеля каардынацыі дзеяньняў і супольнага змаганьня супраць савецкай камуністычнай навалы, што апанавала іхныя краіны. Актыўны ўдзел у дзейнасьці Камітэту бяруць і беларускія арганізацыі. Правядзеньне Тыдня Паняволеных Народаў было ўсталявана адмысловым законам, прынятым Кангрэсам ЗША ў 1959-м годзе.

Сёлета да Тыдня прэзыдэнтам ЗША Дж. Бушам і мэрам Нью Ёрку М. Блумбэргам былі прынятыя праклямацыі, якімі тыдзень з 20-га па 27-га ліпеня гэтага году абвешчаны Тыднем Паняволеных Народаў ва ўсіх Злучаных Штатах Амэрыкі й у горадзе Нью Ёрку. У праклямацыі прэзыдэнта Дж. Буша, між іншага, гаворыцца: "Падчас Тыдня Паняволеных Народаў, упершыню прайшоўшага ў 1959-м годзе як пратэст супраць камуністычнай дамінацыі ва Ўсходняй Эўропе, Амэрыка выказала сваю адданасьць свабодзе і дэмакратыі. Цяпер, у той час, як шматлікія краіны падтрымліваюць гэтыя прынцыпы, мільёны людзей надалей жывуць пад уладаю рэжымаў, якія штодзённа парушаюць правы сваіх грамадзянаў." Прэзыдэнт Дж. Буш адмыслова ўзгадаў Беларусь, дзе "аўтарытарны ўрад перасьледуе палітычных апанэнтаў". "Але справа свабоды пашыраецца. Злучаныя Штаты заяўляюць аб працягу супрацоўніцтва з усімі, хто імкнецца дасягнуць мірных дэмакратычных зьменаў і шанаваньня правоў чалавека ў сваіх краінах".

У праклямацыі мэра М. Блумбэрга гаворыцца: "Як найбольш разнастайны горад у сьвеце, мы застаемся паходняй надзеі для людзей па ўсім сьвеце, што натхняюцца, бачачы ў дзеяньні нашыя дэмакратычныя прынцыпы ў сталіцы сьвету. Нью ёркаўцы

*Заканчэньне на бач. 7*



*Удзельнікі параду праходзяць па Цэнтральнаму Парку.*

# Чэхі за свабодную Беларусь

У Сэнаце Чэскай Рэспублікі 24-га чэрвеня адбылася прэс-канфэрэнцыя, прысьвечаная заснаваньню ягонымі сябрамі камітэту "За свабодную Беларусь". Асноўнымі задачамі камітэту зьяўляюцца: збор фактаў для інфармаваньня ворганаў Эўрапейскага Зьвязу аб парушэньнях правоў чалавека ў Беларусі; апэратыўнейшае рэагаваньне чэскіх уладаў на гэтыя парушэньні праз дыпляматычная каналы, дапамога беларускай апазыцыі. Заснавальнікамі зьяўляюцца такія вядомыя чэскія палітыкі як Ян Румл, Даніэл Кроўпа, Марцін Мейстржык, Іржы Лішка ды Эдвард Оўтрата. Дэклярацыю камітэту падпісала ўжо больш за 50 чэскіх сэнатараў і парлямэнтароў.

Усе яны ў гэтую гарачую летнюю пару, напоўненую дэбатамі аб фінансавай рэформе краіны, знайшлі час, каб адказаць на пытаньні журналістаў і звычайных грамадзянаў, якіх хвалюе палітычная сытуацыя ў Беларусі.

Так, па словах адной з ініцыятарак камітэту Натальлі Маковік, якраз напярэдадні прэс-канфэрэнцыі ворганы бясьпекі арыштавалі трох актывістаў Маладога Фронту, якія распаўсюджвалі ў Менску ўлёткі з надпісамі "Я люблю Беларусь" і нацыянальнымі бел-чырвона-белымі колерамі. Такія факты ў Беларусі, нажаль, ужо даўно сталі звычайнымі.

Сэнатары ў кароткіх заявах нагадалі, што для іх, як і для іншых эўрапейцаў, якія даўно і ўважліва сочаць за падзеямі ў Беларусі, 27-га ліпеня 1991-га году быў і застаецца нацыянальным сьвятам Беларускай незалежнасьці. Стварэньне камітэту якраз было прымеркаванае да сьвяткаваньня сёлетняй 12-ай гадавіны гэтай падзеі.

Удзельнікі камітэту знаёмыя зь беларускай сытуацыяй непасрэдна. Даніэл Кроўпа, напрыклад, быў назіральнікам на выбарах у Беларусі й асабіста зафіксаваў спробу махлярства з боку ўладаў. Ян Румл, былы міністар унутраных справаў, ведамы сваім удзелам у дэманстрацыях беларускай апазыцыі, быў незалежным назіральнікам на палітычных судовых працэсах. Сэнатар выказаў сваё меркаваньне аб законе, які зараз распрацоўваецца Аб палітычных партыях, сказаўшы, што "гэта будзе новы магутны ўдар па беларускай апазыцыі з боку таталітарнай дзяржавы". Ён таксама разьвесяліў прысутных, прыгадаўшы некаторыя вулічныя лёзунгі зь менскіх дэманстрацыяў пратэсту, напрыклад "Беларусь у Эўропу, Лукашенка - у ..."

Марцін Мэйстржык, у сваю чаргу, параўнаў сёньняшнія рэпрэсіі ў Беларусі з падзеямі ў Чэхіі ў 1989-м годзе, калі камуністычная паліцыя жорстка разагнала групу студэнтаў за тое, што яны сьпявалі дзяржаўны гімн Чэхаславаччыны.

Ад імя беларусаў выказаў сваю падзяку сэнатарам і пажаданьні плённай працы ў камітэце Аўген Сідорык, Старшыня Зьвязу Беларусаў Замежжа.

Стварэньне камітэту актыўна падтрымаў Вацлаў Гавел, які ня змог прысутнічаць, бо знаходзіўся ў ЗША, але прыслаў тэлеграму, у якой выказаў сваю падтрымку.

Падтрымку выказалі й звычайныя грамадзяне. Доктар Ян Странскі, былы чэскі дысыдэнт вывесіў з вакна свайго дому ў цэнтры Прагі бел-чырвона-белы сьцяг і запрасіў усіх беларусаў адсьвяткаваць Дзень Незалежнасьці ў сваім вячэрнім клюбе. Ён выказаў спадзяваньне, што сёлетнія мерапрыемствы стануць у Празе традыцыйнымі.

***А. ГАЙДАМАЦКІ***
***Менск-Прага***



*На здымку (справа налева): сэнатар Ян Румл, сэнатар Даніэл Кроўпа, сэнатар Эдвард Оўтрата, сэнатар Іржы Лішка, мэнаджэр праекту Натальля Маковік, д-р Ян Странскі, Старшыня "Зьвязу Беларусаў Замежжа" Аўген Сідорык.*

# Пікет у Бэльгіі

У панядзелак 7-га ліпеня ў Ратэрдаме перад уваходам у "Grote Zaal de Doelen", дзе праходзіў саміт АБСЭ, адбыўся пікет, зарганізаваны дзвюма беларускімі арганізацыямі ў Бэльгіі: Беларускім Цэнтрам (старшыня Ігар Лазарчук) і Беларуска-Эўрапейскім Згуртаваньнем (старшыня Зьміцер Піменаў).

У пікеце ўзялі ўдзел каля 30 чалавек з Бэльгіі й Галяндыі. Яны трымалі ў руках нацыянальныя сьцягі, плякаты й партрэты згінуўшых палітыкаў і журналістаў. Пікет працягваўся больш за гадзіну з дазволу мясцовай паліцыі, якая з разуменьнем паставілася да беларускіх праблемаў. Пікетоўцы сустракалі дэпутатаў і раздавалі справаздачу ААН па парушэньню правоў чалавека ў Беларусі за 2002-2003 гады.

Дэлегацыя з лукашэнкаўскай "палаткі" з-за таго, што па Беларусі была прынятая жорсткая заява, пакінула сустрэчу на дзень раней. Ім, нажаль, удалося пазьбегнуць таго "цёплага" прыёму, які ім рыхтавалі пікетоўцы.

Да пікетоўцаў далучыліся прадстаўнікі беларускай апазыцыі Анатоль Лябедзька, Вінцук Вячорка і дэпутут "палаткі" ад групы "Рэспубліка" Сяргей Скрабец. Яны ад імя сваякоў зьнікшых палітыкаў выказалі падзяку ўдзельнікам пікету за спачуваньне іхняму гору.

Не абыйшлося і без кур'ёзаў: адзін з дэлегатаў саміту так заглядзеўся на плякат "Расея! Спыні падтрымку рэжыму Лукашэнкі!", што згубіў раўнавагу і з характэрным выгукам паваліўся на асфальт. Пікетоўцы адразу пазналі ў ім аднаго з расейскіх дэпутатаў.




*Пікет ў Ратэрдаме ля залі паседжаньняў саміту АБСЭ.*

# Беларусь прыцягвае ўвагу гэбрайскай грамады Амэрыкі

Апошнім часам у амэрыканскім друку і навінах у сеціве зьявілася некалькі публікацыяў пра стан гэбрайскіх могілак, будынкаў сынагогаў ды іншых аб'ектаў гэбрайскай гістарычнай і культурнай спадчыны ў Беларусі. У прыватнасьці, закранался пытаньне пашырэньня стадыёну "Нёман" ў Горадні, збудаванага за Саветамі на зруйнаваных могілках, калі на паверхню былі вывернутыя косьці й чалавечыя рэшткі з існаваўшых раней пахаваньняў, а таксама правядзеньня паўторных пахаваньняў на існуючых гэбрайскіх могілках у Магілёве.

Напачатку ліпеня амбасада Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне ў адказ на шматлікія звароты выдала заяву, што горадзенскія ўлады працуюць у цесным кантакце зь мясцовай гэбрайскай грамадой для вырашэньня праблемы. Але сытуацыя не палепшылася. У выніку актыўнасьці амэрыканскай гэбрайскай грамады больш за 20 амэрыканскіх кангрэсмэнаў і сэнатараў зьвярнуліся днямі да ўраду Беларусі ў асобе А. Лукашэнкі з заклікам спыніць працы на месцы могілак у Горадні. Тэкст ліста па дадручэньні групы быў падрыхтаваны кангрэсмэнам Энтані Вайнарам зь Нью Ёрку.

Шэраг амэрыканцаў беларуска-гэбрайскага паходжаньня заклікаў сваіх сэнатараў і кангрэсмэнаў падтрымаць Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі-2003.

У іншай якасьці цікавасьць да Беларусі выявілася на Міжнароднай канфэрэнцыі па гэбрайскай генеалёгіі, што прайшла ў Вашынгтоне ў канцы ліпеня. На канфэрэнцыі адбылася нарада Спэцыяльнай групы па Беларусі (Belarus Special Interest Group), што аб'ядноўвае праз сеціва больш за 1500 асобаў, зацікаўленых у досьледзе сваіх каранёў у Беларусі. На нарадзе з дакладам "Рэгіянальная і часавая спэцыфіка пэрсанальных генеалягічных досьледаў у Беларусі" выступіў запрошаны з Менску навуковец Алег Перзашкевіч, выкладчык Беларускай Палітэхнічнай Акадэміі й Белдзяржуніверсытэту. На працягу апошніх 5 год сп. А. Перзашкевіч прадстаўляў для Спецгрупы Беларусь каштоўныя гістарычныя дадзеныя пра беларускае гэбрайства і сьпісы імёнаў, што былі зьмешчаныя на старонцы групы ў сеціве, ён таксама праводзіў у архівах Беларусі прыватныя генеалягічныя досьледы на замовы сябраў групы й суправаджаў іх у паездках па Беларусі.

Старонку Спецгрупы на Беларусі пры Гэбрайскай Генеалягічнай Асацыяцыі можна знайсьці ў сеціве пад наступным адрасам: **http://www.jewishgen.org/Belarus**

***Віталь ЗАЙКА***

# Закрылася беларуская царква

У газэце "Chicago Tribunie" 20-га ліпеня было паведамленьне аб тым, што у канцы ліпеня адбылася апошняя Багаслужба ў чыкагскай беларускай грэка-каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы. Пасьля гэтага будынак быў перададзены для карыстаньня рыма-каталіцкай місіі Сьв. Пятра і Паўла.

Царква была адкрытая ў канцы 1950-х гадоў беларускімі грэка-каталікамі, якія, уцякаючы ад камуністаў, знайшлі прытулак на амэрыканскай зямлі ў Чыкага. Каб абслугоўваць парафіянаў, якія не разумелі беларускай мовы ў пачатку 1960-х гадоў у Літургію была ўведзена таксама і ангельская мова. Кіраваў царквою біскуп Уладзімер Тарасэвіч, потым яго замяніў а. Джон Макдонэл. Грэка-каталіцкая грамада ніколі не была вялікаю, і пасьля згасаньня актыўнасьці ў апошнія гады рыма-каталіцкая дыяцэзія ў Чыкага вырашыла закрыць гэтую парафію.

У часы найбольшай актыўнасьці да парафіі належала больш за 80 сем'яў, а ў апошнія гады заставалася ўсяго каля 20 вернікаў. Адна з старэйшых прыхажанак царквы спн. Вера Рамук сказала. што царква дапамагла людзям захаваць сваю культуру і традыцыі, але шмат хто зь вернікаў пераехалі ў іншыя штаты, паўміралі, хварэюць і ня могуць наведваць Багаслужбы.

# Будзе нам утульным канадыйскі "пэчуорк"

А ў Канадзе скончыўся сэзон дажджоў, ...і пачаўся сэзон фэстываляў.

І вось ужо ўзмываюць у неба кітайскія языкатыя цмокі, імчаць навыперадкі філіпінскія шматвёсельныя чоўны, маршыруюць галаногія шатляндцы ў клятчастых спадніцах, думдзяць афрыканскія барабаны, скочуць у бразільскай румбе таронтаўцы...

Фальклёрна-этнічныя фэстывалі сталі ня проста характэрнай асаблівасьцю Канады. Шматнацыянальная яе сутнасьць нагадвае тутэйшую стракатую коўдру "пэчуорк", ва ўзоры якога кожны этнас займае сваё адметнае месца. Гарманічны, дысцыпліны нашу стыхійную, неарганізаваную групу энтузыястаў (трэба сказаць, усе з радасьцю аддалі ёй пальму адказнасьці).

Часу для рэпэтыцыяў бракавала. Затое імпэту колькі было! ...На лужайку перад гледачамі, мінаючы адмыслова падрыхтаваную сцэну зь мікрафонамі (бо яна не ўмясьціла-б нас усіх), мы выйшлі, лічы, усёй суполкаю, зь дзецьмі й старэйшымі, у зробленых на хуткую руку строях і зь бел-чырвона-белымі сьцягамі...

Посьпех быў настолькі ашаламляльны, што цяпер мы маем адмысловыя запросіны для ўдзелу ў фэстывалі ад яго арганізатараў.

рак. Штотыдня людзі сустракаюцца, гутараць, гуртуюцца, справы робяцца, жыцьцё ідзе.

З таго часу гурт зьмяніў амаль увесь ягоны склад, цяпер бальшыню ўдзельнікаў складае моладзь, што вельмі радуе. Сьпяваючыя і несьпяваючыя юнакі й дзяўчаты цягнуцца да гурта, як матылі да сьвятла, а з тым уліваюцца ў жыцьцё Згуртаваньня. Зьмяніліся, сталі больш дасканалымі строі, стала абнаўляецца рэпэртуар, у які ўваходзяць старыя, нават старажытныя песьні (і дзе Віялета іх толькі знаходзіць!). "Яваровы людзі" ўдзельнічаюць ва ўсіх сьвятах і імпрэзах, што ладзіць Згуртаваньне Беларусаў Канады, езьдзяць з канцэртамі да беларусаў у іншыя гарады.

мудрагелісты арнамэнт! Так прыемна ўсьведамляць, што ў гэтым сусьветным калейдаскопе сваё пачэснае і неад'емнае месца займае і наша беларуская культура. І нам ёсьць што паказаць і чым зьдзіўляць народ.

...Роўна два гады таму Віялета Кавалёва. толькі прыехаўшы ў Таронта, напісала: "Краіна гэта - амаль уся наша плянэта ў мініятуры. Тут ёсьць свой вялікі "Чайнатаўн", шматлікія польскія крамы, украінскія цэрквы, расейскія газэты, габрэйскія дантысты, нямецкія духавыя аркестры й лацінаамэрыканскія карнавалы... Тут няма, на жаль, амаль нічога беларускага, шырока вядомага па-за межамі ЗБК". ...А вось цяпер, праз два гады, газэта "Беларускае слова", што пад яе рэдакцыяй, разыходзіцца з паліцаў украінскіх і расейскіх крамаў у лічаныя дні. А 21-га чэрвеня павезла Віялета сваіх "Яваровых людзей" на фолк-фэстываль аж у Кітчэнэр.

Калі ўжо гартаць хроніку назад, дык можна прыгадаць, што менавіта Кітчэнэр тады. два гады таму, стаў месцам нараджэньня нашага фольк-гурта, а з гэтым і кропкаю адліку ў жыцьці таронтаўскіх беларусаў.

А пачалося ўсё з таго, што дзякуючы асабістым сувязям і намаганьням спн. Вікторыі Ціханоўскай, тамтэйшая расейская суполка запрасіла нас на мясцовы фэстываль і па-сяброўску падзялілася 15 хвілінамі свайго часу для выступу ў канцэрце. На што старшыня ЗБК Надзея Дробіна проста ўсплёснула рукамі: "А што ж паказваць?" Ідэя, праўда, спадабалася, і, як заўсёдны "гэнэратар ідэй", пачала яна шукаць па сусеках таленты: а хто-ж тут у нас іграць-пяяць умее? І так ужо, відаць, было ад самага пачатку задумана Тым, хто мудрэйшы за нас, але менавіта ў гэты час і прыехала Віялета. Чалавек у гэтай справе спрактыкаваны (у Менску сьпявала і нейкі час кіравала калектывам "Майстроўня"), яна пачала неназойліва, але пераканаўча прыводзіць да



Але ў той дзень позьнім вечарам на банкеце, наладжаным сябрамі-расейцамі, усё яшчэ ўзбуджаныя гэтым нечаканым фурорам больш, чым вінoм, мы раптам вырашылі: а давайце зьбірацца штотыдня і сьпяваць! ...І хто мог тады сабе ўявіць, чым гэта ўсё абернецца.

Сьпяваючая група стала ня проста адзінкаю самадзейнасьці. Ва ўмовах, калі таронтаўская парафія страціла сьвятароў, і службы адбываюцца нерэгулярна, яна стала цэнтрам нашых пасядзелак-вячо-



"Віялета, а ці магла ты сабе ўявіць, калі выпраўлялася ў Канаду, чым ты там будзеш займацца?" - "З усяго, што ўяўляла пра Канаду, толькі гэта і адбылося..."

...І вось зноў Кітчэнэр. Усё той жа Victoria Park у цэнтры гораду, тая-ж сцэна. Да пачатку канцэрту публіку забаўляе, як і летась, нямецкі духавы аркестар (горад некалі заснавалі немцы, раней ён называўся Бэрлін). У праграме канцэрту украінцы, грэкі, пуэрта-рыканцы, самалійцы... Нашыя дзяўчаты ў строях адразу прыцягваюць агульную ўвагу. Людзі падыходзяць, распытваюцца, хто мы й адкуль. Нашыя строі, бадай, што самыя прыгожыя, людзі кажуць, што такога ніколі ня бачылі. Гэта яшчэ што!.. А вось і выступ, першы ў праграме. ...Я назіраю за рэакцыяй гледачоў: адкрытыя вочы й рты, на замерлых тварах зьдзіўленьне, захапленьне. Потым пачынаюць адстукваць рытм ногі, пляскаць рукі... Я ўжо ведаю гэтую рэакцыю, гэты першы шок. Сапраўды, зараз акрамя "amazing!" яны нічога больш сказаць ня здольныя.

Але вось словы маіх сяброў-канадыйцаў, якім я часам наладжваю "міні-фэстывалі", даючы праслухаць дыскі зь беларускай фальклёрнай музыкай:

*Сюзан Глёб*: "Калі я ўпершыню пачула музыку Беларусі, я была ашаломленая рэхам барабаннага бою канадыйскіх індзейцаў. Першыя гукі агортваюць тваё сэрца, рытм нарастае, ён падхоплівае тваё сэрца і цябе і нясе на зьяднаньне са страсьцю сьпевакоў... Я заўважаю, што мае сьцёгны рухаюцца, і я чакаю, што вось зараз сьпевакі паведамяць мне нешта патаемнае. Я не разумею слоў, але адчуваю, як гукі гэтыя ўзьнімаюцца з глыбіні зямлі й яны пахнуць агнём. Яны чаруюць мяне... Як можна словамі сказаць, што адчувае маё цела, калі яно ў экстазе?"

*Лінда Вандэр Ступ* (удзельніца індзейскага фольк-гурта): "Па-першае, хачу сказаць, гэта - унікальныя сьпевы. Я-б не сказала, што яны падобныя да індзейскіх, хутчэй мэлёдыка песень падобная да ірляндзкай, як і музычныя інструмэнты. Як сьпявачка, я бачу ўнікальнасьць у надзвычайнай гармоніі галасоў, у гэтым шматслойным спалучэньні мужчынскіх і жаночых галасоў, якія твораць рытм песьні нават без інструмэнтаў. Ніколі ня чула такой манеры, калі ўдзельнікі ўступаюць не адначасова. І гэтыя канцоўкі музычнай фразы: то працяжныя, то раптоўны абрыў з нейкімі трукамі ў галасе - гэта майстэрства! Вельмі ўражаная дыяпазонам настрою і эмоцый. Варыяцыі ад узьнёслай радасьці, нястрымнай весялосьці да пяшчотнага суму і журбы адчуваюцца выразна, нягледзячы на моўны бар'ер. Колькі моцы, свабоды, пяшчоты, любові... як быццам із сэрца самой зямлі! ...Музыка дапамагае нам дзяліцца агульнымі каштоўнасьцямі й вучыцца адзін ў аднаго."

Фэстываль - гэта ня толькі канцэрт. Па ўсяму парку стаяць намёты, сталы, дзе можна пабачыць і набыць якіх толькі дзівосаў і цудаў, створаных майстрамі з усіх канцоў сьвету. Індзейскія "дрымкатчары" ("лаўцы сноў"), узбэцкія цюбяцейкі. эгіпецкія папірусы, пэруанскія губныя гармонікі. пэрсыдзкія бранзалеты, афрыканскія глякі... Нас прывабіла выстава пакістанскіх вырабаў з оніксу. Доўга круціла я ў руках прыгожыя фігуркі й пацеркі, размаўляла з майстрамі, а думкі мае блыталіся з пытаньнямі. Няма тут беларускай палаткі, а як-бы дзівіліся людзі нашай вышыўцы, саломцы, кераміцы... Раптам успомніла: у мяне-ж з сабой бурштынавыя пацеркі (ад майго строя, яшчэ маміны...). "Хлопцы, а ці ведаеце вы гэткі камень?" - "О, прыгожа! Які лёгкі! Ці-ж гэта камень?" Я тлумачыла, а яны глядзелі на мяне няўцямна... "О, бой! Я-ж чуў пра гэта! Смала сасны! Амбэр. ...Вось як яно выглядае. Адкуль гэта?" - "Зь Беларусі." - "Беларусь?.. Ага, хакейная каманда! ...Прызнацца, я толькі на Алімпіядзе пра Беларусь і пачуў." (Вось-жа, сапраўды, наперадзе плянэты усёй, побач з расейскім балетам і індыйскім кіно...)

Падаліся дамоў, ідзем каля "харчовых радоў": каўказкія шашлыкі, карэйскія разнасолы, бэльгійскія вафлі... "Віялета, уяўляеш, а як-бы тут нашыя дранікі з мачанкай..." - "А хто рабіцьме? Нас на ўсё пра ўсё два дзясяткі чалавек, і так ужо кожны і жнец, і швэц. ...Ат, кінь."

Цудоўны горад Кітчэнэр... А можа, нашыя майстры, кулінары, камэрсанты ўжо едуць да нас?

...Сонца ўзьнімалася ўсё вышэй. Заканчваўся чэрвень - сэзон дажджоў.

Гарачае лета ахутвае, пакрывае сьпякотным коўдрай Канаду. І кружаць, закружваюць яе каляровыя карнавалы. Сэзон фэстываляў у разгары...

**Ірына ВАРАБЕЙ, Таронта**

# Беларуская палітыка - лета 2003

### ЛУКАЦЫЯНАЛІЗМ

З другой паловы чэрвеня ў Лукашэнкі пачаўся чарговы прыступ "нацыяналізму". Стаў гыркаць на Расею. Добра ведама, што гэта азначае. Масква ціснe на рэжым, каб правесьці рэфэрэндум аб так званым "канстытуцыйным акце" (які адчыніць шлях да анэксіі Беларусі). Пачынаецца актыўная падрыхтоўка. Для гэтага і спатрэбіўся рэжыму свой "нацыяналізм".

Разьлік просты. Заблытаць грамадзкую думку. Схаваць відавочнае, што Беларусь заганяюць у Расею, і паказаць, што, быццам-бы, ня ўсё проста (маўляў, мы самы з вусамі, аб'ядноўваемся, але за сябе пастаім і будзем стаяць крэпка, мы Маскве пакажам, няма чаго тут расейскім алігархам разьзяўляцца і г.д.).

Выказваньні грымяць моцныя і гучаць яны для прастакоў, якім яшчэ нечым шчыміць Беларусь, але якія ня ўмеюць думаць. Бо, зразумела, што пасьля так званага "аб'яднаньня" (рэальнай анэксіі) усе гэтыя пагрозы й фразы аб "стаяньні" ды мяць пісьменьніка непаважнымі выказваньнямі).

Другі чыньнік, які паказвае на фальшывасьць лукашэнкаўскай псэўдабеларускай рыторыкі - гэта паводзіны расейскай улады. Лукашэнка на Расею разьдзімаецца, пагражае, зноў выкідвае расейскіх журналістаў, а Расея вяла мармыча. Расейская ўлада паводзіць сябе пасыўна, бо ведама, што гэта спэктакль, узгодненая палітычная гульня па "нацыяналістычным" сцэнары. І ўсе маўчаць. І шавіністы, і камуністы. А тут-бы самы раз узьвіцца якой-небудзь газэце "Товарищ" ды закляймiць, ды ўдарыць, як бывала, па БНФ. Дудкі. Ня тая опэра (як кажа "опэр-уполномоченный").

Трэцяе сьведчаньне. У той-жа час, калі чуецца нібыта "нацыяналістычны" грукат Лукашэнкі, поўным ходам ідзе падрыхтоўка да рэфэрэндуму, да ўвядзеньня расейскага рубля ў Беларусі, да далейшай вайсковай інтэграцыі з Масквою і г. д. Нічога не зьмяняецца ў ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці. Наадварот, прысьпешваецца.

Таксама на рэфэрэндум можа быць выстаўлены не маскоўскі, а лукашэнкаўскі тэкст "канстытуцыйнага акту". Калі Лукашэнка "зробіць" (адпаведна і "выйграе") гэтакі рэфэрэндум, то адсуне Пуціна ў бок і зноў пачне прэтэндаваць на расейскі прастол.Так яно ўжо складваецца ў нясьпелых дэмакратыях, што то адна, то другая краіна робіцца закладніцамі Willer zur Macht - фрэйдзісцка-ніцшэанскіх комплексаў.

### БАЙКОТ

Рэфэрэндум аб "канстытуцыйным акце" гэтак-жа, як і аб трэцім тэрміне, немагчыма правесьці законна. Канстытуцыя не дазваляе. Для авантурыстаў тут замкнутае кола. Таму рэфэрэндум яны плянуюць незаконна з сілавым націскам і праўна-дэмагагічным псэўдаабгрунтаваньнем.

Такая сітуацыя, як цяпер, узьнікла ў чэрвені-жніўні год таму (пасьля заяваў Пуціна пра анэксію), але тады не было вырашана пра трэці тэрмін Лукашэнкі й ягоны лёс.

Складанасьць у тым, што байкот цяжэй арганізаваць. Патрэбны ня толькі пэўны ўзровень удзельнікаў галасаваньня, але і адпаведны стан грамадзтва. Ня так проста растлумачыць звычайнаму чалавеку, чаму ён ня мусіць ісьці на галасаваньне ў той час, калі ён хоча прагаласаваць супраць. Байкот часам не ўдаецца нават у моцна палітызаваных грамадзтвах. Напрыклад, у Польшчы на чэрвеньскі рэфэрэндум аб уступленьні ў Эўразьвяз прышло 58 адсоткаў выбарцаў (была агітацыя за байкот). У той жа час 18 адсоткаў выбарцаў прагаласавала супраць. Зразумела, што калі-б у гэтых 18 адсоткаў лёгіка дамінавала над жаданьнямі, то яны разам з астатнімі не прышлі-б галасаваць і выйгралі-б, бо рэфэрэндум праваліўся-б.

Псыхалягічныя цяжкасьці арганізацыі байкоту выкарыстоўваюць праціўнікі беларускага нацыянальнага адраджэньня, асабліва розныя прамаскоўскія групы "кіруемай апазыцыі". Ня так даўно быў, напрыклад, на гэтую тэму ў "Народнай Волі" артыкул Л. Гразновай (АГП, Хартыя). Там грунтоўная крытыка рэжыму і плянаў інкарпарацыі Беларусі ў Расею. Усё зь беларускіх пазыцыяў. Але заканчваецца гэтыя правільныя развагі заклікам, пайсьці на рэфэрэндум і сказаць сваё рашучае "не". Тэхналёгія агітацыі дакладна, як з "нацыяналізмам" Лукашэнкі. ("Пастаім за Беларусь і Маскве пакажам, але з Расеяй трэба аб'яднацца.")

сваіх інтарэсах ня будуць мець значэньня, бо прынцыпова зьменіцца рэчаіснасьць. Ня будзе беларускай незалежнасьці й беларускай дзяржавы, адпаведна, ня стане і ніякіх беларускіх правоў. Тады крычы, хоць лопні - Сібір вялікі.

Такім чынам "нацыяналізм" Лукашэнкі спатрэбіўся Маскве, каб з'агітаваць на рэфэрэндум беларускую інтэлігенцыю і тых людзей, што непакоіцца пра сваю краіну і трымаюцца за Беларусь. Маскоўцы лічаць, што дурні ў Беларусі ніколі ня зводзіліся, таму "нацыяналіст" Лукашэнка стаў грымець "за радную Беларусію".

Пра тое, што псэўданацыянальная рыторыка Лукашэнкі ня ёсьць нацыяналізм, а фальш, сьведчыць уся антыбеларуская палітыка рэжыму ў Беларусі. Адначасна з нібыта патрыятычнымі фразамі пра самастойны шлях Беларусі й з крытычнымі пасажамі ў бок Расеі рэжым ліквідуе ў Менску ведамы Беларускі гуманітарны ліцэй - апошнюю беларускамоўную вучэльню такога роду, нягледзячы на рэзкі пратэст усіх пэдагогаў, вучняў і бацькоў. Пастанову аб закрыцьці ліцэя падпісалі ў дзень пахаваньня В. Быкава. У гэты-ж час дабіваюць апошнія беларускія школы на вёсцы. На канец чэрвеня зачынілі **152**. У пачатку ліпеня зачынілі астатнія **16** вясковых школак у Гомельскай вобласьці. Беларускіх дзяцей пераводзяць у расейскія школы, якія адчыняюць на вёсках, альбо пакідаюць без адукацыі.

Усе беларускія няўрадавыя газэты ўжо зачыненыя (акрамя менскай "Наша Ніва", якая яшчэ ліпіць). Узяліся нават за расейскія газэты, дзе было нешта крытычнае ці прабеларускае. За палову лета (да сярэдзіны ліпеня) ужо зачынена 8 такіх газэтаў. Дадушваюць беларускае радыё. У ліпені зачынена апошняя радыёстанцыя ў FM-дыяпазоне на беларускай мове - "Сталіца". Прычына - папулярнасьць. Узамен рыхтуюць адчыніць радыё па-расейску.

У гэты-ж час Лукашэнка ігнаруе (робіць няважнымі) прыватызацыйныя чэкі "Маёмасьць". Беларусаў, фактычна, пазбавілі права на прыватызацыю беларускай нацыянальнай уласнасьці, нажытай пакаленьнямі беларусаў, і наадварот - адчыняецца права (купіць за грошы) расейскім алігархам, якіх нібыта "нацыяналіст" Лукашэнка нібыта крытыкуе.

Узмацненьне антыбеларускай палітыкі этнацыду адбываецца паралельна з афіцыйнай успышкай псэўданацыянальнай і антырасейскай рыторыкі. Прытым, калі рыторыка - пустыя гукі, то этнацыд - рэальнасьць. Нават сьмерць і пахаваньне Васіля Быкава, які быў жывым сымбалем нацыі, Лукашэнка не забыўся зьняважыць (не пайшоў на пахаваньне і абразіў па-

Падрыхтоўка да рэфэрэндуму ідзе поўным ходам. Зачыняецца дзейнасьць у Беларусі амэрыканскіх арганізацыяў, зьвязаных з інфармацыяй (IREX, NetWork), выдаляецца са згоды гэбоўскай Масквы карпункт расейскага тэлебачаньня НТВ, выдуюцца дзікія законы пра партыі (будуць зачыняцца пры першым папярэджаньні ў час масавага мерапрыемства). Пры неабходнасьці будзе зачынена ўсё (у тым ліку і офіс АБСЭ). Калі рыхтуецца злачынства - сьведкі непатрэбныя. Адначасна зьмяняюць прэм'ер-міністра, перасоўваюць начальства, ствараюць вінаватых, казлоў ахвярных.

Усе гэтакія дзеяньні па аналёгіі называюць "зачысткай" (што ў рэальнасьці на расейскім вайсковым жаргоне абазначае карную апэрацыю супраць насельніцтва ў Чачэніі). Рыхтуецца чыстае поле для незаконнай палітычнай акцыі, каб нічога не магло перашкодзіць адміністрацыйнай агрэсіі й фальсыфікацыі галасаваньня на рэфэрэндуме.

Інтэнсыўнае зьнішчэньне беларускіх арганізацыяў і школаў робіцца яшчэ і таму, каб не пакінуць гэтую брудную працу Расеі, калі яна захопіць Беларусь (каб напачатку менш рэзка адчувалася акупацыя).

Аналіз разгледжаных намі аспэктаў дазваляе зрабіць меркаваньне, што Масква (якая раней вагалася) дала згоду на трэці тэрмін Лукашэнкі. Выглядае, што дамовіліся такім чынам: Лукашэнка забясьпечвае ўсе ўмовы (у тым ліку і самыя радыкальныя) для правядзеньня рэфэрэндуму аб "канстытуцыйным акце" і бярэ, адпаведна, на сябе ўсю адказнасьць. Масква тым часам пагаджаецца, каб Лукашэнка паставіў адначасна на рэфэрэндум пытаньне аб сваім трэцім (ці бясконцым) тэрміне ўлады. Пры гэтым на вонкі Масква нібыта абтрасаецца ад гэтай справы (як бы ня ўмешваецца), але ў выпадку пагрозы ўсёй акцыі - абяцае падтрымку.

Лёгіка такая: Маскве трэба скарыстаць Лукашэнку, каб правесьці на рэфэрэндум свой інтэрас з "актам" і забясьпечыць пэрспэктыву анэксіі. Лукашэнку неабходна свой інтэрас аб трэцім тэрміне зьвязаць з маскоўскім, каб забясьпечыць сабе падтрымку Масквы й пэрспэктыву застацца ва ўладзе.

Характар чэрвеньскіх і ліпеньскіх падзеяў паказвае, што ўзгадненьне адбылося.

Удакладняю, аднак, што гаворачы "Расея", "Масква", я неабавязкова маю на ўвазе У. Пуціна. Лукашэнка можа заручыцца падтрымкаю іншых групаў расейскай улады, таксама і тых, хто супраць Пуціна.

Мы ўважліва прааналізавалі становішча за рэшту 2002-га году і пасьля татальнай і поўнай "перамогі" рэжыму на мясцовых выбарах 2-га сакавіка 2003-га году. (дарэчы, цалкам сфальшаваных, але фармальна легітымных, гэтаму паспрыяла так званая "апазыцыя").

Супастаўленьне варыянтаў паказвае, што найлепшым быў-бы варыянт недапушчэньня рэфэрэндуму, які супярэчыць Канстытуцыі. Такі варыянт супраціўленьня намі ўжо пачаты ў судах. Але на пэўным этапе спатрэбіцца міжнародна-прававая дапамога.

У выпадку прызначэньня рэфэрэндуму напралом закону (як гэта было раней) найлепшы варыянт - байкот галасаваньня.

Рэальнасьць і асабліва апошнія выбары ў мясцовыя саветы паказалі, што рэжым стварыў надзейную, моцную, практычна безадказную і некантралюемую грамадзтвам выбарчую машыну фальсыфікацыі галасаваньня. Адміністрацыйны рэсурс па абслугоўваньні гэтай машыны ёсьць цалкам падкантрольны рэжыму, арганізаваны жорстка і безаглядна, гатовы на любое парушэньне закону, дзеля выкананьня пастаўленых зьверху задачаў.

Такая рэальнасьць. Любое галасаваньне (хоць-бы і 100 адсоткаў галасавалі супраць) рэжым выйграе (сфальсыфікуе).

Нават калі-б і было грамадзкае назіраньне за галасаваньнем, пракантраляваць і дакумэнтальна зафіксаваць, як хто галасаваў, і як палічыла галасы выбарчая камісія, - немагчыма. Так ёсьць. Можна фіксаваць толькі парушэньні заканадаўства. А гэта апасродкаваныя аргумэнты й трактаваць іх можна па-рознаму (што ўвесь час і робіцца). Каб фальсіфікаваць, для фальсіфікацыйнай машыны патрэбныя выбаршчыкі, хаця-б 50 адсоткаў. Астатняе - справа тэхнікі.

Такім чынам, калі праводзіць байкот фальсыфікацыйнай машыны (г. зн. байкот "галасаваньня") і калі галасаваць, скажам, прыйдзе толькі 25 адсоткаў выбаршчыкаў, то машыне прыдзецца сфальсыфікаваць прыход яшчэ мінімум 25 адсоткаў выбаршчыкаў. Але, першае, тых, хто прыходзіў галасаваць, можна рэальна палічыць; потым можна праверыць сьпісы прагаласаваных, а калі іх, скажам, не пакажуць назіральнікам, то могуць правераць самы выбаршчыкі, што не галасавалі. Усё гэта непасрэдная канкрэтыка, якую можна дакумэнтальна зафіксаваць. Вядома, могуць зьнішчыць сьпісы, могуць арыштаваць выбаршчыкаў і г.д. Але гэта ўжо будзе адкрыты бандытызм з боку рэжыму. Шансы для такога рэфэрэндуму і для такой палітыкі тады змалеюць да мінімуму.

Працу над падрыхтоўкаю байкоту арганізацыі Беларускага Вызвольнага Руху (*БНФ "Адраджэньне", Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя - БНФ*) пачалі ў пачатку гэтага году. У гэтай справе вельмі важна стаяць на адной пазыцыі ўсім праціўнікам рэжыму, рэфэрэндуму і інтэграцыі. Гэта, магчыма, не атрымаецца на 100 адсоткаў, але тым ня менш альтэрнатыву пажадана мець мінімальную.

У красавіку намі была распрацаваная і пачала выконвацца праграма супрацьдзеяньня незаконнаму рэфэрэндуму і плянаваньню анэксіі Беларусі.

10-га траўня мы зьмясьцілі ў перыядычным друку і разаслалі зварот да грамадзкіх арганізацыяў і партыяў аб дзеяньнях і адносінах да плянуемага рэфэрэндуму. Намі прапанаваны супольны арыентыр для адзінай беларускай грамадзкай пазыцыі ў змаганьні з палітыкай рэфэрэндуму. Гэта: ***салідарнасьць на грунце абароны незалежнасьці Беларусі*** (салідарнасьць для незалежнасьці).

Аднак гэтую лінію не ўдалося пакуль што актывізаваць сярод палітычных арганізацыяў з прычыны незацікаўленасьці. У сярэдзіне ліпеня арганізацыі, павязаныя ў дэмакратычнай "апазыцыі", засьведчылі, што будуць удзельнічаць у незаконным рэфэрэндуме, каб галасаваць супраць. Прытым гаворка вядзецца толькі пра трэці тэрмін Лукашэнкі.

Такія паводзіны ня сталі для нас нечаканасьцю з прычыны залежнасьці "апазыцыі". Тым ня менш прадаўжаюцца пошукі, як пазьбегнуць альтэрнатывы й дасягнуць салідарнасьці на плятформе абароны незалежнасьці й супрацьдзеяньня расейскай палітычнай агрэсіі.

Тое, што рыхтуюць нам, беларусам, на рэфэрэндуме аб "канстытуцыйным" акце" пры няправільным супрацьдзеяньні, можа аказацца фатальным для лёсу незалежнасьці Беларусі. У нашым грамадзтве бальшыня яшчэ гэтага не разумее, а грамадзкая эліта, па ўсім відаць, недаацэньвае і глыбока не задумваецца. Гэта найбольш трывожыць, калі пачнеш угледацца ў блізкую будучыню краіны й усьведамляеш наканаванасьць цяжкой барацьбы.

***Зянон ПАЗЬНЯК***

***23.07.2003 г. Нью Ёрк***

# Беларусь за месяц

## Апазыцыя яднаецца супраць трэцяга тэрміну Лукашэнкі

Кіраўнікі пяці апазыцыйных партыяў ухвалілі плян на недапушчэньні трэцяга прэзыдэнцкага тэрміну А. Лукашэнкі. Гэты дакумант быў прыняты 22-га ліпеня на паседжаньні лідэраў пяці палітычных партыяў - Аб'еднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, Партыі камуністаў Беларусі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады й Беларускай партыі працы.

Плян складаецца з двух блёкаў. Першы прадугледжвае дзеяньні апазыцыйных палітычных партыяў "да абвешчаньня ў той ці іншай форме мерапрыемстваў, якія дазволілі-б падоўжыць тэрмін знаходжаньня прэзыдэнта ва ўладзе". У гэтай частцы пляна прадугледжваецца інфармацыйна-растлумачальная кампанія, якая тычыцца магчымага рэфэрэндуму, а таксама сэрыя сустрэчаў лідэраў пяці партыяў, дэпутатаў мясцовых саветаў, абраных ад гэтых партыяў, з прадстаўнікамі грамадзкасьці ў рэгіёнах.

Другі блёк павінен уступіць у сілу пасьля таго, як стане ведама дата рэфэрэндуму альбо іншага мерапрыемства, якое можа зрабіць магчымым удзел А. Лукашэнкі ў наступных прэзыдэнцкіх выбарах. Гэты этап прадугледжвае правядзеньне кангрэсу грамадзянскіх сілаў Беларусі, на якім павінен быць выпрацаваны плян сумеснай працы шырокай грамадзянскай кааліцыі.

## "Контур" зачыняць?

Будзе рэфэрэндум па працягу прэзыдэнцкага тэрміну ці не, але Мінюст вырашыў на ўсялякі выпадак перастрахавацца і зачысьціць палітычнае поле.

Вось, прыкладам, упраўленьне юстыцыі Віцебскага аблвыканкаму падало пазоў аб ліквідацыі грамадзкага аб'еднаньня "Цэнтар моладзёвых ініцыятываў "Контур". Падставаю для пазову аб ліквідацыі "Контура" стала тое, што са жніўня 2000-га году кіраўнічы орган аб'еднаньня не знаходзіцца па месцы юрыдычнага адрасу. Аб'еднаньне абвінавачваецца таксама ў парушэньні патрабаваньняў дэкрэта прэзыдэнта ад 12-га сакавіка 2001-га году №8 і падатковага заканадаўства: на думку органаў юстыцыі, аб'еднаньне выкарыстоўвала замежную дармовую дапамогу без атрыманьня дазволу на яе выкарыстаньне.

Між іншым, "Ратушу" ў Горадні й "Грамадзянскія ініцыятывы" ў Гомелі таксама зачынілі.

## 10 год І-му зьезду беларусаў сьвету

6-га ліпеня ў Менску ў Доме літаратара, прайшла ўрачыстая вечарына, прысьвечаная 10-годзьдзю І-га зьезду беларусаў сьвету. Нагадаем, што праводзіўся форум 8-10-га ліпеня 1993-га году. Арганізатары акцыі ў гэтым годзе ЗБС "Бацькаўшчына" і Саюз беларускіх пісьменьнікаў.

Адчыніў вечарыну экс-прэзыдэнт "Бацькаўшчыны" акадэмік Радзім Гарэцкі. У сваёй прамове ён зазначыў, што ў 1993-м годзе ўдзельнікі форуму аптымістычна глядзелі ў будучыню. "Нам здавалася, што зьезд - толькі пачатак моцнага працэсу нацыянальнага адраджэньня". Нажаль, надзеі ня спраўдзіліся. "У хуткім часе мы пераканаліся, што зьезд быў апагеем гэтага працэсу: У будучыні нам не ўдалося склікаць такую маштабную сустрэчу беларусаў сьвету і дамагчыся такога адзінства волі й мэтаў нацыі". Спадар Гарэцкі зазначыў, што "са зьменай палітыкі дзяржавы, кіраўніцтва якой пачало вяртаць краіну ў савецкае мінулае, зьмянілася стаўленьне да нацыянальнага адраджэньня, дэмакратычных сіл, многіх прадстаўнікоў беларускай дыяспары".

У імпрэзе бралі ўдзел як прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі, так і беларусы замежжа - Расеі, Летувы, Польшчы, Украіны. З прывітальным словам да ўдзельнікаў вечарыны зьвярнуўся старшыня Беларускага саюзу ў Польшчы Яўген Вапа, ад беларусаў Летувы - Хведар Нюнька, Масквы - Антон Сабалеўскі. Выступалі й беларусы мэтраполіі - лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, былы міністар замежных спраў Пятро Краўчанка, старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Алесь Пашкевіч, пісьменьніца Лідзія Савік.

Пасьля ўрачыстай часткі адбыўся сьвяточны канцэрт, у якім узялі ўдзел вядомы сьпявак, заслужаны артыст Беларусі Віктар Скарабагатаў, трыё камэрнай музыкі "Вытокі" ды калектыў сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса".

## Хоць тут лідэры

Нягледзячы на ўсе запэўніваньні ўраду аб стабілізацыі нацыянальнай валюты, Беларусь у першым паўгодзьдзі заняла першае месца сярод краінаў СНД і Балтыі па тэмпах росту курсу амэрыканскага даляра.

Курс даляра ў краіне павялічыўся ў гэты час на 7,29 адсоткаў (з 1.920 да 2.060 рублёў). Далей ідуць Таджыкістан - 3 адсоткі, Малдова - 2,35, Грузія - 0,96, Азэрбайджан - на 0,49, Узьбекістан - на 0,41 і Украіна - на 0,01.

У Арменіі за паўгодзьдзе даляр наадварот патаньнеў на 0,02 адсотка (з 584,89 да 584,80 драма), у Латвіі - на 4,21 (з 0,594 да 0,569 лата), у Расеі - на 4,52 (з 31,7844 да 30,3483 рубля), у Казахстане - на 4,88 (з 155,6 да 148 тэнгэ), у Эстоніі - на 8,37 (з 14,93642 да 13,68611 кроны), у Летуве ажно на 8,81 (з 3,3114 да 3,0196 літа), у Кыргызстане - на 10%. У Туркмэністане курс даляра не зьмяніўся (5.200 манатаў). У гэтай несумненна цікавай краіне даляр узгадняе свой курс з дэкрэтамі Туркмэнбашы - Сапармурата Ніязава.

У ліпені рост амэрыканскага даляра прадоўжыўся. На 30-га ліпеня курс, устаноўлены нацыянальным банкам Беларусі, складаў - 2.072 рублі. Падаем дзеля цікавасьці таксама курсы замежных валют краінаў з найбольшай беларускай прысутнасьцю, устаноўленыя Нацыянальным банкам на 30-га ліпеня:
эўра - 2385 рублёў,
аўстралійскі дал. - 1379 рублёў,
брытанскі фунт с. - 3.376 рублёў,
канадыйскі даляр - 1498 рублёў,
латыскі лат -3654 рублі.
летувіскі літ - 691 рубель,
польскі злоты - 541 рубель,
расейскі рубель -68,50 рубля
украінская грыўна - 389 рублёў,
чэская крона - 75 рублёў,

## Перамога Сапацькова

Упершыню ў гісторыі міжнароднага фэстывалю "Славянскі базар" у Віцебску гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў і 10 тысячаў даляраў заваяваў наш зямляк Максім Сапацькоў, вакаліст Гомельскай філярмоніі.

Першае месца і 6 тысяч даляраў атрымала сьпявачка з Малдовы Надзея Трохін. А яшчэ адзін айчынны выканаўца Уладзімер Аўчароў разам з сэрбскаю сьпявачкаю Аленай Тамашавіч занялі другое месца, падзяліўшы 4 тысячы даляраў.

Адметна, што як толькі Максім Сапацькоў узяў Гран-пры Міністэрства культуры Беларусі адразу заявіла, што будзе ўсяляк дапамагаць хлопцу - і маральна, і матар'яльна. Між тым, у пачатку ліпеня міністар культуры Леанід Гуляка ўласнаручна выкluчыў Максіма са сьпісу выканаўцаў, якія мусілі браць удзел ва ўрачыстым канцэрце, прысьвечаным Дню рэспублікі. Маўляў, нецікава сьпявае. Як бачым, праз два тыдні думка міністра кардынальна зьмянілася.

## У Горадні паставяць помнік Быкаву

"Гарадзенская ініцыятыва" мае намер зьвярнуцца да мясцовых уладаў з прапановаю паставіць помнік Васілю Быкаву ў абласным цэнтры ля дому па вуліцы Сьвярдлова, дзе пісьменьнік жыў.

Таксама актывісты "Гарадзенскай ініцыятывы" прапануюць назваць вуліцу імём пісьменьніка, наладзіць штогадовыя літаратурныя чытаньні, стварыць мэмарыяльны "кабінэт" пісьменьніка ў мясцовай друкарні, дзе знаходзілася рэдакцыя "Гродзенскай праўды", а таксама мэмарыяльны пакой у доме-музэі Элізы Ажэшкі, былым памяшканьні Саюзу пісьменьнікаў.

Васіль Быкаў працаваў у Горадні 24 гады. Напачатку працаваў у мастацкіх майстэрнях, пасьля - у газэце "Гродзенская праўда". Менавіта ў Горадні Быкаў напісаў "Жураўліны крык", "Трэцюю ракету", "Альпійскую баляду", "Сотнікава", "Абеліск", "Дажыць да сьвітаньня" ды шэраг іншых.

## Помнік Кармілкіну

17-га ліпеня на Ўсходніх могілках Менску адкрылі помнік ведамаму фотажурналісту, летапісцу БНФ Уладзімеру Кармілкіну.

На вэртыкальнай паліраванай стэле з чырвонага граніту - бронзавы барэльеф фатографа, зьмешчаныя даты ягонага жыцьця (15.02.1934-14.07.2002) і словы "Летапісец вольнай Беларусі". Аўтар помніка - скульптар Алесь Шатэрнік.

Выступаючы на адкрыцьці помніка, старшыня менскай гарадзкой рады БНФ Уладзімер Кішкурна прапанаваў заснаваць прэмію імя Ў. Кармілкіна, якой узнагароджваць тых беларускіх фотажурналістаў, якія прафэсыйна адлюстроўваюць барацьбу дэмакратычных сілаў супраць таталітарызму.

## Беларуская Масква

Тэлежурналіст расейскага Першага каналу Віктар Дзятліковіч зрабіў сайт "Беларуская Масква". Гэта ягоны прыватны праект, адрасаваны беларусам расейскай сталіцы, якія цікавяцца жыцьцём нашай дыяспары. На сайце зьмяшчаецца інфармацыя па-беларуску (тарашкевіцай) і па-расейску пра "беларускія месцы" ў Маскве (рэстараны, кавярні), назіраньні за беларускаю Масквою, цікавыя гісторыі, зьвязаныя з суайчыньнікамі, якія жывуць у расейскай сталіцы, навіны. Насамрэч, на сайце вельмі шмат цікавых рэчаў.

## Аднавіўся "Дзень"

24-га ліпеня аднавіўся выхад незалежнага перыёдыка "Дзень". Першы нумар надрукаваны накладам 5 тысяч асобнікаў і цалкам прысьвечаны Васілю Быкаву, да таго-ж частка нумару падрыхтаваная былымі журналістамі газэты "Пагоня". Галоўны рэдактар выданьня - Генадзь Барбарыч, які перакананы, што "цяпер важна не апускаць рукі й працягваць рабіць сваю справу".

## У Беларусі ў жніўні падвышаюцца пэнсіі

Міністар працы й сацыяльнай абароны Антаніна Морава заявіла аб тым, што ўсе віды пэнсій, якія выплачваюцца па працы й сацыяльнай абароне ў Беларусі, будуць павялічаныя на 17 адсоткаў; мінімальныя пэнсіі - на 14 адсоткаў.

Мінімальны памер працоўнай пэнсіі складзе ў месяц 64 тысячы 130 рублёў. Па курсе на 30-га ліпеня - гэта 31 (трыццаць адзін! амэрыканскі даляр), сярэдняя па ўзросьце - 118 тысяч 500 рублёў у месяц. Гэта амаль 57$ (пяцьдзясят сем амэрыканскіх даляраў). Максымальная пэнсія ў месяц у Беларусі складзе 183 тысячы 370 рублёў (ці 88,5амэрыканскіх даляраў).

Дзяржава абяцае і надалей клапаціцца аб пэнсіянэрах.

## Журналісты перамаглі

Упершыню каманда беларускіх журналістаў стала ўладальнікам VII-га Кубку Свабоды імя Генадзя Карпенкі. Традыцыйны штогадовы турнір, які прысьвячаецца памяці ведамага палітыка і футбольнага судзьдзі, прайшоў 27-га ліпеня на стадыёне Парку Чалюскінцаў у Менску.

Сёлета ў турніры, прымеркаваным таксама да 13-х угодкаў падпісаньня Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, бралі ўдзел пяць камандаў: Аб'еднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), Партыі БНФ, Партыі камуністаў Беларусі й зборная каманда журналістаў.

Турнір праходзіў па кругавой сыстэме. Кожная каманда згуляла з другой па адным матчы. Перамогшы ва ўсіх чатырох гульнях, каманда журналістаў упэўнена заняла першае месца.

Астатнія месцы: другое - каманда АГП; трэцяе - ПКБ; чацвёртае - БСДП (НГ). Апошняе месца ў Партыі БНФ.

Нагадаем, што ў мінулым годзе ў Кубку Генадзя Карпенкі перамагла каманда КХП-БНФ.

*Уласны карэспандэнт*

## Адмова рэабілітаваць Ларысу Геніюш

9-га ліпеня Беларускі Гельсынскі камітэт зьвярнуўся да кіраўніка дзяржавы з просьбаю рэабілітаваць паэтку. У 1949 годзе Ларыса Геніюш была асуджаная да 25 гадоў зьняволеньня паводле абвінавачаньня ў падрыўной дзейнасьці супраць СССР. Яна датэрмінова была вызваленая ў 1956-м годзе і да сваёй сьмерці ў 1986-м годзе жыла ў пасёлку Зэльва на Гарадзеншчыне пад наглядам КГБ.

У лісьце БГК да Лукашэнкі адзначаны шэраг юрыдычных матываў: Геніюш была асуджаная, не зьяўляючыся грамадзянкаю БССР, з матар'ялаў яе справы вынікае, што ёй інкрымінавалася сяброўства ў арганізацыях "Беларуская Рада" і "Беларуская народная самапомач", якія, адзначае Беларускі Гельсынскі Камітэт, не вялі антысавецкай ці прафашыстоўскай дзейнасьці. Апроч іншага, камітэт адзначае, што артыкулы крымінальнага кодэксу, паводле якіх Ларыса Геніюш была асуджаная, былі скасаваныя ў 1960-м годзе, што паводле заканадаўства мусіць цягнуць за сабою скасаваньне присуду і рэабілітацыю.

У 1999-м годзе БГК ужо зьвяртаўся ў Генпракуратуру Беларусі з просьбаю апратэставаць прысуд Ларысе Геніюш і яе мужу Яну. Справа была накіраваная ў Вярхоўны суд, які пастанавіў, што Ларыса Геніюш увогуле не падлягае рэабілітацыі. Было таксама паведамлена, што матывы гэтага могуць быць абвешчаныя толькі самой рэпрэсаванай.

Цяперашні зварот Гельсынскага камітэту Аляксандар Лукашэнка пакінуў без адказу, пераадрасаваўшы яго Вярхоўнаму суду. А Вярхоўны суд пацьвердзіў сваю ранейшую пазыцыю, адказаўшы, што Ларыса Геніюш была абгрунтавана прызнаная непадлягаючай рэабілітацыі.

*Радыё Свабода*

# Дасьледуецца жыцьцё

## Гутарка з доктарам Юрыем Гарбінскім у рэдакцыі газэты.

**Доктар Гарбінскі, спачатку колькі словаў пра сябе.**

Ну што-ж, як казала ў такіх выпадках мая выкладчыца беларускай мовы са студэнцкіх гадоў, станьма "тварам да вёскі". Нарадзіўся я ў заходнебеларускім мястэчку Камаі, што на Пастаўшчыне. Гэта той маляўнічы куток нашай бацькаўшчыны, які хтосьці аднойчы трапна акрэсьліў Беларускім Паазер'ем. І сапраўды, тут куды ні зірні - на ўсход, захад, поўнач ці поўдзень - вазёры. Да найпрыгажэйшага зь іх - Нарачы, якога інакш як морам і не назавеш, - рукою падаць. Камаі - адно са старажытных мястэчак на Беларусі. Аднатавана яно й на эўрапейскіх мапах скарынаўскай пары, і ў сучасных беларускіх энцыкляпэдычных даведніках, дзе зацікаўленая асоба прачытае пра гісторыка-архітэктурныя помнікі мястэчка Камаі - вялікі каменны крыж ды храм Сьвятога Яна Хрысьціцеля з пачатку XVII стагодзьдзя. Празь вякі жылі тут ў згодзе беларусы, габрэі й татары. Тут прайшло маё маленства й дзіцячыя гады. Тут адкрываў неўпрыкмет чароўны сьвет беларускіх народных казак і мясцовых паданьняў. Пасьля заканчэньня камайскай дзесяцігодкі паступіў на філялягічны факультэт Менскага пэдінстытуту, настаўнічаў на роднай Пастаўшчыне. Потым вярнуўся ў Менск. Займаўся ў аспірантуры й працаваў асыстэнтам на кафедры гісторыі беларускай літаратуры ў пэдунівэрсытэце. У 1993-м годзе выехаў на далейшую вучобу ў Польшчу. Студыяваў ў Кракаве і Варшаве. Пад кіраўніцтвам праф. Аляксандра Баршчэўскага ў варшаўскім унівэрсытэце абараніў доктарскую дысэртацыю, прысьвечаную жыцьцю й творчасьці паэта нашаніўскай пары Алеся Гаруна. Ад восені 1997 года працую старшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце Славістыкі Польскай Акадэміі Навук у Варшаве.

**Інстытут Славістыкі Польскай Акадэміі Навук у Варшаве дастаткова вядомая інстытуцыя ў навуковым сьвеце. Маё пытаньне датычыцца наступнага: якое месца ў навукова-дасьледчыцкай дзейнасьці вашага інстытута займае беларусістыка?**

Найперш, хацеў-бы адзначыць тое, што супрацоўнікі Інстытуту Славістыкі ПАН маюць актыўныя творчыя сувязі з калегамі зь іншых славянскіх краінаў, а таксама рэалізуюць сумесныя навуковыя праекты зь нямецкімі, французкімі, скандынаўскімі, літоўскімі навуковымі ўстановамі славістычнага профілю.Поруч з балканскім, расейскім, славацкім, украінскім і чэскімі аддзеламі

ў Інстытуце Славістыкі ПАН створаны таксама аддзел беларускай літаратуры й культуры. Мы актыўна супрацоўнічаем зь Інстытутам Літаратуры й Інстытутам Мовазнаўства НАН Беларусі. Цешуся, што гэтае супрацоўніцтва не папяровага, але рэальнага кшталту. Лепшым сьведчаньнем таму - падрыхтоўка да друку творчай спадчыны Зосі Манькоўскай, паэткі беларуска-польскага культурнага сумежжа. Для гісторыкаў беларускай літаратуры і польскай яна больш вядомая як паэт і перакладчык Адам М-скі (Adam M - ski). На чарзе - выданьне літаратурна-крытычных артыкулаў беларускага філёзафа й літаратурнага крытыка Ўладзімера Самойлы, якія былі апублікаваны ў Нямеччыне ў міжваенны перыяд. Дарэчы, чынны ўдзел у гэтым прымае ягоны сын - Уладзімер Самойла-малодшы.

Увогуле-ж, калі гаварыць пра асноўны накірунак дзейнасьці беларускага аддзелу, то ён у асноўным зьвязаны з манаграфічнымі дасьледваньнямі гісторыка-культуралягічнага кшталту, якія ахопліваюць беларускапольскія культурныя й літаратурныя ўзаемадачыненьні, а таксама беларускую гісторыю і рэлігію.

**Як сталася, што Вы зацікавіліся рэлігійнай праблематыкай?**

Тут няма вялікага сакрэту. Да маіх зацікаўленьняў рэлігійнай праблематыкай, і ў прыват-



насьці гісторыяй беларускага хрысьціянскага руху, у многім спрычынілася знаёмства з працамі кс. Адама Станкевіча. Апасродкавана вынікалі яны яшчэ й з таго факту, што якраз ў камайскай парафіі пачынаў сваю сьвятарскую дзейнасьць кс. Канстанцін Стэповіч. На Пастаўшчыне ў апошняе перадваеннае дзесяцігодзьдзе працаваў сьвятаром а. Аляксандар Коўш. Тут нарадзіліся архімандрыт Мадэст Яцкевіч і кс. Дзяніс Малец. А па суседзтву на Глыбоччыне - а. Іван Кушнер, адзін з ініцыятараў і ўдзельнікаў Усебеларускага Царкоўнага Сабору, што адбыўся ў жніўні 1942 году ў Менску. Бліжэй да Браслава і Мёраў - родныя мясьціны кс. др. Ільдэфонса Бобіча, а таксама кс. др.Часлава Сіповіча. Зь Вялейшчыне - а. Мікалай Лапіцкі. У хуткім часе стануць сьвятарамі й два сыны майго колішняга суседа К. Півавара з Камаяў, якія цяпер вучацца ў духоўных сэмінарыях на Бацькаўшчыне. Хачу спадзявацца, што гэтая традыцыя прадоўжыцца.

**Вы - адзін з аўтараў і навуковых рэдактараў (сумесна з Л. Юрэвічам) кнігі "Вяртаньня маўклівая споведзь": Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксьце часу (Менск 1994). Думаю, што беларускаму чытачу вядомыя і такія Вашыя фундамэнтальныя працы як анталёгія "Беларуская думка XX стагодзьдзя: Філасофія, рэлігія, культура" (Варшава 1998 г.) і энцыклапедычны даведнік "Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагодзьдзя": Жыцьцярысы, мартыралогія, успаміны (Менск-Мюнхэн 1999). Ведамы філёзаф і літаратурны крытык праф. Уладзімер Конан назваў іх "грунтоўнымі, важкімі па зьмесьце й нават вонкавым абліччы". А як Вы ацэньваеце зробленае?**

Безумоўна, я ўдзячны прафэсару Уладзімеру Конану за такую высокую ацэнку майго сьціплага даробку ў беларусазнаўстве. Асабіста аднак не ўважаю гэтыя пералічаныя працы за "фундамэнтальныя". Тое, што ёсьць у гэтых кнігах вартаснага заўдзячваю супрацоўніцтву з нашымі беларускімі навукоўцамі на бацькаўшчыне і на эміграцыі. З тым жа праф. Уладзімерам Конанам ці др. Вітаўтам Кіпелем, а яшчэ з такімі ж кампэтэнтнымі ды салíднымі дасьледчыкамі як праф. Аляксей Каўка, др. Віталь Скалабан, др. Юры Туронак, Лявон Юрэвіч ды многімі іншымі. Натуральна, цешуся, што кнігі заўважылі й па-за Беларусьсю. Ведамы польскі крытык і публіцыст на эміграцыі, творца парыжскай "Культуры" Ежы Гедройц у лісьце на імя дырэктара Інстытута Славістыкі напісаў, што зь вялікай зацікаўленасьцю пераглядае анталёгію "Беларускай думкі" і плянаваў даць на яе водгук у сваім часапісе. Аглядныя рэцэнзіі зьмясьцілі югаслаўскія навуковыя выданьні, расейская, польская прэса.

**Наколькі можна здагадвацца, мэта прыезду ў ЗША пэўным чынам зьвязана з Вашымі папярэднімі дасьледаваньнямі?**

Так, Вы не памыліліся. Мой побыт у Злучаных Штатах зьвязаны з навукова-дасьледчым праектам, прысьвечаным вывучэньню беларускага рэлігійнага жыцьця на эміграцыі. Сталася гэта магчымым дзякуючы агульнаеўрапейскай навуковай праграме, у якой бярэ ўдзел Інстытут Славістыкі Польскай Акадэміі Навук і якая цалкам фінансавала мой побыт у ЗША. Ня менш важная роля ў гэтай справе належыць таксама й Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва, які сумесна зь Нью Ёрскім гарадзкім унівэрсытэтам даў згоду навуковага кіраўніцтва працай. Асабіста ўважаю, што такое супрацоўніцтва дазволіць глыбей асэнсаваць рэлігійнае жыцьцё беларускай эміграцыі й па-належнаму ацаніць зробленае.

Пры нагодзе хачу выказаць словы асаблівай ўдзячнасьці дырэктару БІНІМа др. Вітаўту Кіпелю, а таксама ягоным супрацоўнікам др. Янку Запрудніку, Лявону Юрэвічу й праф. Томасу Бэрду.

Адначасна хацеў бы адзначыць тую ўвагу, дабразычлівасьць, жаданьне дапамагчы кваліфікаванымі парадамі й кансультацыямі сяброў царкоўных радаў беларускіх парафіяў у Гайленд Парку (А. Сільвановіч, В. Дубяга, Я. Азарка, а. В. Логін), у Брукліне (Б. Данілюк), Квінсе (К. Мерляк, В. Шчэцька, А. Шчэцька), а таксама ў Саўт Рывэры (М. Сенька, В. Цярпіцкі, Э. Літаровіч) ды Таронта (парафія Сьв. Кірылы Тураўскага - І. Цітавец, М. Ганько, Н. Дробіна, Р. Жук-Грышкевіч); парафія Сьв. Еўфрасіньні Полацкай - А. Рымша, М. Жыбуль, Э. Пітушка, М. Сьцепановіч), пастару Юрку Рапэцкаму. Словы падзякі хачу скіраваць і да нью ёркаўскага аддзелу БАЗА (А. Шукелойць, А. Міцкевіч, Ф. Бартуль, Э. Рыжы). Глыбока ўдзячны др. Алене Юрэвіч і Навуму Кацнельсону зь Нью Ёрку, а. Паўлу Вялікаму і матушцы Зоф'і з Бэры, а таксама Міхалу і Валяньціне Пашкевічам з Таронта.

Напрыканцы хацеў-бы зьвярнуць увагу на наступнае. Беларускае рэлігійнае жыцьцё ў цэлым, і асабліва тут, на эміграцыі, - тэма складаная і шматплянавая. Паўната і аб'ектыўнасьць ягонага насьвятленьня ў многім будзе залежыць ад наяўнасьці фактаграфічнага матар'ялу. Маючы за мэту напісаньне кнігі пра беларускае рэлігійнае жыцьцё на эміграцыі (Аргентына, Аўстралія, Заходняя Эўропа, ЗША і Канада) буду ўдзячны за дасланыя матэрыялы (успаміны, архіўныя дакументы, фотаздымкі), а таксама за кансультацыі й парады.

Ад рэдакцыі: матэрыялы й лісты для др. Ю. Гарбінскага дасылайце, калі ласка, на адрас газэты:
*Bielarus*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*

# Вядзьмак Баршчоўскі

Прынята лічыць, што гістарычная памяць сярэднястатыстычнай беларускай сям'і - ня больш за васемдзесят - дзевяноста гадоў. І гэта справядліва. Менавіта ў такі тэрмін укладаецца жыцьцё ўсіх нашых бабуляў і дзядуляў, жывых сьведкаў гісторыі. Далейшыя продкі (калі мы ведаем хоць аднога зь іх) успрымаюцца нашай сьведамасьцю амаль як міталягічныя постаці. Мы можам колькі заўгодна спрачацца пра Барбару Радзівіл ці Тадэвуша Касьцюшку, але-ж мала хто з нас здольны распавесьці пра лёс уласнага прапрадзеда.

Дзякуй Богу, але мне пашэньціла хоць крыху дазнацца пра аднаго з далёкіх продкаў. Сталася так, што мая бабуля, Марыя дачка Сазонта Раманава, 1908 г. н., засьпела свайго дзеда з боку маці, Міная Лаўрэнава, які нарадзіўся недзе ў 40-х гадох пазамінулага стагодзьдзя. У сваёй вёсцы Баршчоўка, што паміж Рэчыцай і Гомелем, ён быў чалавекам знакамітым. Бо лічыўся адзіным на ўсю акругу ведзьмаком. Хаця Мінай, натуральна, і быў прыгонным, яго (са словаў бабулі) нават сам пан крыху пабойваўся...

* * *

На сіберным усходзе Беларусі "ведзьмакамі" спрадвеку называюць людзей, якія валодаюць экстрасэнсорнымі здольнасьцямі. На Палесьсі такіх людзей куды больш, чым ва ўсёй астатняй Беларусі: надзвычайныя здольнасьці выхоўваюцца наваколлем. Матэчныя лясы, непраходная дрыгва, еднасьць з прыродаю надзвычай абвастраюць інтуіцыю. Пачуцьцё небясьпекі закладаецца на генэтычным узроўні й перадаецца ад бацькі да сына. Лічыцца, напрыклад, што зь дзесяці палешукоў, што патрапяць у багну, жывымі выбіраюцца дзевяць. "Людзі на балоце" амаль не хварэюць на зубы: дастаткова тры разы на год апускаць ногі ў мурашнік "пакуль не запячэ", і можна пажыцьцёва пазабыцца на стаматолага.

Паводле апowядаў бабулі, мой прапрадзед Міна Лаўрэнаў хадзіў на балоты рэгулярна, бо быў ня толькі ведзьмаком, але і траўнікам. Уся Баршчоўка лекавалася ў яго, бо дактароў тама не было ад часоў Ярылы й Перуна. Ня ведаю, ці праўда гэта, але-ж Міна Лаўрэнаў нават мог загаварваць ("шаптаць", як у вёсцы казалі) укусы зьмеяў.

Да таго-ж, прапрадзед, быццам бы, валодаў дзіўным дарам прадказваць будучыню. Многае з таго, што ён прадказваў, нібыта спраўджвалася. Менавіта з гэтае прычыны ксёндз з рэчыцкага касьцёлу Прасьвятой Тройцы не пускаў старога Міну да касьцёлу (у адрозьненьне ад ба-

*Заканчэньне на бач. 10*

# Памяці Ўладыкі Мікалая

Сёньня, на першыя ўгодкі сьмерці, аддаём мы пашану памяці Яго Праасьвяшчэнства Мітрапаліта, Першаярарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Ўладыкі Мікалая.

Пражыў Уладыка Мікалай 85 гадоў. Болей за палову свайго доўгага жыцьця, 48 гадоў, прысьвяціў ён службе Богу і Бацькаўшчыне-Беларусі. Калі прыйшла патрэба-пакліканьне, Уладыка Мікалай, будучы маладым сябрам Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) рашуча, ахвярна аж да самавырачэньня, вырашыў стацца сьвятаром БАПЦ. Ён ведаў, што шлях, які ён выбраў, будзе цяжкім, няўдзячным, цярністым, шляхам змаганьня за незалежную беларускую царкву.

Уладыка Мікалай стварыў цэлую эпоху ў жыцьці беларусаў Канады. Каб расказаць пра ўклад Уладыкі Мікалая ў беларускае жыцьцё трэба хоць коратка расказаць пра гісторыю гэтай эпохі.

Арганізаванае беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Канадзе пачалося з заснаваньнем у 1948-м годзе ЗБК. Мэты й шляхі арганізацыі былі вызначаныя кіраўніцтвам гэтак:

1. Нам патрэбная моцная нацыянальная арганізацыя верная ідэалам 25-га Сакавіка, ідэалам дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, Ураду і Радзе БНР.

2. Арганізацыя павінна мець, як маральную апору, сваю Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву.

3. Беларуская нацыянальная арганізацыя павінна мець сваю матар'яльную базу: дом для грамадзкага карыстаньня, у якім можна было-б уладзіць і царкву.

Маючы акрэсьленыя мэты дзеяньня, мы, сябры ЗБК, імкнуліся нашыя мэты крок за крокам зрэалізаваць. Кіраўніцтва занялося справаю куплі беларускага дому, што было складаным, бо ніхто з нас, новых эмігрантаў, ня меў ані грошай, ані свайго кутка.

Другое, нам таксама трэба было знайсьці беларускага сьвятара, які падпарадкаваўся-б юрысдыкцыі БАПЦ. Такога не было, хоць сярод нас быў беларускі нацыянальнасьведамы сьвятар.

Адзін сярод нас малады сябра Міхась Мацукевіч, ідучы за нутраным голасам-пакліканьнем ды голасам беларускага патрыятызму, вырашыў пасьвяціць сваё жыцьцё службе Богу і Бацькаўшчыне-Беларусі. На гэта патрэбная яму была ня толькі духовая, але і тэалягічная падрыхтоўка. Таму ён накіраваўся ў Вініпэг у Духоўную Ўкраінскую Сэмінарыю, якую пасьпяхова скончыў у траўні 1954-га году, і быў высьвячаны ў сьвятарскі сан.



У Таронта тымчасам пад канец лета 1954-га году ЗБК купіла першы беларускі дом у Канадзе, што на вуліцы Дандас, 1000. Старшынём ЗБК тады быў веч. пам. маг. Алесь Грыцук, сакратаром сьв. пам. Мікола Ганько. Зь дзьвюх найпрыгажэйшых пакояў дому пабудавалі мы першую ў Канадзе капліцу БАПЦ імя сьв. Кірылы Тураўскага. Як помнік сьв. пам. Мечаславу Рачыцкаму, рыма-каталіку, дзейнаму сябру ЗБК, дагэтуль у нашай царкве красуецца па-мастацку зробленыя ім Царскія вароты іканастасу.

Першая Багаслужба ў Таронта, якую ўрачыста адправіў, вярнуўшыся зь Вініпэгу, а. Міхал Мацукевіч, пазьнейшы наш Уладыка Мікалай, адбылася 2-га кастрычніка 1954-га году. Псаломшчыкам і кіраўніком хору быў Пётра Слаўко (калісь ён гэтыя функцыі поўніў у Менску), а ягоная жонка спн. Слаўко была галоўнай "пеўчай", бо ведала літургію і царкоўныя напевы.

А 20-га лістапада таго-ж 1954-га году адбылося ўрачыстае асьвячэньне першага ў Канадзе Беларускага Дому на Дандас, 1000 у Таронта Яго Праасьвяшчэнствам Архіяпіскапам БАПЦ Уладыкам Васілём зь Нью Ёрку ў прысутнасьці вялікай колькасьці суродзічаў з Канады й ЗША, чуць ня ўвесь Кліўленд прыехаў.

І так, нягледзячы на цяжкасьці й маральны ўдар, якім быў раскол у 1952-м годзе, Згуртаваньне Беларусаў Канады ўжо ў 1954-м годзе здабыло сабе матар'яльную і духоўна-рэлігійную базу. Мела сваю беларускую царкву, свайго сьвятара, свой беларускі дом, сваю газэту "Беларускі Эмігрант", якая зьбірaў беларусаў Канады пад крыльлі ЗБК ды парафіі БАПЦ.

Празь пяць гадоў сядзібаю ЗБК ды месцам царквы быў дом на Дандас, 1000. У 1959-м годзе ЗБК гэты дом прадае і грошы ад продажу ўкладае ў куплю Беларускага Рэлігійна-Культурнага Цэнтру на 524 Ст. Клярэнс Авеню ў Таронта. Будынак гэты быў набыты ў канцы жніўня 1959-га году, 21-га і 22-га лістапада, пасьля рамонтаў, уладжаньня капліцы-царквы, адбылося ўрачыстае яго асьвячэньне з удзелам Яго Праасьвяшчэнства Ўладыкі Васіля зь Нью Ёрку.

У жніўні спаўніцца 44 гады нашаму Рэлігійна-Культурнаму Цэнтру ў Таронта. Але-ж, каб купіць дом і правесьці ў ім неабходныя рамонты й уладжаньні, патрэбныя былі грошы. Іх трэба было сабраць. Гэтаю справаю ўжо даўно займалася Галоўная Ўправа ЗБК і газэта "Беларускі Эмігрант" ды наш айцец Міхал, які энэргічна і ахвярна аддаецца справе здабываньня фондаў на фінансаваньне царквы. "н езьдзіць па ўсіх бліжэйшых, а і далёкіх асяродках, дзе толькі жывуць беларусы, расказвае ім пра куплю беларускага дому ў Канадзе, у якім пабудаваная беларуская царква, і просіць аб ахвяры. І беларусы адгукнуліся пазытыўна. Наагул трэба прызнаць, што наша беларускае грамадзтва ў Канадзе, ды й усёй эміграцыі, ахвярнае, таму мы маглі шмат што асягнуць.

Агульна прынята, што сьвятара ўтрымлівае парафія. Але наш айцец Міхал у нядзелі й сьвяты служыць у царкве, а на працягу тыдня працуе на фабрыцы, каб зарабіць на пражыцьцё. І гэтак працаваў ён на фабрыцы праз пятнаццаць гадоў аж да таго часу, калі ў 1969-м годзе стаўся япіскапам. Тады грамадзтва сказала, што япіскап ня можа працаваць на фабрыцы.



Уладыка Мікалай быў заўсёды цесна зьвязаны зь беларускім нацыянальным жыцьцём у Канадзе. Пры канцы 1960-х гадоў Уладыка Васіль стараецца аб новым беларускім япіскапе. Не дарма-ж ён, назіраючы за душпастырскай і беларускай дзейнасьцю айца Міхала, зьвярнуўся да яго з прапановаю ўзяць на сябе такі цяжар адказнасьці япіскапскага сану. Айцец Міхал, пэўна, мусіў добра заглянуць у глыбіню сваёй душы, каб даць адказ.

Ды, відавочна, ад самага пачатку, ад 50-х гадоў, тут дзеіла накіраваньне Сьвятога Духу, Волі Божае. Ісус Хрыстос, як калісь сваіх апосталаў, пасылаў Міхася Мацукевіча, а пасьля айца Міхала і казаў яму: "Вазьмі свой крыж і йдзі за мною". І айцец Міхал узяў свой крыж, які быў цяжкім ён ня быў, і пайшоў за Хрыстом. Спатыкаючыся і падаючы ад зьнямогі, ішоў Уладыка Мікалай сваёй цярністай крыжовай дарогай аж да 18-га чэрвеня 2002-га году, калі аддаў свой дух. І мы молімся, каб Ісус Хрыстос прыняў Яго ў Валадарства Нябеснае.

Гэта дзякуючы Ўладыку Мікалаю царква Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта была, хіба, з усіх праваслаўных цэркваў пад сонцам самаю беларускамоўнаю. Ён, беларускі патрыёт, разумеў і верна, як сапраўдны пастыр, служыў ідэі незалежнае беларускае царквы, як адной з перадумоваў здабыцьця дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Таму цяпер ў Беларусі БАПЦ забароненая, бо яна ёсьць шляхам да здабыцьця дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі ад Расеі.

Дастойны Ўладыка Мікалай, Вы сваім жыцьцём здабылі й пакінулі па сабе незацёрты сьлед, як канадыйцы кажуць "You made a difference". Вы сталіся пачаткам і кіраўніком ужо паўвякавога існаваньня БАПЦ у Канадзе. Гэтым Вы паставілі сабе манумэнт, занялі месца ў гісторыі беларускае царквы, у гісторыі Беларусі.

Вечная Вам памяць!

***Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ,***
***Былая Старшыня ККБК***

## Тыдзень Паняволеных Народаў

*Заканчэньне. Пачатак на бач. 1*

далучаюцца да супольнасьці усіх людзей добрай волі ў працы дзеля таго, каб прыйшоў дзень, калі людзі ўсіх нацыяў змогуць вызначаць свой уласны лёс і зрабіць крокі да здабыцьця дэмакратычных прынцыпаў, якія так шануюць амэрыканцы".

Пасьля збору на 59-й вуліцы ля гатэлю Плаза грамада маніфэстантаў вырушыла да Катэдры Сьвятога Патрыка, дзе адбылася экумэнічная імша за паняволеныя народы, якую адправіў кардынал Іган. У казані кардынал узгадаў сьвятую справу змаганьня супраць тыраніі й таталітарызму і адзначыў, што дапамога народам, якія пакутуюць пад уціскам дыктатарскіх рэжымаў, ёсьць абавязак кожнага хрысьціяніна.

Затым па 5-й Авэню грамада прайшла маршам да 72-й вуліцы. Наперадзе ішоў аркестар, у паветры лунала сьцягі паняволеных краёў, але найбольш было беларускіх бел-чырвона-белых сьцягоў. Прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня несьлі плякаты з надпісамі "Мы хочам вольнай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі", "У Беларусі 2 бяды - Лукашэнка і Чарнобыль", "Спыніць этнацыд у Беларусі", "Падтрымаем Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі" ды іншыя. У Цэнтральным Парку адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдня Паняволеных Народаў, на якім выступіў старшыня Камітэту Паняволеных Народаў сп. Х. Уліх, прадстаўнікі іншых паняволеных народаў. Ад беларускіх арганізацыяў выступіў старшыня нью ёрскага аддзелу БАЗА сп. Віталь Зайка, які адзначыў змаганьне беларусаў за незалежнасьць і дэмакратыю, дапамогу амэрыканскага народу ў гэтым, і патрэбу для ўсіх народаў Усходняй Эўропы, а таксама іхных арганізацыяў у ЗША, спрычыніцца да ліквідацыі апошняй дыктатуры на эўрапейскім кантынэнце.

***Віталь ЗАЙКА***

# Гісторыя газэты "БЕЛАРУС"

**Грамадзкую газэту не маглі не закрануць, натуральна, праблемы, што тое грамадзтва хвалявалі, разьядноўвалі, і пра іх далей будзе весьціся гаворка. Зараз-жа хочацца зьвярнуць увагу на факт канфэсыйнай талерантнасьці на старонках "Беларуса", калі, незалежна ад веравызнаньня і пагляду галоўнага рэдактара, друкаваліся матар'ялы Праваслаўнай Царквы, Каталіцкай, Грэка-Каталіцкай, зьмяшчалі свае словы пратэстанты, прадстаўнікі іншых Цэркваў. Ідэю, якою кіравалася і па-сёньня кіруецца рэдакцыйная калегія газэты, выклаў 15-га красавіка 1972-га году тагачасны рэдактар "Беларуса" Ст. Станкевіч у лісьце да Уладыкі Мікалая:**

"Яго Высокапраасьвяшчэнству Япіскапу БАПЦарквы Уладыку Мікалаю ў Таронта, Канада.

Высокадастойны Уладыка,

У гэтым лісьце хацелася-б шырэй выясьніць асноўныя прынцыпы, якімі кіруецца газэта "Беларус", а таксама беспасярэднія прычыны, дзеля якіх ня можа быць надрукаваны ў ёй прысланы нам артыкул Грыбка "Ізноў ілжуць". Гэтыя прычыны наступныя.

Першае. Артыкул на вылучна царкоўную тэму, канкрэтна ён палемізуе й зьняпраўджвае яўную хлусьню, зьмешчаную ў царкоўным часапісе а. І. Лапіцкага "Царкоўны Сьветач", а таму найбольш адпаведнае яму месца ў царкоўным часапісе БАПЦ "Голас Царквы". Даволі дзіўна: рэдактар "Голасу Царквы" сп. М.Міцкевіч усьцяж жаліцца, што ня мае даволі матар'ялу для друкаваньня, а тымчасам матар'ялы, цалкам адпаведныя для "Голасу Царквы", прысылаюцца ў сьвецкую газэту "Беларус". Мы ахвотна друкуем у "Беларусе" матар'ялы, навет і абшырныя, зь багучага беларускага царкоўнага жыцьця, як, прыкладам, справаздачу з наведваньня Архіяпіскапам Андрэем Ангельшчыны, тады гэткую-ж справаздачы з наведваньня Япіскапам Мікалаем Аўстраліі й падобн. Затое матар'ялы царкоўна-гістарычныя, дагматычнага характару, асабліва-ж палемічнага характару, якім ёсьць артыкул Грыбка "Ізноў ілжуць", для "Беларуса" як органа сьвецкага зусім не падыходзяць. Не апошняе важнасьці й чыста практычныя меркаваньні: у "Беларусе" заўсёды вельмі цесна з друкаванаю плошчаю, каб зьмяшчаць у ім матар'ялы хоць і важныя ў вагульным сэньсе, але нясугучныя профілю нашае газэты, затое ў "Голасе Царквы", профіль якога ня супярэчыць артыкулу "Ізноў ілжуць", друкаванай плошчы, як нам ведама, даволі.



*Рэдактар газэты "Беларус" Станіслаў Станкевіч.*

Другое. Ад колькіх год газэта "Беларус", ідучы напярэймы грамадзкай апініі, пастанавіла не ўваходзіць у палеміку зь людзьмі й прэсавымі органамі, што сьвядома кіруюцца ілжой, паклёпніцтвам, інсынуацыямі й дэмагогіяй ў змаганьні за свае групавыя ды асабістыя, нярэдка інсьпіраваныя яўна варожымі нам сіламі, інтарэсы й мэты. У прынцыпе мы не адмаўляемся ад аб'ектыўнае палемікі, але зь людзьмі, што, паводля нашага перакананьня, мыляюцца, не разумеюць некаторых справаў або хвальшыва паінфармаваныя, але якім нельга закінуць злой волі й сьведамага намеру шкоджаньня нашай нацыянальнай справе. А таму, што "Царкоўны Сьветач" у сваёй ілжы й паклёпніцтве супраць БАПЦ кіруецца якраз злой воляй і сьведамым шкоджаньнем, ён проста недастойны нашае ўвагі. З гэтае прычыны мы спынілі ўсякую палеміку з хмараўскім "Беларускім Голасам", навет не ўважаем за патрэбнае бараніць саміх сябе перад ягонымі паклёпамі, бо хлусьня хмараўскіх пашквіляў нагэтулькі відавочная, што не дастойная якой-небудзь увагі.

Праўда, той-сёй можа сказаць, што хмараўскай хлусьні, а таксама й падобнай да яе хлусьні а. Лапіцкага ды а. Каўша некаторыя могуць паверыць, калі гэтая хлусьня ня будзе публічна зьняпраўджаная. На нашую думку, разумны й сумленны чалавек гэнай хлусьні ня паверыць, а могуць паверыць адно людзі або бязмежна дурныя й недаразьвітыя, або тыя, што маральна ды ідэйна самі стаяць ані ня вышэй за аўтараў гэнае хлусьні. А вучыць дурных або пераўзгадоўваць людзей амаральных - лішняя трата дарагога часу, якога й так не стае для справаў куды важнейшых.

У свой час мы зьмясьцілі ў "Беларусе" колькі палемічных артыкулаў Грыбка супраць а. Лапіцкага, як "Куды вядзеш?", "Данос" і інш. Як пазьней пераканаліся, сярод паважных нашых людзей артыкулы гэныя мелі рэзананс ня зусім карысны для нашае газэты.

Тарнаваная газэтай "Беларус" тактыка апраўдала сябе поўнасьцяй. Пра гэта найлепш сьведчыць той факт, што ад часу спыненьня ўсякае палемікі з тымі, якія недастойныя, каб зь імі палемізаваць, хто замяж фактаў і аргумэнтаў сьвядома паслугоўваецца ілжой і правакацыяй, хто пры ўсім гэтым кіруецца злой воляй і жаданьнем шкоджаньня нацыянальнай справе, - павага і аўтарытэт "Беларуса" сярод грамадзтва падняліся вельмі высока. Адпаведна з гэтым павялічылася грашовая дапамога для газэты. А гэта для нас таксама аргумэнт не апошняй вартасьці, бо газэта выдаецца вылучна за грамадзкія ахвяры. У другой палавіне сакавіка сёлета па лініі газэты я наведаў беларускія асяродкі ў Кліўлендзе, Чыкага й Дэтройце. І ўсюды нашыя прыхільнікі, чытачы і ўспамагальнікі із задавальненьнем апрабавалі цяперашнюю тактыку газэты. Гэтая тактыка заўсёды апрабоўвалася й рэкамэндавалася й на Кангрэсах БАЗА, і на розных грамадзкіх зборках ды нарадах, і ў шматлікіх лістох у рэдакцыю. Гэткая вось грамадзкая рэакцыя і ацэна нашае дзейнасьці ўскладае на нас абавязак цьвёрда трымацца ўзятай апошнімі гадамі газэтай "Беларус" лініі.

Др. Ст. Станкевіч, старшыня рэдакцыйнае калегіі газэты "Беларус" і галоўны рэдактар".

***Рубрыку вядзе Лявон ЮРЭВІЧ***

# Чаго мы шукаем?

"Але мы - не таго мы шукаем, не таго на чужыне нам трэба" - пісаў у "Эміграцкай песьні" Максім Багдановіч. Пра пошукі эмігрантаў пачатку ХХ-га стагодзьдзя, эмігрантаў паваенных мы ведаем, напэўна, больш як пра саміх сябе, сёньняшніх, - з навуковых публікацый, з гістарычных досьледаў, з расповядаў старэйшых. А чаго трэба нам, маладым, хто прыехаў сюды напрыканцы мінулага ці напачатку новага, ХХІ-га стагодзьдзя?

Будзьма шчырымі: мала сярод нас сапраўдных палітычных уцекачоў. Па-праўдзе, мо ня ўсе і згодныя з азначэньнем "эмігрант", але што паробіш, калі так за нас вырашыла Бацькаўшчына, дакладней, тыя чыноўнікі, якія зрабілі эміграцыйны шлях адзіным магчымым, каб сьвет паглядзець, навуку здабыць, капейчыну зарабіць. Ня мы яе выракліся. У любой іншай краіне, той самай Польшчы, чалавек вольны выехаць "у сьвет" і вярнуцца дахаты, ня зганьбіўшы сябе ў вачох пазасталых сваякоў, сяброў, паплечнікаў па-ранейшаму нядобрым на тых землях словах "эмігрант".

Але гэта іхнае стаўленьне, іхная думка. Што-ж мы?

Мы ладкуем новае сваё жыцьцё, вучым мову і вучымся самі, сумуем па пакінутаму сьвету, але шукаем сяброў у новым. Нам тут не забараняюць быць беларусамі, але й не прымушаюць імі быць, таму багата хто, здабыўшы неабходныя паперы, адвальваецца ад грамады ды зьнікае ў неабсяжных амэрыканскіх далягладах.

Шукаць іх, відавочна, ня будуць, але для чалавека сумленнага, маральнага мусіць актуальным заставацца даўнейшы лёзунг: сплочвайце даўгі! Грашыма, учынкам, зробленым, увагаю, клопатам пра новапрыбылых - так, як сустракалі некалі вас саміх. Досыць толькі браць, старая эміграцыя не бяздонная.

Што мы можам рабіць? Чым канкрэтна дапамагчы? Дадаць да таго, што было зроблена да намі й ня намі?

Можа варта было-б заснаваць прэмію ці стыпэндыю імя Васіля Быкава для тых навукоўцаў або пісьменьнікаў, якія маюць добрую навуковую працу, рукапіс кнігі, але ня ў стане яе выдрукаваць? Скласьці статут, абраць камітэт, выпрацаваць умовы - і раз на год у нашай Бацькаўшчыне большала-б на адну вартасную кнігу.

Давайце зробім, спадарства, бо досыць быць басотаю.

***Антон ЯСЕВІЧ***

# Ангельскія газэты аб Беларусі

У сталіцы Узьбекістану Ташкенцe 4-5 траўня праходзіла канфэрэнцыя пад эгідаю Эўрапейскага Банку па Рэканструкцыі й Паляпшэньню. У ёй бралі ўдзел 27 краінаў былога савецкага блёку. Для васьмі зь іх, Латвіі, Летувы, Польшчы, Славакіі, Славеніі, Вугоршчыны, Чэхіі й Эстоніі, гэта была, можна сказаць, разьвітальная канфэрэнцыя, бо яны ўступаюць у Эўразьвяз. А нашая Беларусь застаецца і надалей адкінутаю ад інтэграцыйных працэсаў у Эўропе. Гэтая сустрэча была дэталёва апісаная ў трох артыклах у газэце "The Times" ад 05.05.03. Найбольш месца было прысьвечана Узьбекістану, але ўспаміналася і Беларусь, зноў зь вельмі крытычнымі заўвагамі. У адным месца аўтар артыкулу Робін Шэпгард называе Беларусь і Украіну "парыйнымі" дзяржавамі. Аб Лукашэнку ён піша: "У Беларусі пагарда прэзыдэнтам Лукашэнкам да правоў чалавека прывяла да таго, што ён заслужыў тытул апошняга дыктатара Эўропы." Далей аўтар цытуе іранічнае выказваньне палітолягаў, што Беларусь і Украіна зрабілі пасьпяховы пераход ад краінаў Другога Сьвету да Трэйцяга Сьвету.

**THE TIMES**

29.05.03 яшчэ адна уплывовая ангельская газэта "The Guardian" зьмясьціла артыкул пад красамоўным загалоўкам "Беларускі лідар патэнтуе свой тытул". Гаворка ідзе пра новы беларускі закон аб ужываньні слова "прэзыдэнт". Лукашэнка ўважае, што гэтае слова можа адносіцца ў Беларусі толькі да ягонае асобы. З-за гэтага ад жніўня месяца ў Беларусі будзе забаронена ўжываньне гэтага слова ў адносінах усіх іншых афіцыйных асобаў і кіраўнікоў. Такая забарона ня ёсьць нечым новым. Колішні дыктатар і тыран афрыканскай Уганды таксама ў свой час забараніў ужываньне слова "прэзыдэнт" іншымі асобамі й прысвоіў яго сабе. Газэта ўспамінае беднасьць у Беларусі й татальны кантроль КГБ. Заканчваецца артыкул сьцьвярджэньнем, што рэфэрэндум, праведзены ў Беларусі ў другой палове 90-х гадоў, які пашырыў паўнамоцтвы Лукашэнкі ня быў дэмакратычным.

Няхай будзе мне дазволена даць некаторыя заўвагі. У дэмакратычных краінах слова "прэзыдэнт" ёсьць шырока пашыраным і ўжываецца акрамя галоваў дзяржаваў рознымі дырэктарамі фірмаў, старшынямі й навет царкоўнікамі. Гэта нікому не перашкаджае, і ніхто не імкнецца манапалізаваць ужываньне гэтага слова. А ў Францыі навет адзін з гатункаў сыру называецца "Прэзыдэнт". Нажаль, у нашай шматпакутнай Беларусі робіцца інакш. Замест таго, каб вырашаць важнейшыя эканамічныя праблемы, ліквідоўваць наступствы Чарнобыля, абараняць незалежнасьць, падтрымліваць разьвіцьцё культуры й навукі кіраўнік дзяржавы займаецца такімі дробязямі.

У газэце "The Times" ад 21.06.03 быў кароткі артыкул аб затрыманьні тыража "Белорусской Деловой Газеты", якая была закрытая за "абразу прэзыдэнта Лукашэнкі". Выдаўцы газэты вырашылі друкаваць газэту ў Смаленску (Расея), каб потым прывозіць у Беларусь. Пасьля перасячэньня мяжы на мініаўтобус, які вёз газэту, быў зьдзейснены напад міліцэйскага атраду "Тайфун", які скамфіскаваў ўсе асобнікі. Прычыною нападу стала падазрэньне, што ў газэце былі заклікі да дзяржаўнага перавароту ў Беларусі.

***Міхась ШВЭДЗЮК, Ангельшчына***



# Весткі й Паведамленьні

нью ерскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://belam.cjb.net №8 (451)

# ЛІПЕНЬСКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

У суботу 12-га ліпеня ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбыўся чарговы сход аддзелу БАЗА. Напачатку сходу прысутныя ўшанавалі хвілінай цішы памяць народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава. Старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка зачытаў урыўкі зь лістоў Васіля Быкава, дасланых кіраўніцтву аддзелу.

Затым са словам пра Быкава выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён сказаў: "Быкаў, бадай першы зь беларускіх пісьменьнікаў, выйшаў на ўзровень сьвету. Але не таму, што ў Беларусі не было вялікіх пісьменьнікаў да яго. Лёс вызначыў так, што менавіта ад Быкава сьвет даведаўся пра Беларусь болей, чым ад іншых пісьменьнікаў, палітыкаў ці мастакоў. Быкаў паказаў асобу высокай духовай якасьці, асобу ў пераломным пункце жыцьця, у перыяд выбару паміж сьмерцю, праўдай і няпраўдай. У такія моманты высьвятляецца сутнасьць чалавека, і выбар рыхтуецца як-бы ўсім папярэднім ягоным жыцьцём. Беларускія тыпы, выведзеныя ў творах Быкава, паказаныя ў беларускім кантэксьце - гэта адкрыцьцё ў эўрапэйскай сыстэме вобразаў, гэта эўрапейскі кірунак. Быкаў узьняў вобраз беларуса, магутны й спакойны, што мае гармонію паміж рацыяй і сэрцам. Быкаў паказаў духовую моц празь беларускі дух, і праз свае творы зрабіў беларускую нацыю сусьветнаю. Што прыцягвала да ягоных твораў, пачынаючы з самых раньніх аповесьцяў? Гэта - праўда. Праўда чалавека на вайне. Быкаў прайшоў усю вайну, але ніколі не хваліўся, не хадзіў з "іканастасам" савецкіх узнагародаў. Калі ў 1967-м годзе выйшла аповесьць "Круглянскі мост", сталіністы, якія адчувалі што ён - "чужы", накінуліся на яго за "абстрактны гуманізм" і "паразьніцтва". Праўда пра партызанскую вайну, што была схаваная пад хвалебнымі опусамі пра "народных мсьціўцаў", выглянула ўпершыню ў падсавецкай Беларусі менавіта з радкоў Быкава. ˆн першым зь беларускіх пісьменьнікаў беспаваротна ўстаў на бок беларускага Адраджэньня, быў адным з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту, абараняў ідэалы БНР і бел-чырвонабелы сьцяг. І гэтага яму не маглі дараваць улады - ні савецкая, ні сёнешняя. Як толькі не аплёўвалі яго, называлі "літпаліцаем", стваралі нязносныя ўмовы жыцьця, пакуль не выціснулі на чужыну. Быкава цанілі расейскія інтэлектуалы. І хоць у многіх з іх, як толькі заходзіць аб незалежнасьці Беларусі, адразу вылазяць "шавіністычныя рогі" - усё-ж да гонару расейскай інтэлігенцыі трэба сказаць, што яна не пакінула ў бядзе Быкава. Кантрастам гэтаму выглядае стаўленьне да Быкава рэжыму ў Беларусі. Я лічу, што менавіта гэты рэжым нясе пэўную адказнасьць за пакуты й сьмерць Быкава.

Ад нас адыйшла асоба, што сапраўды яднала нацыю. Да Быкава ўсе пласты беларускага грамадзтва ставіліся з пашанаю, ён быў постацьцю, аўтарытэтнай для ўсіх людзей.

Я быў у блізкіх дачыненьнях з Быкавым з 1988-га году, з часоў стварэньня БНФ. Мы й ведалі, і адчувалі, што Быкаў - вялікі чалавек і пісьменьнік, стараліся берагчы яго, ягоны час. Быкаў адчуваў патрэбу ўвядзеньня тэмы нацыянальнага змаганьня беларусаў у літаратуру, і менавіта Быкаў у аповесьці "На чорных лядах" першы напісаў пра Слуцкае паўстаньне; быў зьняты фільм, у якім ці не ўпершыню беларусы прадстаўленыя як змагары за свой нацыянальны дом, змагары за бацькаўшчыну, а акупанты апранутыя ў бальшавіцкія строі.

Быкаў больш не жыве, але нават ягоная сьмерць і пахаваньне зрабіліся акордамі ў барацьбе за незалежнасьць. Тысячы менчукоў, што прыйшлі на пахаваньне, тысячы й мільёны людзей Беларусі, што ўшанавалі ягоную памяць - гэта дае надзею. Тыя, хто зьняверыліся - здабылі веру. Незадоўга да сьмерці Быкаў казаў: "Я веру, што Беларусь жыве і будзе жыць". Зробім-жа ўсё дзеля гэтага."

Затым выступіў старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель. Ён у прыватнасьці адзначыў, што Быкаў прыйшоў на эміграцыю ў 1962-м годзе, калі ў часапісе "Беларуская Моладзь", з ініцыятывы Юркі Станкевіча, зьявілася зацемка пра новы, адметны голас у беларускай літартуры. Прыкладна ў той-жа час зьявіліся нататкі ў "Нью Ёрк Таймс", іншых англамоўных і расейскамоўных газэтах Амэрыкі. Першым крытыкам зь беларускай эміграцыі, што зьвярнуў увагу на Быкава, быў др. Станіслаў Станкевіч, які прароча пісаў: "Гэты пісьменьнік створыць тое, што патрабуе нацыянальная літаратура, і тое, што трэба для выхаду на сусьветную арэну". Першай ва ўнівэрсытэцкім асяродзьдзі стала займацца творчасьцю Быкава праф. Вольга Арэхва з Паўднёваілінойскага ўнівэрсытэту. У "Маральным фундаманце пэрсанажаў Быкава", першай працы па-ангельску пра пісьменьніка, яна пісала: "З твораў Быкава вынікае, што не абставіны кіруюць асобаю, а сам чалавек робіць выбар , ад якога залежыць будучыня". Напрацягу 1960-х гадоў выйшла каля паўсотні працаў заходніх дасьледчыкаў. Зьяўляліся пераклады па-ангельску, але пераважна друкаваныя ў СССР. Тады ўжо беларускія навукоўцы на эміграцыі, найперш Зора Кіпель, заўважылі неадпаведнасьць гэтых перакладаў арыгіналам, і прыцягнулі ўвагу да цэнзураваньня творчасьці Быкава праз пераклад. Тады-ж друкаваліся творы Быкава ў беларускіх эміграцкіх выданьнях, а кніга "Мёртвым не баліць" была апублікаваная ўпершыню асобным выданьнем менавіта на эміграцыі. "Першая мая з Зорай сустрэча з Быкавым адбылася ў Менску, у фронтаўскім будынку на вул. Варвашэні; было шмат абгаворана, Быкаў прасіў забясьпечваць яго літаратурай з эміграцыі, мы гэта рабілі. Сыйшліся неяк адразу на агульным грунце, лучнасьць была поўная." Др. Кіпель узгадаў таксама высілкі па вылучэньні Быкава на Нобелеўскую ўзнагароду, спробы запрасіць ад БІНіМу наведаць ЗША. Др. Кіпель адзначыў, што Быкаў першы і бадай адзіны зь беларускіх пісьменьнікаў імкнуўся дабіцца зьменаў у беларускай літаратуры, усталяваць для яе новую эпоху, адпаведную статусу літаратуры суверэннай нацыі.



*Сваімі думкамі дзеліцца Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. А. Шукелойць.*

"Калі Быкаў-чалавек пакідаў зямлю, і сыйшоў пад бел-чырвона-белым сьцягам, раптам усім стала ясна, што Быкаў-пісьменьнік застанецца ўсенацыянальным сымболем еднасьці, застанецца назаўсёды."

Затым выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Ён сказаў, што асабіста ня ведаў Быкава, але яны абменьваліся прывітаньнямі, былі ў кантакце. Сп. Шукелойць адзначыў, што магіла Быкава будзе для маладога пакаленьня сымболем, на якім складаюць прысягу, так як перад тым было на магіле прафэсара В. Ігнатоўскага - прысягу па вернасьць Бацькаўшчыне. "Быкаў стараўся быць у глыбі жыцьця, і як чалавек вялікай вартасьці, ён будзе жыць так доўга, як доўга гісторыя будзе падаўжаць наш род. Ягоная, бадай, галоўная вартасьць - змаганьне з ілжой. ˆн паказаў дарогу сучасным маладым пісьменьнікам." Сп. Шукелойць адзначыў спробы высунуць кандыдатуру Быкава на ўзнагароду Нобеля, параўнаў яго з іншымі нобелеўцамі з беларускіх земляў - Сянкевічам і Мілашам. Прамоўца адзначыў, што Быкаў застанецца для наступных пакаленьняў прыкладам самаадданасьці, ўзорам маральнасьці.

З сваімі ўспамінамі выступіў госьць зь Віцебску сп. Іосіф Навумчык, які ведаў В. Быкава з 1970-х, часта сустракаўся з ім на Віцебшчыне, а таксама ў ягоныя апошнія месяцы жыцьця - у Празе. Быкаў казаў, што толькі ў яднаньні беларусаў, незалежна ад партыяў ды ідэалёгіяў ляжыць будучыня народу, і нам трэба добра зразумець і пашыраць гэтыя словы. На пахаваньні Быкава было 40-50 тысяч чалавек, і гэта шмат гаворыць пра павагу да пісьменьніка-патрыёта; такога мора людзей не было ў Менску прынамсі з часу масавых дэманстрацыяў сакавіка 1996-га году.

Эмацыйным быў выступ спн. Галіны Навумчык, якая была разам зь пісьменьнікам у апошнія месяцы й дні жыцьця. Яна адзначыла, што Быкаў не хацеў вяртацца ў Беларусь, яго фактычна выманілі. І ён меў зваротны білет у Прагу.

Быкаў ня толькі вялікі пісьменьнік, вялікі беларус. Быкаў - нашае маральнае апірышча. Трэба ўзяць за правіла суадносіць свае ўчынкі з такім маральным аўтарытэтам. Быкаў быў часам песімістам, часам гучалі ў яго ноткі расчараваньня. Але ён казаў: "Нават калі беларусаў пакідае надзея, беларусы павінны быць разам". Прыслухаемся-ж да гэтых словаў. Г. Навумчык адзначыла, што на пахаваньні В. Быкава былі вянкі ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня і ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Затым сп. В. Зайка даў агляд падзеяў у Беларусі за апошні месяц, а сп. Зянон Пазьняк выклаў аналіз палітычнага працэсу ў Беларусі.

У "Розным" прагучалі аб'явы, пытаньні, паведамленьні, адбылося знаёмства з новымі людзьмі.

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
***Valeri Dvornik***
***172 Millspring Rd.***
***Manhasset, N.Y. 11030***
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***
**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
***A. Mickievic***
***90-16 54th Ave***
***Elmhurst, NY 11373***
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя* ***A. Mickievic***

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 9-га ЖНІЎНЯ 2003-га ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягнікам падземкі F да 169th Street.***

# Аб Беларусі й беларусах у ангельскіх кнігах

Беларускі край вельмі ўраджайны на таленавітых людзей. Нарадзілася ў ім шмат людзей з сусьветнаю славаю, палкаводцы, дыпляматы, пісьменьнікі, паэты, кампазытары, вучоныя з Нобелеўскімі прэміямі. Але з-за таго, што Беларусь была вякамі пад панаваньнем "братоў"-славянаў, як з захаду, так і з усходу, шмат хто з гэтых людзей ваявалі, пісалі й працавалі на карысьць чужынцаў. Для свае Бацькаўшчыны яны, магчыма, сталіся забытымі й страчанымі назаўсёды. Бо, сапраўды, ці ёсьць агульнаведамым, што такія славутыя людзі як І. Берлін, Х. Вэйцман, І. Дамейка, Х. Дастаеўскі, Л. Кандратовіч-Сыракомля, Т. Касьцюшка, С. Манюшка, А. Міцкевіч, С. Пясэцкі, Сухі, Дз. Шастаковіч і т. д. альбо нарадзіліся ў Беларусі, альбо маюць беларускія карані? Сумняваюся.

Каб адказаць на пытаньне, чаму і як гэта сталася, трэба памятаць, што палякі й расейцы доўгі час уважалі, а некаторыя думаюць і цяпер, што Беларусь - неад'емная частка Польшчы ці Расеі. Ды ня толькі яны ўважалі беларускія землі сваімі. А ў Заходняй Эўропе, ды можа, і на ўсім сьвеце розныя выдавецтвы, апіраючыся на польскія і расейскія кнігі-жэралы паўтаралі тое самае, што не было згоднае з гістарычнаю праўдаю.

Аўтар гэтага артыкулу гадамі цікавіўся гэтаю справаю, пераглядваў ангельскія энцыкляпэдыі, бібліяграфічныя даведнікі, альманахі, газэты й г. д. і ўважліва вывучаў, што было напісана пра Беларусь і беларусаў, аб людзях, якія нарадзіліся ў Беларусі. Скажу шчыра, я быў расчараваны, бо тое, што пісалі ў кнігах вельмі часта было ня згоднае з гістарычным фактамі й праўдзівай рэчаіснасьцю.

Вось што я напаткаў у ангельскіх кнігах. Нашу Беларусь называюць яшчэ часам, як за савецкія часы, Byelorussia альбо White Russia. Апошні назоў ёсьць фальшывым перакладам і азначае ... Белая Расея! Цяжка апраўдаць лінгвістаў ці гісторыкаў, якія замянілі слова "Беларусь" на "Белая Расея". Але і перакладаньне назоваў краінаў на іншыя мовы ёсьць сапраўдным абсурдам.

У розных ангельскіх кнігах успамінаецца рэлігійны склад насельніцтва Беларусі. У некаторых зь іх можна напаткаць наступныя недарэчнасьці, "...бальшыня насельніцтва ёсьць рыма-каталіцкага веравызнаньня зь вялікай меншасьцю расейскага праваслаў'я..." Спатыкаюцца сцьвярджэньні, што "...Рыма-каталіцызм і Ўніяцтва ёсьць рэлігіямі Беларусі...", што супярэчыць фактам.

Калі ходзіць аб апісаньнях такіх беларускіх гарадоў як Бабруйск, Барысаў, Берасьце, Віцебск, Горадня, Гомель, Магілёў, Менск, Пінск і г. д., то ў апісаньнях шмат недакладнасьцей.

У ангельскіх бібліяграфічных даведніках і энцыкляпэдыях успамінаюцца вялікія ці шырокаведамыя людзі, якія нарадзіліся ў Беларусі. Тады, нажаль, часта пішацца, што нарадзіліся яны альбо ў Польшчы, альбо Расеі ці Летуве.

Няхай будзе мне дазволена ўспомніць некаторых з гэтых людзей і тое, што аб іх напісанае ў ангельскіх кнігах, з надзеяй, што беларусы ў ЗША, Канадзе і Аўстраліі ды іншых краінах зацікавяцца гэтаю справаю і напішуць лісты ў розныя выдавецтвы з папраўкамі й камэнтарамі. Прозьвішчы людзей даю лацінскімі літарамі ў ангельскай транскрыпцыі.

**Begin, Menachem** (1913-1992). Ізраільскі палітык. Нарадзіўся ў Берасьці. Пісалася, што нарадзіўся ў Брэсьце-Літоўскім у Польшчы. У 1913-м годзе, калі нарадзіўся Бегін, Польшча нават не існавала, Брэст-Літоўскі належаў да Расеі.

**Berlin, Irving** (1888-1989). Доўгі час жыў у ЗША. Кампазытар і аўтар шырокага кола ведамых песьняў. Нарадзіўся ў Магілёве. А пішацца, што нарадзіўся ў Тэмуне (?), Сібіры, Расея.

**Dzierzhinsky, Felix** (1877-1926). Савецкі палітык. Нарадзіўся каля Койданава, цяпер Дзяржынск. Аб ім пішуць, што ён нарадзіўся каля Мінска ў Расейскай імпэрыі.

**Chagall, Marc** (1887-1989). Мастак. Нарадзіўся ў Віцебску. У кнігах пішуць, што нарадзіўся ў Віцебску ў Расеі, і што ягоныя карціны былі намаляваныя пад уплывам расейскага фальклёру.

**Gromyko, Andrei** (1909-1889). Савецкі палітык. Нарадзіўся ў Старых Грамыках на Палесьсі. А ў даведніках пішуць, што ён нарадзіўся ў Старых Грамыках у Расеі.

**Klug, Aaron** (1926- ). Вучоны, прафэсар-хімік, ляўрэат Нобелеўскай прэміі. Нарадзіўся ў Зэльве на Гродзеншчыне. А ў бібліяграфічных даведніках пішацца, што ён нарадзіўся ў Зэльвас у Літуве. У 1926-м годзе, калі нарадзіўся А. Клуг, Зэльва належала да Польшчы, а не да Літвы й ніколі не называлася Зэльвас.

**Корбут, Вольга.** Сусьветна ведамая гімнастка. Аб ёй часам пішуць, што яна расейская гімнастка. А ў польскіх газэтах спатыкаецца, што яна польскага паходжаньня.

**Kasciuszko, Todeusz** (1746-1817). Палкаводзец. Герой у Эўропе і ЗША. Нарадзіўся ў Марачоўшчыне каля Косава. Розныя кнігі па-рознаму называюць край ягонага нараджэньня. Адныя пішуць, што ён нарадзіўся каля Косава ў Польшчы, другія ў Літве, а трэція ў Польскай Літве.

**Maimon, Solomon** (1754-1800?). Філязоф і пісьменьнік. Аб ім пішуць, што нарадзіўся ў Нясьвіжы... ў Польскай Літве.

**Mickiewicz, Adam** (1798-1855). Паэт. Нарадзіўся ў Завосях каля Наваградка, але ў даведніках і энцыкляпэдыях можна прачытаць, што ён нарадзіўся каля Наваградка ў... Літве. У 1798-м годзе, калі нарадзіўся А. Міцкевіч, Наваградак належаў да Расеі. Літва і Рэч Паспалітая ўжо не існавалі.

**Naruszewicz, Adam** (1733-1796). Гісторык. Нарадзіўся ў Лагішыне каля Пінска. Калі яго ўспамінаюць, дык пішуць, што ён нарадзіўся ў Пінску... у Расеі. У 1733-м годзе, калі нарадзіўся Нарушэвіч, і Лагішын, і Пінск належалі да Рэчы Паспалітай, а не да Расеі.

**Orzeszkowa, Eliza** (1841-1910). Пісьменьніца. У бібліяграфічным даведніку пішацца, што яна памерла ў Гродне... у Расеі.

**Peres, Shimon** (1923- ). Ізраільскі палітык. Сапраўднае прозьвішча Перскі Шыман. Нарадзіўся ў Вішневе, якое тады належала Польшчы. Таму ўсюды й пішацца, што нарадзіўся ў Польшчы.

**Sarnov, David** (1891-1971). Індустрыяліст, пачынальнік тэлевізыйных перадачаў. Нарадзіўся ў Менску, але пішуць, што гэта ў... Расеі. Зьвярніце ўвагу, што сталіцу Беларусі ўважаюць расейскім горадам.

**Shamir, Yitzak** (1915- ). Ізраільскі палітык. Сапраўднае прозьвішча Язерніцкі Іцхак. Нарадзіўся ў мястэчку Ружаны, але пішуць, што ў нейкіх Рузіноях... Польшча. У 1915-м годзе, калі нарадзіўся І. Шамір, Ружаны належалі Расеі, Польшча тады не існавала.

**Shoenberg, Isaak** (1880-1963). Спэцыяліст па тэлевізыйнай тэхніцы. Нарадзіўся ў Пінску. Пішуць, што нарадзіўся ў Пінску... у Расеі.

**Weizman, Chaim** (1874-1952). Вучоны, прафэсар-хімік, палітык, першы прэзыдэнт Ізраіля, нарадзіўся ў мястэчку Моталь каля Янава. Хадзіў у гімназію ў Пінску. Аб ім пішуць, што нарадзіўся ў Пінску... у Расеі. Краем ягонага нараджэньня называюць альбо Польшчу, альбо Расею. Улічваючы, што ў 1874-м годзе Польшча не існавала, цяжка зразумець, чаму яе ўвогуле ўспамінаюць.

Гэты сьпіс хоць і далёка няпоўны сьведчыць, што нам, беларусам, якія жывуць за мяжою, трэба нешта рабіць.

Аўтар гэтага артыкулу гадамі пісаў лісты ў розныя выдавецтвы й аўтарам кнігаў з папраўкамі, заўвагамі, абгрунтаванымі доказамі аб Беларусі, яе рэлігіі, гісторыі й людзях. І трэба аддаць належнае ангельцам, што яны, амаль без вынятку, прынялі мае крытычныя заўвагі й прапраўкі з падзякаю і абяцалі ўсё гэтае ўзяць пад увагу пры перавыданьні кнігаў. Некаторыя выдавецтвы гэта ўжо зрабілі й падаюць правільную інфармацыю.

Хачу думаць, што і іншыя беларусы паклапоцяцца аб гэтай справе і напішуць лісты ў выдавецтвы, калі заўважаць падобныя памылкі ў будучым і праз гэта падвысяць вобраз нашай Бацькаўшчыны на Захадзе.

***Міхась ШВЭДЗЮК***
***Англія***

## Вядзьмак Баршчоўскі

*Закан-не. Пачатак на бач. 6*

цюшкі - у выніку прапрадзед-вядзьмак моцна перасварыўся з ксяндзом і стаў праваслаўным).

Паводле бабулі, уся вёска хадзіла да Міная Лаўрэнава з пытаньнямі: хто зь дзяўчат увосень пабярэцца шлюбам, каго возьмуць у рэкруты, хто са старых ці хворых памрэ... І ўсё, нібыта, адбывалася менавіта так, як гаварыў прапрадзед. А сьмерці аднавяскоўцаў ён прадказваў абсалютова беспамылкова.

Скажу шчыра - я ніколі не даваў веры бабуліным словам наконт "прадказаньня будучыні". Палесьсе заўсёды славілася забобонамі. Але-ж словы "прадказаньні будучыні" зьнянацку спраўдзіліся колькі гадоў таму...

* * *

Бабуля выдатна памятае аповяд свайго дзеда пра рэкруцкі набор "пад Севастопаль". Прапрадзед быў тады зусім малым хлопцам, але дзіцячыя уражаньні запомніліся так моцна, што пра той набор ён расказваў сваёй унучцы (маёй бабулі Мары) мо разоў сто. А бабуля, дзякуй Богу, пераказала той аповед мне...

Баршчоўскія сяляне баяліся "рэкрутчыны", што той халеры. На хлопцаў, якіх забіралі ў расейскае войска (у Баршчоўцы гаварылі - "забрывалі"), глядзелі, як на нябожчыкаў. Мала хто зь іх вяртаўся ў родную вёску. Ня трапіць у рэкруты можна было ці сунуўшы хабар, ці папрасіўшы пана, каб той заступіўся. Ці то грошай у майго прапрапрадзеда не было, ці то пан яго не любіў, але-ж старэйшага брата Міная Лаўрэнава "забрылі". Дзе той Севастопаль, і навошта там ваяваць простаму хлопцу-палешуку, брат Міная ня ведаў. Яму і не казалі. На разьвітаньне мой прапрадзед Мінай, тады - малады зусім хлопец, чамусьці сказаў старэйшаму брату: маўляў, сасьней я сёньня, нібыта ты загінуў на чужыне і пахаваны на высокім узгорку. Невядома, што адказаў малодшаму брату рэкрут, але-ж у Баршчоўку ён больш не вярнуўся. Іншых зьвестак не было. Адбылося гэта, як я цяпер разумею, да 1854-га году...

У 1993-м годзе давялося мне гасьцяваць у Севастопалі. Бавячы вольны час, я без дай патрэбы паехаў кацерам на так званую "Северную сторону", на старыя, паўзакінутыя вайсковыя могілкі. У цэнтры цьвінтара, на высокім узгорку, стаіць муравана брацкае надмагільле. Сярод загінулых жаўнераў "Берасьцейскага пяхотнага палку" я са зьдзіўленьнем і нават жахам убачыў і "уньцера Лаўрэнава". Паўгадзіны я сядзеў там з шклянкаю гарэлкі і, памінаючы невядомага далёкага баршчоўскага сваяка, згадваў бабуліны словы, пачутыя ёй ад дзеда-ведзьмака - і пра чужыну, і пра высокі ўзгорак...

Чамусьці хоцелася думаць, што гэта ня проста супадзеньне.

* * *

Разумею - гісторыя выдае на прымітыўны фаталізм і часопісна-белетрыстычную містыку. Але магу паклясьціся хоць на Статуце Вялікага Княства Літоўскага, хоць на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, хоць на Бібліі - я ня хлушу. Недаверлівыя і асабліва цікаўныя могуць гэта спраўдзіць, калі наведаюць Севастопаль.

* * *

Ані прабаба Вольга, ані бабуля, ані маці не атрымалі ў спадчыну нейкіх надзвычайных здольнасьцяў. Бабуля, праўда, таксама добрая траўніца, але-ж, зь ейных словаў, ёй далека да дзеда-ведзьмака.

На няшчасьце (а можа і на шчасьце) я таксама не магу пахваліцца дарам прадказаньня.

Але адзін выпадак не дае мне спакою.

Недзе за тыдзень да сьмерці "дарагога і любімага Леаніда Ільіча Брэжнева" чамусьці сасьніліся мне ягоныя хаўтуры. Ва ўсіх падрабязнасьцях: Чырвоная плошча, аркестра, жальба... І труна, якая грукнулася ў магілу. Ніколі не даваў веры забабонам наконт "разьбітых люстэрак", "чорных котак" ды "прасыпанай солі". Але, калі я глядзеў урачыстае пахаваньне па тэлевізары, быў абсалютова ўпэўнены, што ўсё адбудзецца менавіта так, як напярэдадні сасьніў, і што труна зь нябожчыкам грукнецца ў магільную яміну.

Так яно, як ведама, і здарылася.

Вытлумачыць той сон я не магу і цяпер.

Але вось ўжо амаль дзевяць гадоў я падсьведама чакаю снапрадказаньня пра хаўтуры іншага палітычнага лідара. Хочацца верыць, што калі-небудзь дачакаюся.

* * *

А пакуль мне згадваюцца бабуліныя словы пра яе дзеда-ведзьмака, стары цьвінтар на "Северной стороне" Севастопаля і сьпіс загінулых жаўнераў "Берасьцейскага пяхотнага палку". "Унцер Лаўрэнаў" далёка ня першы беларус, які няведама за што загінуў на чужыне і тамака-ж пахаваны.

Баюся, што і не апошні...

***Уладзіслаў АХРОМЕНКА***

# Юбілейны год Максіма Гарэцкага

Леташні год у культурным жыцьці Беларусі быў адзначаны юбілеямі нашых клясікаў Коласа і Купалы. Сёлета мы шануем памяць Натальлі Арсеньневай і Францішака Аляхновіча, Вацлава Ластоўскага і Янкі Маўра...

18-га лютага споўнілася 110 гадоў зь дня народзінаў Максіма Гарэцкага (1893-1939). Нажаль, гэтае сьвята для большасьці беларусаў так і засталося незаўважаным, а цэлы шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да ўгодкаў, ахапіў толькі вузкае кола навукоўцаў і заўзятараў.

**Дзень сёньняшні**

Пачалося сьвяткаваньне ў Дзяржаўным музэі гісторыі беларускай літаратуры з традыцыйных, адзінаццатых па ліку, Гарэцкіх навуковых чытаньняў, ладжаных Фондам імя Братоў Гарэцкіх (старшыня - акадэмік Радзім Гарэцкі). Там жа, у Траецкім прадмесьці ў Менску, адбылася прэзентацыя кнігі доктаркі філялягічных навук Тэрэзы Голуб "У творчай майстэрні клясіка", адкрылася музэйная экспазыцыя з унікальнымі рэчамі сям'і Гарэцкіх.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы прайшла спецыялізаваная выстава, на якой былі выстаўлены для нешматлікіх наведвальнікаў арыгіналы рукапісаў і першых выданьняў Максіма Гарэцкага. З прычыны слабой паінфармаванасьці, усе вышэйназваныя акцыі наведала зусім невялікая колькасьць самых адданых прыхільнікаў творчай спадчыны выдатнага пісьменьніка. Між тым, беларус, які ня ведае Гарэцкага, - гэта тое-ж самае, што брытанец, які ня чуў пра Шэкспіра, ці расеец - пра Талстога. Ці павінна так быць?

Зусім нядаўна ў сэрыі "Беларуская літаратура ХХ-га стагодзьдзя" накладам 2 тыс. асобнікаў у сьвет выйшла кніга апавяданьняў і аповесьцяў Максіма Гарэцкага "Прысады жыцьця" (укладаньне Т. Голуб). З 1995-га году ў Беларусі былі выдадзеныя ўсяго толькі чатыры кнігі з творамі пісьменьніка, і ўсе - малымі накладамі. Застаецца і пытаньне поўнага Збору твораў Гарэцкага.



**На хвалі пераменаў**

Зараз мы не ўяўляем сабе нашае літаратуры бяз постаці Максіма Гарэцкага, чалавека трагічнага лёсу, сапраўднага незалежніка. "Гадуйцеся на чытаньні клясікаў...", - заклікаў ён сваіх братоў-літаратараў. Час расставіў усё належным чынам.

Прамова Хрушчова на ХХ-м зьезьдзе КПСС надала новы штуршок зацкаванаму сталінскімі рэпрэсіямі савецкаму грамадзтву. Расстраляны 10-га лютага 1938-га году, Максім Гарэцкі быў цалкам рэабілітаваны ажно праз 21 год. Але ці шмат зьмянілася ў стаўленьні ідэялягічнай машыны? Генэрацыі 50-х, 60-х, 70-х ня мелі аніякай магчымасьці чытаць і вывучаць сапраўднага Гарэцкага. У школе праходзілі толькі аповесьць "Ціхая плынь" ды колькі апавяданьняў. Нарэшце, у 1984-86 г.г. быў выдадзены 4-тамовы Збор твораў, праз чатыры гады яшчэ адна кніга - "Творы". Яна дала магчамасьць пазнаёміцца з забароненаю спадчынай Гарэцкага.

**Шлях да паразуменьня**

Мастацкія творы пісьменьніка сталі праўдзівым люстэркам драматычных дзён, якія ўвабралі падзеі рэвалюцыяў, войнаў, польскую і нямецкую акупацыі і, нарэшце, абвешчаньне БНР, а пасьля - БССР. Менавіта тады нацыянальна сьвядомымі беларусамі быў закладзены першы каменьчык у сьвятую справу рэінкарнацыі беларускага Адраджэньня.

У дадатак да ўжо існаваўшага ў літаратуры стэрэатыпу беларуса-мужыка Гарэцкі стварыў шэраг шматгранных і глыбокіх вобразаў інтэлігентаў, галоўная рыса якіх - нацыянальная адметнасьць. Упершыню ў беларускай літаратуры зьявіўся герой, які праз жыцьцё крочыў разам з газэтаю "Наша ніва", крыніцай гісторыі й Адраджэньня беларусаў пачатку ХХ-га стагодзьдзя. Вачыма Лявона Задумы мы назіраем за ўнікальнай зьявай: нараджэньнем беларускай інтэлігенцыі як плыні ў грамадзтве. Творы Гарэцкага даюць цікавыя зьвесткі пра цэнтар адраджэнцкага руху ў Вільні, разагнаны бальшавікамі 1-ы Усебеларускі зьезд, нацыянальныя і псэўдапатрыятычныя суполкі...

**Быць Беларусам!**

Унікальнае прароцтва Максіма Гарэцкага ў тым, што для ўсіх "тутэйшых" людзей ён бачыў адзіную будучыню: БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ! Годна над галавой несьці ўдзейны сьцяг нацыянальнага Адраджэньня, паважаць і захоўваць уласную гісторыю і культуру. Бо яны - галоўныя складнікі нацыянальнай самабытнасьці й гаранты сьветлай будучыні кожнай дзяржавы.

*Кастусь ЛАШКЕВІЧ*

# Каб школа была нашай

Беларускія школы ў Беларусі фармальна існавалі заўсёды. За савецкім часам гэта былі вясковыя школы, якія часта давалі толькі няпоўную сярэднюю адукацыю зь невысокім узроўнем выкладаньня, дзе немагчыма было атрымаць грунтоўныя веды ці вывучыць замежную мову. Таму бацькі вымушаныя былі выбіраць расейскамоўныя школы, каб дзіця магло атрымаць якасную адукацыю і паступіць в ўнівэрсытэт (таксама расейскамоўны).

Пасьля 1991-га году, калі Беларусь набыла незалежнасьць, сытуацыя рэзка зьмянілася. Па ўсёй краіне сталі ўзьнікаць прэстыжныя беларускамоўныя школы й гімназіі, большасьць студэнтаў пэдагагічных унівэрсытэтаў навучалася па-беларуску.

Нажаль, цяпер палітыка дзяржавы зноў накіраваная на тое, каб беларускамоўная адукацыя асацыявалася зь нізкай якасьцю, і амаль усе беларускамоўныя школы, каб набраць вучняў, вымушаныя адчыняць расейскія плыні. Але назад зьмяніць сытуацыю ня так лёгка. Сьвядамасьць народу за апошні дзесятак гадоў моцна зьмянілася, і кожны антыбеларускі крок адукацыйных уладаў сустракае супрацьдзеяньне бацькоў, настаўнікаў, грамадзкіх арганізацыяў.

Прыкладаў тут шмат. Самы яскравы - абарона беларускага ліцэю імя Я. Коласа ў 1998-м годзе, пра якую можна пісаць падручнік пераможнага досьведу, але я зараз хачу распавесьці толькі пра адзін сэмінар з праграмы "Настаўнік. Школа. Грамадзтва", які адбыўся ў Наваградку на пачатку ліпеня.

Чатыры гады таму Цэнтар "Супольнасьць" і Таварыства беларускай школы распачалі праграму "Настаўнік. Школа. Грамадзтва" - праграму мэтадычнай і грамадзянскай адукацыі настаўнікаў. Мы ставілі дзьве задачы. Па-першае, забясьпечыць ведамі беларускую школу, каб яна была сучасная, прэстыжная, канкурэнтаздольная. Ва ўмовах, калі няма беларускамоўных унівэрсытэтаў і адпаведнае дзяржаўнае палітыкі, існуе толькі адзін шлях - якасьць і патрэбнасьць ведаў, якія прапануюць беларускія школы. Па-другое, абудзіць у беларускім настаўніку грамадзяніна. Вядома, што з псыхалёгіяй нявольніка немагчыма выхаваць з вучня свабодную асобу, і толькі грамадзянін можа выхаваць грамадзяніна.

Праграма мэтадычнай адукацыі для настаўнікаў ангельскай мовы рыхтавалася грунтоўна. Разам з Аллай Орса-Романо мы вырашылі зрабіць такое навучаньне вылучна для выкладчыкаў беларускамоўных школаў: якаснае выкладаньне ангельскай мовы падвышае прэстыж школы, вабіць у школу разумных дзяцей з адукаваных сем'яў. За год да наваградзкага сэмінару пры падтрымкі Культурна-адукацыйнай фундацыі Орса-Романо нашыя настаўнікі наведалі падобныя ўкраінскія сэмінары ў Данецку, Міргарадзе, Ковелі й пераканаліся ў карысьці такое праграмы для Беларусі.



Паралельна з навучаньнем мы заплянавалі для настаўнікаў некалькі культурніцкіх імпрэзаў: творчыя вечарыны, вандроўкі, канцэрт бардаўскай песьні.

Раней, калі дзяржаўная палітыка не была так відавочна скіраваная супраць нацыянальных каштоўнасьцяў, Таварыству беларускай школы часам удавалася дамаўляцца пра супрацу зь дзяржаўнымі адукацыйнымі ўладамі. Таму, калі мы зьбіраліся вучыць настаўнікаў ангельскае мовы ў Наваградку, першае, што зрабілі, - напісалі афіцыйны ліст кіраўнічцы ўпраўленьня адукацыі Наваградзкага райвыканкаму спн. Буйвал і запрасілі адпаведных адмыслоўцаў упраўленьня на сэмінар, каб яны таксама атрымалі карысныя веды й распаўсюдзілі іх па школах Наваградчыны. А праграма абяцала шмат такіх ведаў: інтэрнэт- і кампутарныя тэхналёгіі вывучэньня ангельскай мовы, кааперытыўнае навучаньне, выкарыстаньне відэа- і аўдыякрыніцаў і г. д. Напрыканцы ўдзельнікі мелі атрымаць відэа- і аўдыякасэты, сучасныя дапаможнікі ды іншыя мэтадычныя матар'ялы, распрацаваныя для тых, хто вывучае ангельскую мову не як родную. Асаблівую карысьць сэмінару абяцала надаць поўнае паглыбленьне ў жывую ангельскамоўную прастору - выкладаць новыя мэтодыкі на запрашэньне Фундацыі Орса-Романо пагадзіліся амэрыканскія спэцыялісты.

Перашкодаў не прадбачылася пакуль адной з выкладніцаў без тлумачэньня адмовілі ў беларускай візе. Залагодзілі праблему хутка, бо амэрыканскія пэдагогі, якія ўжо мелі візы, узяліся выкласьці дадатковыя тэмы.

Узрадаваўшыся, што ўсё ідзе добра, я вырашыла патэлефанаваць сп-ні Буйвал у Наваградак, каб даведацца, колькі-ж сваіх мэтадыстаў прышле на наш сэмінар упраўленьне адукацыі. Я-ж хацела сабраць як найбольш удзельнікаў.

На другім канцы дроту мяне сустрэў нечакана ледзяны голас. Сп-ня Буйвал начальніцкім тонам паведаміла, што ніякага навучаньня ёй ня трэба, што для "праверкі" замежнікаў паводле закону патрабуецца 30 дзён (але такога закону не існуе!) і, што дазволу на навучаньне ў Наваградку яна ня дасьць. На мае аргумэнты, што дазволу яе ня трэба - мы займаемся дзейнасьцю адпаведна Статуту, зарэгістраванага Міністэрствам юстыцыі, робім агульную справу на карысьць адукацыі й хочам наладзіць супрацу, - я пачула пагрозы, што спн. Буйвал патэлефануе і ў Міністэрства юстыцыі, і ў Міністэрства адукацыі ды навядзе пра мяне даведкі.

Першай нашай рэакцыяй было перанесьці сэмінар у іншае месца. Але-б гэта выглядала, быццам мы спалохаліся і ў нашых намерах нешта незаконнае. Ня гледзячы на афіцыйны ліст да ТБШ, маўляў, наваградзкія ўлады "ня могуць даць станоўчы адказ на правядзеньне сэмінару", мы цьвёрда вырашылі ехаць на радзіму Міцкевіча і месца каранацыі Міндоўга.

Там нас чакала шмат "выпадковасьцяў". Выпадкова нас адмовіліся пакарміць вячэрай і сьняданкам у кавярні гатэлю. На пытаньне "чаму" доўга шукалі нейкага "начальніка праізводзтва", які меў нам патлумачыць. Выпадкова зьнікла электрычнасьць у прыватнай Інтэрнэт-кавярні, дзе мы праводзілі заняткі, бо ў школы загадалі нас не пускаць. Потым выпадкова міліцыянты затрымалі аднаго з нашых выкладнікаў, які выйшаў падчас перапынку ў парк. Яго ўратавала выпадковая наваградзкая бабулька, якая пачала крычаць "Не чапайце паляка!", калі на амэрыканца пачалі надзяваць кайданкі. Выпадкова паўсюль нас суправаджалі людзі ў форме (відаць, адрозна ад менскіх калегаў, ім больш няма чаго надзець). Нават на Замкавую гару ды курган Міцкевіча залезьлі разам з намі. Што цікава, гэта зусім нас не палохала і не перашкаджала. І ў настаўнікаў, і ў арганізатараў расла ўпэўненасьць, што мы мацнейшыя й павінны рабіць сваю справу. Ужо на другі дзень "нацкаваныя" ўладамі адміністратары й афіцыянты сталі да нас ставіцца вельмі прыязна і стараліся ва ўсім дапамагчы.

У адзін зь вечароў да нас завіталі Уладзімер Арлоў і Зьміцер Бартосік. Яны чыталі свае творы, сьпявалі песьні й на разьвітаньне падпісалі кожнаму настаўніку па дзьве кнігі: для сябе і для школьнае бібліятэкі. У вольны ад заняткаў час мы наведалі старадаўні Нясьвіж, дзе ў гэтыя дні былі сярэднявечнае сьвята: гучала старажытная беларуская музыка, ладзіліся рыцарскія турніры. А пасьля доўгіх вечаровых размоваў з такімі людзьмі, як Алла Орса-Романо,

*Заканчэньне на бач. 14*

# СХАВАНЫЯ СЛОВЫ

Антону Адамовічу слушна аддаюць належнае як палітыку, гісторыку, моваведу, рэдактару. Апошнім часам у Беларусі пачалі казаць пра яго як празаіка: "Наша Ніва" першай перадрукавала знакаміты "Каханы горад", пазьней былі публікацыі ў "ARCHE" ("Трывога" у апошніх нумарах там друкуецца Адамовічава ліставаньне) ды "Спадчыне" ("Усяночная", "Безруч"). Дасьледчык А. Пашкевіч прысьвяціў яму асобны разьдзел у сваёй кнізе "Зваротныя дарогі" (праўда, палічыўшы чамусьці творы ваеннага часу - эміграцыйнымі. Тая-ж памылка ў аўтара з пэрыядызацыяй творчасьці Л. Крывічаніна). Зварот да мастацкае спадчыны Адамовіча ёсьць добрым спадзевам на наступныя друкі прозы - "Вароты скрыпяць", "Нявольнік Дагамэі", "Афрадыта-ОСТ", "Эмігранцкая песьня", зьмешчаных некалі пад псэўдонімамі С. Юстапчык, В. Бірыч. Ня страцілі сваёй каштоўнасьці працы Н. Недасека, Г. Альгердзіча й Галілейскага - Адамовіча гісторыка, крытыка й публіцыста адпаведна. Вартасныя, кожныя па-свойму, літаратуразнаўчыя працы Р. Склюта й фельетоны С. Хізмы: бязь іх гісторыя літаратуры й гісторыя эміграцыі будуць няпоўнымі. Але вось на Д. Забранскага ("Забраны ў няволю з Забранага Краю" Уладзімера Дубоўкі) - паэтычнае alter ego Адамовіча - увага неяк не зьвярталася. Ці сама постаць аўтара таму віною, чалавека паважнага ды сур'ёзнага, да якога паэзія нібыта не пасавала, ці замінալі складанасьці са здабыцьцём газэтных матар'ялаў часоў вайны, ня гэтулькі цяперака істотна. Галоўнае, што Адамовіч быў паэтам ды паэтам не абы якім - сапраўдным, адметным. Ягоны голас яскрава вылучаўся й быў пазнавальным, як галасы Ул. Дудзіцкага або Янкі Юхнаўца, гэтых непрызнаных лідэраў эміграцыйнае паэзіі. Клясычная форма белага вершу, вершу ў прозе, дзе прысутнічае ня толькі пачуцьцё, але інтэлектуальнасьць ды назіраньне, жанру блізкага адначасна й да гэткага папулярнага ў Беларусі сёньня японскага гокку, і да імпрэсіяў Янкі Брыля або Ул. Арлова, дазваляла аўтару спалучаць прыгажосьць з палітыкаю, вечнае з надзённым. І заставацца ў ідэалёгіі - крыўскім паэтам.

*Андрэй Любіч*

# Тут не Масква

## (Да ўсяго, што сягоньня і ўчора)

*Беларусы - не расейцы!*
*В. Кубэ*

Ішлі гады, паблісквалі вёснамі імклівымі, зіхацелі летамі навальнічымі, асыпаліся ліставейнымі восенямі, залягалі сьнежна іскрыстымі зімамі..

Ішлі гады..

Шчасьлівейшыя - мералі вёснамі гады. Маладосьцю мералі ўсё жыцьцё, як адзін вялікі дзень.

Ды ці бывае ткі яна, вечная маладосьць?

І ці шмат шчасьлівых на сьвеце?

Шчасьлівыя прашчуры толькі - на леты лічылі век. Залаты іхны век - заўсёды ў мінуўшчыне..

"Лета Божага тысяч чатырыста дванаццатага ад нараджэньня Хрыста..".

І палеглі ў дамавіны прашчуры, шчасьлівыя, бястурботныя - занадта бястурботныя..

І пакінулі нашчадкам працу ў поце аблічча свайго, пакінулі вялікі, непазбыўны сум.

Сум вялікі, ой! узрос бясконца:
Дзе-ж ты і лета, дзе й месяц ліпень?
Пашчапаліся вусны ад сонца
І да плеч кашулі зрэбныя прыліплі..

.. І пакінулі нашчадкам, нам - на восені мераць, лічыць гады..

І гады ішлі, цяклі гады, як адна даўгазвонная восень.

Ішлі гады..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Восень!

Перад новаю зданьню тваёй у экстазе укленчыў юнак, і песьня - на вуснах натхненых.

.. А песьня расла, сітавала душу,
Нурцавала ў вяршаліны сосен,
Казала: прыдзі, так цябе я прашу,
Прыдзі, пурпуровая восень!

І восень прыйшла, восень - ці здань?

І дарыла дары ўсім, усім, і здалося ўсім - залатая восень. Залаты век - прашчураў век - мільгануў па-за пурпурам здані.

Кароткі век, восенскі, матыліны век..

І ўгледзілі ўсе: не залатая - пурпуровая восень. І ўгледзілі ўсе - на пурпуры кроў. Кроў, прагная новай крыві. І сваю кроўм угледзілі ўсе на пурпуры тым. І ўцямілі ўраз - што позна. Што пэрэйдзе на пурпур уся жывая, гарачая кроў - крывічанская кроў краіны..

І чулі, як вецер нагвалт зазваніў,
Бражджаў ўва ўсе акяніцы.
Гарэла каліна ў сьцюдзёным агні,
Лісьцё пачало мітусіцца..

І пурпур гарэў, чырванеў, напіваўся, чарнеў..

Чорная восень - вось яна! Чорна, чорна ўсё навокал. І чорных воронаў - раптам - адкуль? - чорных варонаў грудкі й груды, і навалы чорных-чарнюшчых варон.

Чорныя вароны над бязьлістым садам
Узьвіваюцца ўгору да ізноў асядуць..
На гальлі кашлатым сум сябе павесіў..
Як ляцець варонам к радасьці бязь песьняў?

А на песьню-ж - як га - прыляцелі сюды. Ухапіць яе ў дзюбы, песьню жывую, ірваць, шкуматаць - і каб капала кроў, крывічанская кроў краіны - пад карканьня крык:

- Мас-ква! Мас-ква! Мас-ква!

З гэтым трыумфам - да радасьці гэнай ляцець.

Крывавая восень у Крывіі..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Крывавая восень!

Торбы надзела, пугі зьвіла і - туды, дзе заўсёды зіма, дзе-
Сьнягі, ляды,
Абрус жуды,
Назаўсягды,
На вечны час
Ляглі...

Пагнала перад сабою, а тэй там - няма, ня было-б канца..

І адзадзя, дзе быў бацькаў кут -
З вараньнячым крыкам узьнімаюць лопат,
Круцяцца над ежай мітусьлівым лётам..
- Мас-ква! Мас-ква! Мас-ква!
Ненажэрная.
Тая, што сьлязам ня верыць..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пазьлятаюць пялёсткі з шыпшыны -
У дзіды ўпартасьць кладзе яна.
Ах вы, сьцежкі роднай краіны,
Пасьля восені - будзе вясна.

Вясны ня было. Навальніцай адразу ўдарыла лета. Навальніца ламала, крышыла, бушавала, навальніца - такое ня бачылі шчэ! І аціхла калі - недалёка вакол пачысьцеў далягляд.

Ды нячутна, ціхутка зь лета - ізноў выйшла восень.

Ізноў, але - новая. Жоўтая восень.

Залатая восень?

Сьцежкамі роднай краіны паходжвае восень, і ўпартыя дзіды шыпшыніны салютуюць ёй - жыве!

О Беларусь, мая шыпшына,
Зялёны ліст, чырвоны цьвет!
У ветры дзікім не загінеш,
Чарнабылем не зарасьцеш!

Не зарасла, і чорныя крылы варон ня ўскрылі. Бо падрэзаны крылы ўжо,

Даляцець да песьні не хапае сілы,
Анямелі ўзмахі у варон крыклівых..
Абыходзяць людзі, каб ня чуць іх крыку,
Да таго ён дзікі й да таго ён прыкры..

Няхай пакрычаць. Няхай папрабуюць узьлётваць нават, махаючы даўгімі чорнымі крысамі - там, дзе крылы былі.. Няхай. Бо шырока дыхае прасьцяг, новым звонам восені далёка зьвініць:

- Тут не Масква! Тут не Масква!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Будзець яшчэ й зіма. Можа, лютая, можа, суворая, можа, даўгая-даўгая ляжаць яшчэ зіма. Будзе ўсё.

Але й вясна нарэшце - будзе?

Будзе, стане, бо ўсё мацней і размашысцей гудзе звон восені, усё грознай цяжкімі ўдарамі падае медзь:

**- Тут не Масква.**



# Вершы Валерыя БАРТАШЭВІЧА

**ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ БЫКАВА**

Прарок застаўся між людзьмі -
Душа-ж навекі адляцела,
Жальбу не выкажаш сьлязьмі,
Што Беларусь асірацела.

Хто заклікаў устаць з кален,
Навек спачыў у дамавіне...
Рабам ня трэба перамен,
Ды марна Слова не загіне!

Яно наперад павядзе
За пакаленьнем пакаленьне,
І ў Беларускай Грамадзе
Абудзіць Годнасьць і Сумленьне!

* * *

У дзень мінулы ўся краіна крочыць
Як той калгас "Чырвоны барацьбіт".
Не сорамна-ж глядзець Эўропе ў вочы,
Ствараючы жабрачы дабрабыт.

Шалёна вецер дзьме, у неспадзеўку
Шпурляе ў твар апаўшае лісьцё.
Адзеўшыся ў падраную ватоўку,
Будуе Беларусь сваё жыцьцё.

Абок дарогі пассыпана сьмецьце,
Суседзі лаюцца з-за дзічкі на мяжы,
Жадаючы адзін другому сьмерці -
Ці не таму панують скрозь крыжы?

**ПАВОДЛЕ Н. АРСЕНЬНЕВАЙ**

Магутны Божа, Уладар сусьвету,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых,
Чаму забыў ты краіну гэту
І нас пакінуў у бядзе адных?
Можа таму, што згубіўшы сілы,
У штодзеннай працы ня маем плён,
А на Айчыне з маленства мілай
Ляжыць Чарнобыля злы праклён
І стала горкай вада ў рэках,
На небе зорка ўзышла - "палын",
Атрутны вецер гукае рэхам,
Ня меле зерне замшэлы млын.
А мо таму, што ўтуліўшы плечы,
Даўно чужынца ўпусьцілі ў дом,
Ужо частаваць яго стала нечым,
Сябе ён лічыць гаспадаром...
Калі-ж засеем сваю мы ніву,
Учынкаў мужных зьбяром умалот,
Нарэшце стане тады шчасьлівай
Краіна наша і наш народ.

**ЯКУБУ КОЛАСУ 120 ГОД**

Шукайма "новую зямлю"
У новым веку, беларусы,
Каб кінуць зерне ў ральлю
Рукою вольнай, без прымусу.
Шануйце "новую зямлю",
Сьмялей у будучынь глядзіце,
Чужынцаў набрыдзь - вараньне
Вы ад зямелькі той ганіце.
І каб на новай на зямлі
Гучаў бадзёрай песьні голас,
А людзі ў шчасьці-б зажылі,
Як запавятаваў нам Колас.

**Менск, 2003 г.**

# Рыгор КРУШЫНА (1907-1979)

Імя гэтага паэты, ягоная біяграфія й творчасьць добра вядомыя ня толькі даўнім чытачам "Беларуса", але й маладым аматарам паэзіі на Бацькаўшчыне. Пра яго напісаныя артыкулы, разьдзелы ў дасьледаваньнях, ягонае імя ўвайшло ў даведнікі ды энцыкляпэдыі. Таму тут адно нагадаем асобныя факты - як уводзіны да нашае публікацыі.

Сапраўднае імя паэты Рыгор Казак. Народжаны на Случчыне, ён у 18 гадоў надрукаваў там свой першы верш і ўзяў удзел у Слуцкім збройным чыне. Яго судзілі разам зь Юркам Лістападам, Максімам Гарэцкім, Якубам Коласам. Але адпусьцілі, паколькі Рыгор сваёй віны ня прызнаў, а давесьці аўтарства крамольных вершаў, зьмешчаных у часапісе "Наша слова", супрацоўнікі ГПУ ня здолелі.

Вучыўся Рыгор у Менскім Белпедтэхнікуме, ці не найслаўнейшай нашай вучэльні таго часу. Бадай што ўсе пісьменьнікі Беларусі прайшлі тымі калідорамі - хто настаўнікам, а хто ў якасьці вучня. Большасьць выпускнікоў Тэхнікуму па заканчэньні навукі працавалі ў часапісьменьстве ці навучаліся далей Рыгор-жа два гады служыў у войску кавалерыстам. Але паэзіі ня кідаў. Як ня кідаў яе ў гады вайны, у лягерох выгнанцаў у Нямеччыне, на эміграцыі - у ЗША. Сёньня творчы набытак Рыгора Крушыны, першага зь беларускіх пісьменьнікаў сябры ПЭН-клюбу, складае ладную палічку: "Лебедзь чорная" (1947), "Калыханка" (1953), "Выбраныя творы" (1957), "Вячорная лірыка" (1963), "Хвіліна роздуму" (1968), "Вясна ўвосень" (1972), "Дарогі" (1974), "Сны і мары" (1975).

Але нават пры такім зайздросным творчым лёсе - лёсе цяжкім, пакручастым, але спраўджаным, зьдзейсьненым, нават пасьля выдадзеных васьмі зборнікаў засталося ў спадчыне паэты нявыдрукаванае - рукапісная кніга "Рэквіем". Не аднойчы браліся за ейную публікацыю, як у Беларусі, гэтак і па-за ейнымі межамі, толькі плёну ня было.

Газэта "Беларус" ня ў стане падмяніць сабою выдавецкі калектыў з тэкстолягамі, рэдактарамі, літаратуразнаўцамі. Затое яна ў стане зьмясьціць на сваіх бачынах гэты апошні твор паэты, ягоную лебядзіную песьню - "Рэквіем".

*Андрэй ЛЮБІЧ*

# РЭКВІЕМ

*Прысьвячаецца сьвятой памяці Галіне*

***Усё адпакутвана, скрозь пераэюыта:***
***Трывога, хвароба, халоднае лета.***
***На полі ляжыць здратаванае жыта.***
***Апошняя песьня рыданьнем адпета.***

Галіна, Ліна, Лінок!

Яшчэ нядаўна цешыўся аўтар, пазіраючы на ласкавую ўсьмешку мілай жонкі. Яна была добрай спадарожніцай у жыцьці. Выдатная машыністка. Перакладчыца. Любіла музыку, мастацтва і паэзію. Памагала аўтару ў справе выданьня ягоных кніжак. І заўсёды была сьціплая ў сваёй самаахвярнай працы. Гэта-ж яна афармляла з мастацкім густам вокладку кнігі "Вясна ўвосень". Ды ці толькі гэта? Хваляваньні, клопаты, радасьці праходзілі праз вялікую любоў. І раптам... жыцьцё Ліны абарвалася. Вечны спакой!

Боль і жалоба напісалі Рэквіем.

### ПРАЛЁГ

Верасьнёвыя чорныя дні -
Ні сяброў, ані блізкай радні.

І самота ў пакоях пустых,
Як халодны наточаны штых.

Гэты штых коле сэрца маё,
Заганяе глыбей гастрыё.

І сьлязьмі абмываецца рана:
Адыйшла ад мяне ты зарана.

Недапетая песьня мая!
Адыйшла ты навекі, а я...

Я ня бачу ад самага ранку
Маю сьветлую зорку-заранку.

Я ня бачу цябе, сьветларусую.
Вобраз твой быў маёй Беларусяю.

Ты прыгадвала часта мінулае,
Прамаўляла ўсё чыста прачулае.

Завяршаўся мой верш сам сабой -
Гэтак лёгка было мне з табой.

А цяпер... я ў самоце цяжкой.
Адыйшла ты на вечны спакой.

* * *

А ці навекі разьвітаньне?
Табе кажу, мая каханая,
Што слова полымем паўстане,
Бо ў сэрцы мроя нясьціханая.

Ты ўвасабленьне Беларусі,
Мая знаходка долі ў далечы.
Цяпер да мэты дабяруся,
Высакародны вобраз маючы.

Маё раптоўнае натхненьне
Малюе Бацькаўшчыну родную.
Я маю творчае імкненьне
І мову прадзедаў прыродную.

З табою жыў заўсёды ў згодзе,
Гарэў супольнымі жаданьнямі,
Каб разам - з песьняй - праз стагодзьдзе
Прыйсьці ў наш Край жывымі зданямі.

* * *

Вецер падзьме, набягаючы з мора -
Згіне сьпякотная млявасьць і змора.
Сонца і сінь. І гарачыя сны.
Дзесьці хаваецца край мой лясны.

Край мілых красак, імклівых шуканьняў,
Накіп надзей і цярплівых чаканьняў.
Я без цябе размаўляю з табой,
Чую твой голас і морскі прыбой.

* * *

Я прыгадаў
Той час, калі пакутліва жадаў
І ў словах не зьняверыўся.
Тады было
Пяшчотнае, прыемнае цяпло...
А за вакном,
Выў за вакном
Халодны верасень.

### У ШПІТАЛІ

Ты ляжала ў шпіталі.
У хваробе цяжкой
Твае вусны шапталі:
- Божа, боль супакой..

Супакой боль зацяты.
На сьцяне бачу - Крыж.
Хрысьце Божа! Расьпяты,
Ты цярпеў... Ты маўчыш.

Я ня маю ўжо сілы
Ні цярпець, ні крычаць.
Божа шчыранькі, мілы,
Буду сьціпла маўчаць.

Нярухома ляжала,
І адчуў я той час,
Як Любоў ціхім жалем
Растрывожыла нас.

І мы разам з табою
Веру клалі на Крыж.
І маўчалі абое.
Ты, як сьвечка, гарыш.

Я перахрысьціўся
І сэрцам маліўся:

- Божа, ратуй маю жоначку,
Слабасьці грэшнай даруй.
Ратуй яе, Госпадзе, ратуй.
Барані, мой Божа,
Слабую і хворую.
Дай добрых вынікаў.
Малю Цябе, Госпадзе!
На ўсё Твая Воля
І шчодрая міласьць Твая.
Госпадзе, памілуй.

Цішыня у пакоі.
Разьліваўся паўзмрок.
Ты казала спакойна:
- Ня сумуй, мой каток.

Мне ласкава казала:
- Ня сумуй, ня тужы.
Доля нас разьвязала.
Я на ўскраі мяжы.

Я памру, а ты знойдзеш
Дзесьці любу ізноў,
І наперад ты пойдзеш
Шляхам мараў і сноў.

І закончыш паэму
"Калыханку" сваю.
Возьмеш новую тэму
І дасі інтэрв'ю.

Хаваю горкую усьмешку,
А голас мой сьлязьмі дрыжыць:
- Ты будзеш жыць,
Ты будзеш жыць!
Мы знойдзем сонечную сьцежку.

Галіна, Ліначка, Лінок!
Ты залацісты мой лянок.
Хоць у грудзёх журбы клінок, -
Я васількі заўю ў вянок.

Заўю жывыя васількі
З маіх гарачых шчырых слоў.
Перацярпі ты боль цяжкі,
Не пакідай сваю любоў.

Каханьне ўсё перамагае.
Ты будзеш жыць! Ты мусіш жыць!
І не кажы мне, дарагая,
Што дзесьці знойдзецца другая,
З другой мне песьні не злажыць.

### АПОШНЯЯ НОЧ

Дваццаць пятага верасьня.
Дзень апошняй нядзелі.
Як далей? Я зьняверыўся,
Сумна вочы глядзелі.

Ты ляжала спакойная
Ды пакуту цярпела.
А часіна няўмольная
Ў абцугі брала цела.

Рукі, ногі зьмярцьвелыя...
Варушыцца ня можаш.
Нават словы самлелыя
Ледзьве чутныя: - Божа-ж...

Ой, як цяжка засуджаным
На страшэнныя мукі...
- Піць! - У горле застуджаным
Нявыразныя гукі.

Я над хворай схіляюся.
Каўтанула ты з кубка.
Я трывожна пытаюся:
- Мо лягчэй табе, любка?

- Боль у целе ня чуецца,
Толькі мучае смага, -
Адказала пакутніца.
Блага скончыцца, блага.

...........................................

Мне было ўжо дазволена
Ноч правесьці ў шпіталі.
Смутак лёг, як расколіна
На пабітым крышталі.

Цяплыня патагонная
У маленькім пакоі.
Ноч даўгая, бяссонная.
Мы ня спалі абое.

Я цяжкою хвілінаю
Быў прыбіты бядою,
І трымаў над Галінаю
Жоўты кубак з вадою.

А надзеі губляюцца...
Праўда думку ўзрушае:
Дактары памыляюцца,
Бог інакш вырашае.

Дагарала няшчасная.
Вусны штосьці хацелі
Мне сказаць, а заўчасная
Сьмерць ужо на пасьцелі.

А на вуліцы раніца...
Вераб'і гучным хорам
Ля вакна аціраюцца,
Не прайманыя горам.

### ЭПІЛЁГ

Вось і восень паказалася,
Жоўталісьцем павязалася.
А цябе няма, каханая!
Змоўкла песьня нясьціханая.

Набягае бура злосная,
Аж рыпіць сасна выносная.
Куст крушынавы засмучаны,
Неспадзеўнай скрухай скручаны.

Ня шумець яму на старасьці
Бяз густой зялёнай парасьці.
Нават сонейка ня ўзрадуе.
Жоўты ліст дадолу падае.

А Галінка, гэтак сталася,
Ў непагоду заламалася.
Ад Крушыны адарваная,
На чужыне пахаваная.

Дзе цяпер усьмешка восені?
Ні сьвятла, ні лёгкай просіні.
Толькі хмары, хмары чорныя
Мыюць поцемкі вячорныя.

Я адзін. Жыву ўспамінамі.
Ці-ж былі з табою віннымі?
Вясна ўвосень - нам здавалася,
А цяпер інакш азвалася.

Дні нявеtлыя, сьцюдзёныя.
З горам клопаты штодзённыя
На мяне гарою валяцца,
Толькі сьлёзы ўпотай жаляцца.

Не магу ніяк суцішыцца --
Ня чытаецца, ня пішацца...
Зьбіты сумнымі падзеямі,
Я жыву яшчэ надзеямі.

І лятуць лісты кляновыя...
І фіялкі ў жоўтай замяці
Абяцаюць песьні новыя
У ахвяру вечнай памяці.

### САНЭТ

Няўжо апошняя пачуцьцяў сіла,
Няўжо апошні верш, і сьціхну я?
Мне палыну туга нацярусіла...
А ўсё-ж ты сьвеціш, зорачка мая.

Ты ў маіх снох сьмяешся гэтак міла
І да мяне ляціць душа твая.
Але далёка там... твая магіла.
Мой смутак павялічыўся ўдвая.

Праходжу я завулкамі пустымі.
Цябе няма. З малітвамі сьвятымі
Пакінула трывожны гэты сьвет.

Казаў калісьці позірк твой прыгожы:
- Знайдзі сваё ты шчасьце ў падарожжы.
Схавай сабе мой добры запавет.

*22. 10. 77*

# У абарону спажыўца нацыянальнага

Артыкул сп. Рамана Кардонскага ў папярэднім нумары "Беларуса" вельмі трапна называецца, - "Слова чытача", слова спажыўца літпрадукту, што вырабляецца нашымі пісьменнікамі. Неяк мы прызвычаіліся, што ўхваляем усё напісанае беларускаю моваю, што крытыкаваць сваё - ня проста выявіцца непатрыётам, а нават здраднікам сьвятое справы Адраджэньня. І за тымі патрыятычнымі, сьвятымі матывамі забыліся на якасьць прадукту, які па завядзёнцы аднах, ляноце другіх ды няздатнасьці трэціх застаўся цалкам савецкім, як савецкімі засталіся папрокі пісьменьнікаў у бок чытачоў, што балюча нагадвае закіды нашых палітыкаў у бок народу, хоць нібыта пісьменьнікі пішуць менавіта для чытача, а палітыкі працуюць менавіта дзеля народу. Для палітыкаў, як і для пісьменьнікаў, быць незразуметым - ня гонар, а параза.

*Сп.*Кардонскі *піша* пра "сучасную беларускую масавую літаратуру", "поп-літаратуру", і тым, на маю думку, звужае праблему, якая насамрэч шырэйшая. Палягае яна - няхай даруе мне мілагучная беларуская мова! - у "чытэбельнасьці" літпрадукту й паваротна да чытача. Бо ня маем мы ня толькі фантастыкі, дэтэктываў, прыстойных гістарычных твораў, мы ня маем звычайнай добрай сучаснай літаратуры, дзе-б аўтары са састарэлым дысыдэнцтвам не настальгавалі па савецкім часам (С. Астравец, І. Сідарук, В. Мудроў), не капіявалі шэранькія заходнія творы ў расейскім перакладзе (Ю. Станкевіч), не гублялі галаву на прыдуманай уласнай "геніяльнасьці" (А. Глёбус), не імкнуліся моўным ды тэматычным эпатажам прыхаваць адсутнасьць дзьвюх найважнейшых складнікаў сапраўднай літаратуры - мець, што сказаць, і ўмець тое сказаць (І. Сін, Зьм. Вішнёў).

Ці зьвярнулі вы ўвагу, шаноўныя чытачы, што сучасныя крытыкі (нярэдка ў такой якасьці выступаюць самі пісьменьнікі) знайшлі надта выгодныя, проста бяспройгрышныя шляхі ў рэкляме-крытыцы твораў? Вы не сустрэнеце там ані літаратуразнаўчых камэнтароў, ані філязафічных абгрунтаваньняў, ані літаратурных паралеляў, там усё зводзіцца да аднаго-адзінага сьцьверджаньня: калі ўпадабаў твор - ты чалавек разумны, прасунуты, элітарны, асьвечаны лепшымі дасягненьнямі ідэі й духу. Калі не - гаворка з табою кароткая, бо ёсьць ты ахвяраю расейскай прапаганды. І ўсе намаганьні нешматлікіх крытыкаў, што імкнуцца паставіць падыход да справы з галавы на ногі - Паўла Абрамовіча, Данілы Жукоўскага - спатыкаюць калі не суцэльную абструкцыю, дык паблажлівыя характарыстыкі "мальцоў" ад нашых "мэтраў".

Ці заслужылі пісьменьнікі ігнараваньне або малую зацікаўленасьць з боку чытача-народу? У пошуках адказу ёсьць вялікая небясьпека згубіцца ў агульных разважаньнях, таму хочацца якойсьці канкрэтыкі. От хоць-бы ўзяць беластоцкае выданьне "Часопіс", балазе прыйшоў сьвежы нумар, 7-8, 2003.

Гэты польска-беларускі часопіс ёсьць, калі хто ня ведае, прыжыцьцёвым помнікам С. Яновічу (як "Тэрмапілы" тамтэйшыя - другому пісьменьніку зь "Белавежы" Я.Чыквіну). І хоць для чытаньня тое - самазабойства, для складаньня партрэту гэроя - акурат што трэба.

Галоўная навіна нумару, натуральна, мае дачыненьне да самога Яновіча: аб прысуджэньні яму прэміі Анджэя Дравіча, дасьледніка расейскай літаратуры, былога сябры ляўрэата. Прэмія тая даецца з 2000-га году за палічэньне ролі й значэньня польскае культуры ў сьвеце, ейнай прамоцыі, а таксама за талентнае пашырэньне кантактаў з іншымі народамі. У выпадку зь Яновічам - народу беларускага.

Каб не загрувашчваць газэтны артыкул спасылкамі, ня буду пазначаць, якая цытата на якой бачыне надрукаваная - няхай чытач паверыць мне, што ўсё так і ёсьць. Мова цытатаў пакідаецца бязь зьменаў, хоць часам праз сваю ненатуральнасьць выглядае яна на нядбайны пераклад з польскай мовы ў беларускую.

Перагарнуўшы нумар, атрымаў партрэт пісьменьніка. Зь ягонага роздуму пра навязнойдзеную беларускую хваробу (тут, відаць, гавораць нейкія польскія комплексы): "Пагавары з беларусам і даведаешся, што адзін ён самы мудры, самы справядлівы, самы даходлівы, а рэшта сьвету - гэта натоўп неўдалотаў. З такой філасофіяй немагчыма навучыцца чагосьці. Магчыма толькі прапасьці, расплыцца, бы .. свежы памёт на ліўневым дажджы". Зь ягонага сьцьверджаньня (відаць, прапануецца ў якасьці лекаваньня ад гэтае хваробы): "Няма нацыі"."Гэта - пра нас, беларусаў. З справаздачы рэдактара "Часопісу": "Між іншым: З кніжак Сакрата Яновіча пранікае настальгія за адыходзячай беларускай вёскай". Чыквін са смуткам канстатаваў таксама, што "сёння беларуская мова мае ўжо амаль толькі сакральнае значэнне". Сакрат Яновіч пасля ў дыскусіі дадаў: "Беларуская мова мае цяпер характар эстэтычны, не нацыянальны, бо нацыі няма". І вось пасьля падобных думак-заяваў ён з скрухаю піша: "Няшчасце аўтараў: "Сам пішаш, сам друкуеш, сам чытаеш"".

Я-ж дык падзівіўся іншаму: хто з чытачоў пасунецца ў пошуках кнігаў, дзе яму будуць абразьліва кідацца малаэстэтычныя словы пра неіснаваньне нацыі ды прапаноўвацца - у каторы ўжо раз! - "настальгічная" аўтару тэма вёскі!? Ці з Польшчы падаецца, што "неіснуючаму" беларусу і чытаць больш ня варта пра што?

Мо й ня трэба было пераводзіць праблему ўсяе літаратуры на пісаньні аднаго чалавека, каб не наступная засьцярога: падобнае стаўленьне - рэч пашыраная й, відаць, заразная. Раней у тым самым "Часопісе" друкаваўся А.Чобат - мала каму ведамы як паэт, затое нарабіўшы гуку сваімі артыкуламі-разьвіцьцём ідэяў Яновіча пра "хамскую нацыю". Апошнім часам на тых самых бачынах вучнёўства пераняў паэт з Гародні Ю. Гумянюк. Хвалячы ў адным артыкуле ўсякімі словамі Таварыства Вольных Літаратараў, сябрам якога з'яўляецца, уласныя намаганьні ў выданьні часопісу "Калосьсе" ("ашаламляльны посьпех"), літаратурную прэмію ТВЛ ("вельмі прэстыжная"), у другім, нібыта пра выцечку ў Пінск на дні беларускай і швэдзкай паэзіі, большую частку артыкулу прысьвяціў вандроўкам па тавэрнам, півярням, рэстарацыям, аповядам як піласа ды які сэрвіс быў. І пішацца пра ўсё ня толькі абразьліва - для пінчукоў, але зь непавагаю - да чытача. Бо - халтурна.

Ці ня ў гэтым уся справа - у халтуры пісьменьнікаў, непрафесыйнасьці (а пісьменьніцтва - гэта прафесія, якой трэба вучыцца як усякай іншай), нездольнасьці пісаць цікава, у пераканананасьці, што чытач праглыне любое, як-бы й пра што-б яму ні пісалі, бо тое - па-беларуску?

Вядома, не ў савецкія часы жывем, а таму і думкі няма загадваць пісьменьнікам ад імя БНР, БНФ ці народу як пісаць, на якія тэмы. Толькі тады няхай і пісьменьнікі не наракаюць на нецікаўнага чытача ды на малыя наклады, якія наўпрост прапарцыянальныя іхнай вартасьці. Твораў Караткевіча, Быкава, Арлова *на паліцах кнігарань ня знойдзеш.*

У артыкуле я неаднойчы ўжываў азначэньне "нашыя" - нашыя пісьменьнікі, нашыя чытачы, наш народ. Гэта - нашае. Іншага ня дадзена. Таму і абараняю сябе, спажыўца, не ад кагосьці, а ў імя. Імя нашае літаратуры.

***Навум ГАЛЯШЭВІЧ***

## Каб школа была нашая

***Заканчэньне з бач. 11***

Валянціна Трыгубовіч, Тацяна Царук, Уладзімер Арлоў ды іншымі, настаўнікі проста заразіліся беларускасьцю і зьвезьлі яе ў свае школы.

Сэмінар адбыўся. Настаўнікі зьехалі задаволеныя новымі ведамі, кнігамі й сустрэчай з цудоўным горадам, гістарычнымі мясьцінамі й цікавымі людзьмі. Па Беларусі пайшла добрая пагалоска. Нават афіцыйнае радыё перадало інфармацыю пра наш сэмінар. Але галоўнае, што мы зразумелі: калі разам рабіць тое, у што мы верым, нам ня змогуць перашкодзіць ніякія антыбеларускія чыноўнікі. Аказалася, што роля буйвалаў у адукацыі не такая ўжо й вялікая, як думаюць тыя, хто арганізаваў наваградзкую карыду на адукацыйнай ніве. Не зважаючы на іх, мы й надалей будзем рабіць беларускую школу прэстыжнаю, сучаснаю і - беларускаю.

***Тамара МАЦКЕВІЧ***

***Каардынатар праграмы "Настаўнік. Школа. Грамадзтва"***

***P. S.*** Пакуль рыхтаваўся гэты артыкул, стала ведама, што спн. Буйвал, якая шмат гадоў душыла настаўніцкія ініцыятывы Наваградчыны, зьбіраецца зьмясьціць з пасады.

***P. P. S.*** Праз газэту "Беларус" хачу падзякаваць усім беларусам замежжа за падтрымку, дзякуючы якой ТБШ можа праводзіць свае праграмы.

## Ліст з рожкамі

***Заканчэньне. Пачатак на бач. 15***

Пытаньне "хто гаворыць?" замінае чытаць на працягу ўсяго тэксту. Аўтар ня дбае аддзяліць сябе ад персанажа. Калі Корбат ідзе праз лес і разважае пра свой лёс, аўтар зноў перахоплівае ініцыятыву: "Ён ішоў дамоў, да сям'і... і разважаў: тое, што здарылася - можа, толькі прыгода, ня больш, на якую і ён, і ягоныя блізкія хутка забудуцца. Напісаўшы ліст, меркаваў настаўнік, сам ён не набыў аніякіх гарантыяў, каб пазбавіцца ад сваіх комплексаў, страху і адзіноты. Яны будуць зь ім назаўсёды, і тут нічога ня зробіш. Але-ж камусьці трэба было напісаць..."

"Вось і скончылася мая Прыгода, - думаў ён, - стала асобным фрагментам у мазаіцы пакутаў, што завецца жыццём. Навошта я напісаў той ліст, - думаў нядаўні паддоследны. - Хіба меў якую скрайнюю ў тым патрэбу?

Гэтыя скачкі ад нутранага маналёгу да аўтарскага пераказу выклікаюць уражаньне падвеаньня асобы - ці то апавядальніка, ці то героя.

Споведзь даносчыцы Асі крыху адрозьніваецца ад рэшты тэксту: Станкевіч перасыціў яе апісаньнямі палавога жыцьця, і нагэтульки перасыпаў мову медыцынскай тэрміналёгіяй, што бязглузды натуралізм апісаньня перабівае, хаця і не адмяняе, ненатуральнасьць стылю. Дастаткова было згадаць лёгкія паводзіны Асі як зачэпку для вярбоўкі. Фізыялягічныя падрабязнасьці не спрацоўваюць: кардонныя пэрсанажы не дапасоўваюцца да сэксапаталягічных успамінаў. Замест герояў чытач бачыць прымітыўныя маскі, і з-пад кожнай чуецца ўсё той-жа голас. Што ні рабі з пап'е-машэ, яго ня зблытаеш з жывым целам.

Тэкст не пераконвае. І раней зьвярталі ўвагу, што Станкевіч шчыра верыць у прыдуманы ім сьвет. Але ніколі яшчэ вера не была такою поўнаю. На свой лад можна прызнаць рацыю Андрэю Корбату: калі існуе такая рэчаіснасьць, пушчаны вышняю рукою астэроід сапраўды быў-бы вырашэньнем пытаньня. Вось толькі гэтае "калі"...

Стаўшы палоньнікам створэнняў уласнае думкі аўтар паціху робіцца падданым прыдуманай дзяржавы, якая, паводле ягонага перакананьня, не прызнае падвойнага грамадзянства. Заглыблены ў сузіраньне гэтай змрочнай фантазіі ён часам прачнецца ды ўставіць нейкую дэталь, якая нагадае пра ранейшага Станкевіча ("У космасе ўсё хутка старэе і псуецца," - кажа ён вуснамі астранаўта В.) ды зноўку заглыбіцца ў мэдытацыю. Чытачу застаюцца тэропкія невыразныя канспэкты, з чыіх старонак на нас глядзіць жыхар краіны, вартай добрага астэроіда.

Расчараваны чытач замест змрочнае, але верагоднае візіі знаходзіць у творы няўклюдную выдумку, быццам з-пад пяра адурманенага таталітарызмам "шрубочка"-чыноўніка, шараговага правадніка Адзінага курсу. З пэўнага гледзішча Юры Станкевіч дасягнуў дасканаласьці: калі ў ягонай рэчаіснасьці засталася літаратура, яна па мастацкіх вартасьцях будзе падобнай да "Ліста ў Галактыку ...": гранічна тэндэнцыйнай, эмацыйна пустой і пазбаўленай нармальнага чалавечага погляду, які выцесьнены прымітыўнымі ідэалагічнымі клішэ. Засваеньне гэтае ўласьцівасьці ў аўтара пакуль наперадзе, і будзем спадзявацца, ён ня пойдзе ў сваім прыпадабненьні да ўласных персанажаў аж так далёка. Тым больш, наўрад ці гэткае гледзішча знойдзе разуменьне ў чытацкіх масах нашай сусьветнай ліні, пры ўсіх ейных недахопах.

Да таго-ж, варта ўлічваць, што нешта падобнае ўжо здаралася, і мела досыць непрыемныя наступствы. "Маг Лі То спакушаў натоўп пісаньнямі нячысьцікаў, якія сам і пісаў. Яму адсеклі галаву на кірмашовай плошчы Цзянькану" ("Гісторыя дынастыі Цзінь", 324 год).

***Д. ЖУКОЎСКІ***

# Новыя кнігі ✖ Рэцэнзіі

**Алесь МАРА Аўтаманаграфія**
*Менск. 2002. Дызайн: Ігар Марачкін. Рэдактар: Міхась Скобла. E-mail: artadzej@yahoo.com*

Аўтар назваў гэтую багата ілюстраваную кнігу-альбом аўтаманаграфіяй, кніжкай пра сябе, паясьніўшы свой выбар жанру: "Ніхто ня ведае сябе так, як ты сам". Сапраўды, шмат хто ня ведае, прыкладам, што Алесь Мара, ён жа Аляксей Марачкін - ня толькі выдатны мастак, гарачы патрыёт, але й цікавы паэт. Талент мастака-паэта ўгрунтаваны на глыбінным адчуваньні гістарычнай і культурнай самабытнасьці Бацькаўшчыны. Аляксей Марачкін выявіў гэта ў фарбах, формах і словах, прасякнуты жаданьнем спрычыніцца да адраджэньня і ўзбагачэньня Роднага Краю, абараніць ягоную дзяржаўнасьць.

Пачынаючы з канца 1980-х гадоў, велічную постаць мастака можна было часта пабачыць на шмат якіх грамадзкіх форумах сталічнага Менску. Пражыўшы 62 гады, Аляксей Марачкін-Мара сабраў у адну вялікага фармату ёмістую кнігу (у якой чамусьці старонкі не панумараваныя) найлепшае са свайго мастацкага і паэтычнага набытку. "Гэтая кніга, - кажа ён, - адмысловая аўтаманаграфія майго жыцьця. Своеасаблівы АРТ-раскоп. Адзін пласт жыцьця накладаецца на другі. Эклектызм становіцца сутнасьцю сёньняшняга часу, і я не саромеюся зьмясьціць на балонках альбому мае сучасныя мэтафізычныя мастацкія экспэрымэнты, запісы, вершы, фотаздымкі з уласнага архіву... Гэта спроба асэнсаваць сябе як творцу на памежжы XX-XXI стагодзьдзяў, зірнуўшы на пройдзены шлях ня толькі праз каляровыя мроі жывапісу, але і праз магічны крышталь паэзіі... Альбом складзены па прынцыпе экспазіцыі мастацкай выставы, дзе галоўнае не храналёгія, а рэжысура... Мой альбом-выстава гэта слоўныя і жывапісныя водгаласы маіх захапленьняў.. "




Найбольшае захапленьне Алеся Мары - родная Беларусь зь ейнымі краявідамі, легендамі, традыцыямі, духовай і матар'яльнай культурай, аддаленымі гістарычнымі постацямі ды бліжэйшымі да сучаснасьці людзьмі-адраджэнцамі. А таксама са смылячым чарнобыльскім болем. Пра Алеся Мару можна было-б сказаць радкамі вершу Анатоля Сыса ("Каля твайго парога"): "Вясёлка над Белай Русьсю - гэта мая мара"... На вясёлку гэтую рупліва і таленавіта папрацаваў мастак і паэт Аляксей Марачкін ад часоў свае раньняе маладосьці. Гэта задакумэнтавана ў чорна-белых і карычнева-белых фатаздымках, адлюстравана ў калярытных, рэалістычных, стылізаваных і абстрактных малюнках, напоўненых гістарычнымі падзеямі .й таямнічай прыродай роднае зямлі, выказана ў лірычных, часамі эратычных вершах. Марачкінава аўтаманаграфія поўніцца духам салідарнасьці з паплечнікамі-абаронцамі беларушчыны. Яна - ня толькі шматгранны вонкавы й нутраны партрэт вялікага патрыёта Беларусі, але й люстра дынамічнае эпохі, калі Бацькаўшчына стаяла перад выбарам кірунку свайго далейшага разьвіцьця, выйшаўшы з "турмы народаў" на шлях сувэрэнітэту. Кніга гэтая так, як гэта рабіў сам ейны аўтар сваёй дасюлешняй дзейнасьцяй, будзе пазытыўна ўплываць на далейшы рух Беларусі да свае запаветнае мары - свабоды й незалежнасьці.

Азнаёміўшыся з кнігаю, хочацца паўтарыць за Янкам Купалам: "Не загіне Край Забраны покуль будуць людзі!.."

*Янка Запруднік*

# Новая кніга пра ГУЛАГ

**Ан АПЛБАЎМ. ГУЛАГ: Гісторыя.** *Выд. "Даблдэй", Нью Ёрк - Лёндан, 2003.*

Гэта кніга, што зусім нядаўна выйшла ў сьвет, на першы погляд не зьвязаная з беларускай тэматыкай. Акрамя таго, здавалася-б, што новага можа напісаць пра ГУЛАГ маладая амэрыканка пасьля такіх прызнаных аўтарытэтаў па гэтай тэме, і відавочцаў, як Аляксандар Салжаніцын, Густаў Герлінг-Грудзіньскі або Варлам Шаламаў. Сотні, калі ня тысячы, былых вязьняў ГУЛАГу апублікавалі ў той ці іншай форме свае ўспаміны, навукоўцы кшталту Р. Конкўэста й Р. Пайпса прааналізавалі палітычныя й сацыяльныя пытаньні савецкай карнай сістэмы, аднак разуменьня сутнасьці камуністычнага татлітарызму, ягоных прычынаў, ягоных вынікаў на ўзроўні штодзённай сьведамасьці--паболела не нашмат. Дагэтуль грамадскасьць як на Ўсходзе ("Сталін навёў бы парадак", гэтак і на Захадзе жыве пэўнымі міфамі пра камуністычны час. Наконт Захаду асобная размова. Альбэр Камю, выбітны францускі філязоф і пісьменьнік, напісаў: "Як і вы, я лічу ўсе гэтыя [савецкія] лягеры нязноснымі, але гэтак-жа нязносным ёсьць для мяне тое, як карыстае з гэтага буржуазная прэса". Такія й падобныя погляды адчула на сабе і аўтарка кнігі, пішучы ва ўступе, як адзін з яе артыкулаў быў адхілены (у 1994 г.!) брытанскім рэдактарам як "занадта анты-савецкі", а другі артыкул (у рэспэктабэльным часапісе "Таймз Літэрары Саплымэнт") выйшаў у абрэзаным выглядзе. Нажаль, альянцтва ў часы змаганьня з нацызмам і папулярная падчас вайны выява "Дзядзькі Джо" Сталіна дагэтуль часам не даюць аб'ектыўна прааналізаваць існасьць расейска-камуністычнай тыраніі. Чым адрозьніваецца камунізм ад нацызму - гэтае простае, на першы погляд, пытаньне аўтарка задала сабе ў Празе, бачачы, як сотні турыстаў з ахвотай куплялі значкі й сакольі з сярпом і молатам. "Ці сталі-б яны гэтак-жа ахвотна, зь весялосьцю, купляць свастыкі? Напэўна не. Чаму-ж адзін сымболь масавага вынішчэньня людзей выклікае ў нас жах, а другі-толькі сьмех?" Вынікам адказу на яго стала гэтая кніга. Гэта ня ёсьць проста лёгкі экзэрсыс цікаўнага розумуаўтарка, журналіст і аўтар кнігі пра Ўсходнюю Эўропу, мае дастаткова і журналісцкага, і дасьледчыцкага, і ўласнага падарожнага досьведу, каб брацца за тэму. Пісала яна і пра Беларусь, як у асобных артыкулах у выданьнях кшталту лёнданскага "Спэктэйтара", гэтак і ў разьдзелах сваёй папярэдняй кнігі (адзін зь якіх, дарэчы, быў перакладзены ў 1995 г. у "Нашай Ніве").

На падставе колькігадовай працы ў архівах, інтэрвію з былымі вязьнямі, наведваньня мясьцінаў былых лягераў зьявілася праца, якая сыстэматычна аналізуе ўнутраную лёгіку працы савецкай таталітарнай машыны, адсочвае механізмы гэтай працы, дае адстаронены, і таму больш аб'ектыўны погляд на досьвед штодзённага жыцьця людзей па абодва бакі калючага дроту, шырока цытуе з публікаваных і непублікаваных матар'ялаў у падтрымку сваіх тэзаў. З 1929 па 1953 год праз сыстэму савецкіх канцлягероў прайшло каля 18 мільёнаў чалавек, зь якіх 4.5 мільёны загінулі. У сьціслым сэнсе слова, нацыстоўскае вынішчэньне людзей па расавай прыкмеце ня мела дакладнага савецкага адпаведніка, у сэнсе індустрыялізаваных лягераў зьнішчэньня з газавымі каморамі й крэматорыямі. Саветы знаходзілі іншыя спосабы, у якіх, дарэчы, вязьні гінулі ня ў выніку мэтанакіраванай жудаснай эфэктыўнасьці ў асягненьні мэты зьнішчэньня, як было ў нацыстаў (Асьвенцім, Трэблінка), а наадварот, у выніку неэфэктыўнасьці й занядбаньня ў лягернай сыстэме (капальні Калымы й Варкуты). Згодна з аўтаркай, савецкія лягеры былі адмыслова створаныя не для зьнішчэньня, а для рабскай працы. І жыцьцё вязьняў датуль мела для адміністрацыі й усёй сыстэмы ГУЛАГу нейкую вартасьць, дакуль гэтыя вязьні маглі працаваць. Але жахлівы вынік функцыянаваньня нацыстоўскай і камуністычнай лягерных сыстэмаў вельмі падобны - мільёны страчаных у пакутах чалавечых жыцьцяў.

Нажаль, Беларусь засталася збольшага па-за ўвагай дадзенай кнігі. Не ўзгаданыя нават у абшырнай бібліяграфіі сьведчаньні пра ГУЛАГ, якія пакінулі Ф. Аляхновіч, Я. Германовіч, Л. Геніюш. Менавіта зь Беларусі пачаліся масавыя дэпартацыі людзей (палякі ў канцы 1920-х), у Беларусі ўпершыню былі знойдзеныя месцы масавых расстрэлаў ГПУ-НКВД. Курапаты не ўспамінаюцца, хоць аўтарка дакладна ведае пра іх існаваньне - гэта можна вытлумачыць скіраванасьцю кнігі менавіта на "лягерны" аспэкт. Але кніга гэтая, што перакладаецца ўжо, дарэчы, на шэраг іншых моваў, вельмі патрэбная ў Беларусі, дзе, хіба як у ніякай іншай пост-савецкай краіне, спадчына ГУЛАГу засталася амаль нязьмененай і незакранутай. Сёнешні кіраўнік Беларусі ня раз пранікнёна казаў пра Сталіна і савецкую сыстэму, як, дарэчы, знайшліся ў яго добрыя словы й пра Гітлера. Дарэчы, учынкі гэтага дзеяча сёньня ў нечым нагадваюць дзеяньні Сталіна напачатку душагубчай кар'еры, і застаецца толькі спадзявацца, што кар'ера гэтая не адбудзецца. Так будзе лепей і для самага дзеяча, і для беларускага народу. Нязручнасьці й нястачы пасьлясавецкага часу ня мусяць засланіць ад нас усіх жахаў, страт і пакутаў, задушэньня нацыянальнай культуры, вынішчэньня эліты беларускага грамадства, якія прынёс камунізм. Мы мусім, мы павінныя памятаць. "Сталін навёў бы парадак"? Ня дай Бог такога парадку ані нам, ані ворагам нашым.

*Віталь ЗАЙКА*

# Ліст з рожкамі

Firm persuasion that a thing is so make it so.
*Ў. Блэйк "Унія Нябёсаў і Пекла"*

**Юры СТАНКЕВІЧ Ліст у Галактыку Млечны шлях** *Дзеяслоў 1-2002*

Сьвет Станкевічавых твораў заўсёды пазнавальны. Настаўнік фізікі й астраноміі перадае земляку - астранаўту В. ліст, дзе выкрывае памылковасьць шляху чалавецтва і заклікае магутных жыхароў космасу ачысьціць плянэту ад пошасьці. Сэксотка-вычварэнка Ася выкрадае крамолу для ворганаў бясьпекі. Паклёпніка арыштоўваюць, але вызваляюць пад ціскам астранаўта зь цьвёрдым намерам хутка патаемна забіць. Забойству перашкаджае адна з анёлападобных звышістотаў, меркаваных адрасантаў Корбата. Настаўнік нават чуе незразумелы сьпеў, але ягоны далейшы лёс выглядае гэткім-жа безнадзейным, якім яму самому падаецца лёс чалавецтва.

Галоўным героем новай аповесьці Юрыя Станкевіча ня стаў, насуперак прароцтву Генадзя Туровіча ("Зьбіральнік жахаў", ARCHE/ Скарына 4-2001), "звар'яцелы карыстальнік разбэшчанага Інтэрнэту". Андрэй Корбат са згаданых тымжа рэцэнзэнтам "шараговых настаўнікаў і навукоўцаў, апантаных звышкаштоўнымі ідэямі".

Але фірмовы пачак чорнай фарбы запоўнены гэтым разам фарбаю шэрай і някаснай. Сугестыўны стыль, які адзначалі нават непрымірымыя крытыкі пагляду пісьменьніка, адчуваецца на першай старонцы, калі вызваленага Корбата супрацоўнік спецслужбаў праводзіць да цягніка. Далей - сухі пераказ таго, што Юры Станкевіч меў намер апісаць. Акрамя падрабязнасьцяў сэксуальнага жыцьця сэксоткі Асі, жмені фактаў пра Млечны шлях ды паўтарэньня песьмістычных тэзісаў Корбатавай філязофіі чытач нічога больш ня знойдзе.

Апісаньні настолькі невыразныя, што гэта напачатку выглядае адмысловым аўтарскім прыёмам. Безаблічныя істоты гавораць ненатуральна правільнай, стэрыльна-кніжнаю моваю. Астранаўт В. апісвае важную размову з Генэральным так, быццам яны размаўлялі, прасоўваючы друкаваныя паперкі пад зачыненыя дзьверы - няма эмацыйных абертонаў, присутных у сапраўднай размове.

Канцылярска-справаздачны стыль захоўваецца ў поўнай напружаньня (пра што можна адно здагадвацца) сцэне, дзе спэцслужбоўцы абмяркоўваюць вызваленьне Корбата пад ціскам нацыянальнага героя, і старэйшы падштурхоўвае малодшага забіць настаўніка, ратуючы гонар мундуру: "Сьвядома зьмяншаючы віну Корбата, што нам зразумела, ён (астранаўт), хацеў таго ці не, зрабіў замах на ўсіх нас, спробу дыскрэдытаваць нашу працу." Малодшы-ж нават у думках не рэагуе на паток начальніцкага канцэлярыту і дэмагогіі, быццам за апавядальніка - непасрэднага ўдзельніка размовы, яе пераказвае нехта іншы.

*Заканчэньне на бач. 14*

# Нью Ёркаўскі абразок

Мы пазнаёміліся выпадкова. У чаканьні замоўленага я чытаў рацэпт ўпадабанай стравы (спакусьліва выглядала "праская салята": роўныя порцыі смажанай цяляціны, парасяціны, салёных агуркоў, да якіх дадаецца цыбуля, яблыкі, перац, сок цытрыны або воцат, соль усё наразаецца палоскамі і перамешваецца з маянэзай) ён, гучна сёрбаючы нейкую поліўку, ад якой пахла тмінам, шалфеям і яшчэ нечым, старэчымі пальцамі гартаў самаробны блякнот, штораз прыціскаючы старонкі кнэдлікам. Мабыць, нешта я сказаў заголасна, бо, кінуўшы вокам на сваё чытанае, той нетаропка ўзьняў выцьвілыя вільготныя вочы на ўзровень майго ілба ды сказаў: "Ня ўсё, што па-беларуску, можна назваць беларускай літаратурай".

Пачуць гэткае ў невялікай чэскай рэстарацыі на адной з вуліц самага яблычнага гораду было прынамсі нечаканым ды ня зусім лягічным. Ён тыцнуў далоньню ў зэдлік насупраць сябе. Крыху павагаўшыся, я сабраў свае рэчы і перасеў да яго.

- Раю смажаную сьвініну з капустай, - працягваў ён. - Яна тут выключная, быццам у Ражмбэкаў, хрумсьціць і пахне букам. І неадменна з клецкамі, сьлівовымі.

Я ўсё яшчэ пачуваўся неяк нядобра. Але зусім сумеўся, калі на мае запытаньне імя зласьліва блiснуў вачыма:

- От нашто Вам?

Я пачаў казаць пра нейкія свае там зацікаўленьні, маўляў, можа некага Вы ведалі, сустракаліся.

- Так, дзякуй Богу, на людзях жыў, - казаў ён. Нешта ў ягонай манэры гаварыць здавалася штучным, падробленым. - Ведаў Язэпа Вазёрнага, брата нашага Дубоўкі, таксама паэту, Вільгельма Гараўскага, Уласюка Кандрата, прозу пісаў, была такая Ганна Базыленка, паэтка, Тройца Вацлаў, Натальля Шутко, Алесь Ляжневіч, Левін Саламон, Янка Гарбуз, Міхал Ключаноўскі, Захар Бульбяньнік, Беразоўскі, імя ня памятаю. А яшчэ Макар Шалай, Янка Мазуркевіч, Цімох Зарэчны... З адным да сёньня лістуемся.

Анікога ня ведаючы, я паспрабаваў зьвесьці гутарку на жарт:

- Вы, мабыць, Ядвігіна Ш. засьпелі?

- Што за нялюдзкасьць, - пырснула з вуснаў поліўка. - Калі ня клічуце Лявіцкім, дык мусіце ведаць, вашэць, што псэўдонім ягоны - Ядвігін Швагер, з націскам на першым "і", не другім. Але не пра тое гаворка ходзіць. Лепш бярыце еміну.

Напанадворку гамана лілася хвалямі, часам набліжаючыся да нас, часам бадай што зьнікаючы. Куды яна ходзіць, а галоўнае, куды мусіць, я ня меў ані каліва ўяўленьня, таму сьцішыўся. Неўзабаве замоўленае прынесьлі і я далучыўся да стравасьвяткаваньня.

- Ці вашэць ведае Цэнтралпарк? - ініцыятыва была цалкам на ягоным баку, як і адмысловы гляк з танным вінам. Смага ўсё больш цьвяліла, але папрасіць перадаць гляк неяк не выпадала. - Там помнік нашаму Вітаўту стаіць.

- І колькі Вы ўжо тут? - насьмеліўся я на клясычнае. Замест адказу пачуў гняўлівае:

- Немцы былі толькі кароткі час, і іхняя акупацыя была фізычная, - Ён удаў у голас, быццам мы спрачаліся, і спрэчка тая адлічвала гады. - А яны ўвесь час пануюць, і іхняя акупацыя горшая, бо нутраная, духовая. І не кажыце мне!

Я і не казаў. Я падумаў, што ежа неяк яднае зь Сяржуком у Празе, нарэшце аднаўлены часапіс, што у маёй торбе, - з Ірынай у Львове, а гаворка - з Ганнай у Менску. І стары насупраць мяне - на самой справе не на эміграцыі, не ў выгнаньні, а зь нейкай вельмі адказнай місыяй. Зрэшты, зразумела, зь якою: быць першым, працярэбіць дарогу. Між тым, стары працягваў:

- Ці бачылі Статую Волі? Яна зьяўляецца падарункам дзядзьку Сэму ад Марыяны ў Фрыгійскім каўпаку. Стварыў яе францускі скульптар Бартольдзі, а сталёвы падмурак пад яе - Эйфель - бязь вежы якога цяжка ўявіць сабе Парыж. Бадай заўсёды, пры любым надвор'і, Статую, што ўвасабляе сёньня апошнюю надзею вольналюбівага чалавецтва - ЗША, нібы імкнуцца агарнуць чорныя хмары. Аднак хочацца верыць, што паходня ў ейных руках ніколі не пагасне. Таксама, як ніхто ніколі не закрэсьліць выбіты на ейным падмурку верш Эммы Лярус, у якім Статуя Волі зьвяртаецца да "старых краінаў": "Дайце мне вашых стомленых, вашых бядакоў, вашыя масы, што жадаюць вольна дыхаць. Шлеце іх, бясхатніх, патрапаных навалямі да мяне".

Апошнія словы ён казаў ужо ўзьняўшыся, адлічваючы грошы. Потым паклаў блякнот у валізку, матнуў мне галавой і сышоў. Неўзабаве пайшоў і я.

*Станіслаў ГАЛЬКЕВІЧ*

# Смачны куточак

## Дранікі



Так сталася, што страва дранікі зьяўляецца ці не самай вядомай беларускай стравай. Хаця яе беларускасьць вельмі нават умоўная. Дранікі (як і большасьць іншых вядомых беларусам страў з бульбы) трапілі на беларускі стол з жыдоўскай кухні. Любы яўрэйскі хлопчык з малых дзён ведае, што дранікі -- гэта толькі некашэрныя лацкес. Бліны з сырой таркаванай бульбы займаюць пачэснае месца і ў літоўскай кухні. Праўда нашы паўночныя суседзі больш паважаюць дранікі зь мясам. Ну ды ладна, пра тых суседзяў. Робім дранікі.

**Складнікі:** 12 бульбін, 2 ст. лыжкі мукі, 1\2 шклянкі алею, 2-3 цыбуліны, 100 грамаў сала, 1\2 шклянкі сыраквашы, соль.

**Працэс:** Сырую бульбу дзярэм на дробнай тарцы (зрэшты, з памеркамі таркі можна імправізаваць), дадаць муку, сыраквашу, соль і старанна зьмяшаць. Бярэм патэльню, награем яе моцна, заліваем туды алей (не шкадуючы) і атрыманае цеста выкладаем на патэльню. Дранікі стандарнага памеру атрымліваюцца, калі цеста адмяраць сталовай лыжкай. Абсмажаныя (і амаль гатовыя) дранікі, перакласьці з дробнасечанай і абсмажанай сумесьсю з цыбулі і сала, і паставіць іх на кароткі час у цёплую духоўку.

*http://cooking.draniki.com*

**Віншуем Старшыню Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Антона Шукелойца з 88-годзьдзем. Жадаем моцнага здароў'я, шмат энэргіі й, як раней казалі: "Сто гадоў!".**

**Вітаем Галаву Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы Ўладыку Юрыя з 70-годзьдзем і зычым добрага здароў'я і вытрыманасьці на Божай ніве.**



*Слухаць беларускія радыёперадачы з ангельскага гораду Брадфарду можна ў Real Audio кожны панядзелак ад 5.30 да 6.00 папаўдні па ангельскім часе на старонцы www.bcb.yorks.com*

*Выказваем падзяку спн. Ліліі Сазанавец, сп. сп. Пётру Грыгальчыку, Багдану Паўку, Уладзімеру Лемеху за дасланыя матар'ялы.*

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Н. Рагуля | .50 |
| В. Мароз | .40 |
| К. Акула | .30 |
| Л. Брылеўская | .30 |
| Л. Жумігіна | .30 |
| Л. Стагановіч | .30 |
| Ю. Стагановіч | .30 |

**Справаздача ад спн М. Мароз з Заходняй Аўстраліі:**

| | |
|---|---|
| М. Раецкі старэйшы аўстр. $ | 90 |
| А. Бразоўскі | .50 |
| У. Ласкевіч | .50 |
| А. Мароз | .50 |
| М. Мароз | .50 |
| М. Міхал | .50 |
| А. Ніжнік | .50 |
| М. Раецкі малодшы | .50 |
| Беларускае Аб'еднаньне ў Заходняй Аўстраліі | .60 |

**У памяць Алега Дубягі:**

| | |
|---|---|
| Л. Літаровіч | 30 |

**Усім шчыры дзякуй!**


**БЕЛАРУС**

*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*

**Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**

**Падпіска $30 на год.**

**Чэкі выпісвайце на BIELARUS**

**BIELARUS**

*Belarusan Newspaper in the Free World*

**Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**

**Subscription $30 yearly**

**Make checks payable to BIELARUS**

**Рэдагуе калегія.**

*Адказны рэдактар*

**Марат Клакоцкі**

*Падпіска*

**Сяргей Трыгубовіч**

*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

**Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.**

**© BIELARUS, 2003**

**Адрас для допісаў і кантактаў:**

BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

**E-mail:**

hazetabielarus@att.net

**Сусьветнае сеціва:**

www.bielarus.org

**Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.**